Змест

# Уводзіны

Хрысціянства сталася адным з вырашальных чыннікаў у станаўленні беларускай нацыі, яе свядомасці, этыкі маральнасці. На сённяшні дзень немагчыма нават памысліць беларускую культуру без яе хрысціянскага складніка, як немагчыма і памысліць асобу беларускага хрысціяніна, пазбаўленую нацыянальнага кораню.

Азіраючыся на гістарычны шлях нашай Бацькаўшчыны можна з упэўненасцю сказаць, што беларускі народ быў настолькі цывілізваным і пасяховым, на колькі ён быў здольны адгукацца на хрысціянскую місію, на колькі дзейснымі ў ім былі рухі, абуджаныя Святым Духам, на колькі актыўнай была асьвета і, немалаважна, наколькі самі хрысціянскія прапаведнікі былі ў міры паміж сабою. У гэтым сэнсе гісторыя Беларусі цалкам падцвярджае сабою біблійнае аб'яўленне аб тым, што народ перажывае ўздым, калі мацнее яго дух і вернасць Богу, і наадварот – духоўная распуста і здрада прыводзяць да глыбокага заняпаду.

Як у часы Старога Запавету, так і цяпер, Гасподзь разварочвае сваё дзеянне ў гісторыі. Разуменне гэтаг дзеяння – важная прыступка якая падводзіць да ўведамлення Ягонай волі аб нашым народзе і кожным з нас асабіста. Таму любому хрысціяніну жыццёва неабходна ведаць не толькі шляхі ранняй апостальскай царквы, якія апісаныя ў кананічных кнігах Новага Запавету, але і гісторыю хрыстовай пропаведзі на сваёй зямлі.

Кніга, якую Вы трымаеце ў руках паклікана дапамагчы беларускім вернікам зрабіць першыя крокі ў разуменні духоўнай гісторыі нашай Бацькаўшчыны. Яна створана як водгук на жаданне прадстаўнікоў розных хрысціянскіх канфесій стаць больш дасведчанымі ў гэтай галіне. Гэта спроба адказаць на пільную патрэбу, якая усё больш і больш вспявае ў праваслаўных, каталіцкіх і пратэстанцкіх супольнасцях – патрэбу ведаць свае карані, памятасць сваіх папярэднікаў, якія заклікалі Госпаднае імя і абвяшчалі Ягонае слова ў часы нашых дзедаў і прадзедаў.

Аўтар не прытэндуе на адмысловыя навуковыя адкрыцці. Факты, выкладзеныя ў кнізе, можна знайсці ў падручніках, энцыклапедыях і перыядычным друку. Проста яны сістэматызаваныя такім чынам, каб чытачу было зручна пабычыць шляхі развіцця беларускага хрысціянства.

Пры размове на тэму гісторыі царквы на той ці іншай тэрыторыі, у цэнтры ўвагі часцей за ўсё знаходзіцца царква як інстытуцыя. Гаворка вядзецца пра паўстанне і развіццё канфісійных структур, іх узаемаадносіны з дзяржавай і іншымі канфесіямі. У гэтай кнізе мы паспрабавалі адыйсці ад гэтага звычаю і засяродзіць сваю ўвагу на тых рухах, якія нараджаліся і развіваліся ў асяроддзі царкоўнага люду. На тых рухах, якія абудзаліся

Госпадам Святым Духам і аказалі на станаўленне дзейснага, а не фармальнага хрысціянства.

# Тэма 1 Перыядызацыя

## *Пытанне 1 Што такое перыядызацыя і на чым яна грунтуецца?*

Плынь часу не мае ў сабе разрываў і ход гісторыі нельга падзяліць на кадры і серыі, нібыта кінастужку. Аднак асэнсаванне гістарычнага працэсу немагчымае без выдзялення ў ім пэўных перыядаў. Разбіўка на перыяды атрымала ў навуцы назву перыядызацыі. Стварэнне перыядызацыі з'яўляецца складанай і важнай працай. Яна не можа быць выканана чыста "матэматычна" – дзесяцігоддзе, стагоддзе, тысячагоддзе. У аснове перыядызацыі павінныя ляжаць істотныя перамены, якія адбываюцца ў жыцці чалавечага грамадства і абазначаюць межы перыядаў. Натуральна, што ацэнка значнасці такіх пераменаў будзе ў пэўнай ступені (хаця і не ва ўсім) залежыць самога гісторыка.Таму і перыядызацыі аднаго і таго ж працэсу могуць быць розныя. Яны будуць залежыць ад таго, якім менавіта падыходам карыстаецца той ці іншы даследчык.

Што датычыць гісторыі царквы на на Беларусі, тут можна заўважыць некалькі падыходаў. Кожны з гэтых іх адрозніваецца не толькі ракурсам з якога разглядаецца царква ў гісторыі, але і напаўненнем самога панятку "царква".

У большасці выпадкаў царква разглядаецца ў першую чаргу як установа ці арганізацыя., у выніку чаго ў фокусе ўвагі гісторыяпісца аказваюцца палтычныя і эканамічныя дзеянні кіраўніцтва дадзенай установы (ці арганізацыі), узаемадзеянне з дзяржавай, удзел у грамадскім жыцці і г.д.[i] Гэты падыход зручны пры вывучэнні грамадзянскай гісторыі, аднак уласне для гісторыі Царквы ён аказваецца яўна недастатковым. Справа ў тым, што інстуцыянальны падыход не бярэ да ўвагі духоўную, асабовую сутнасць Царквы. Успрыманне царквы толькі як установы ў палітычнай прасторы дзяржавы стварае рызыку пакінуць гісторыю хрысціянства як гэткага на абочыне гістарычнага даследвання. Узнікае небяспека выключыць з разгляду хрыціянскую царкву саму па сабе з яе духоўнасцю, ментальнасцю і самаадчуваннем – застаецца толькі голая структура, якая атрымлівае найменне царквы, хаця не заўсёды аказваецца тоеснай Царкве ва ўласне хрысціянскім сэнсе.

Прыхільнікі іншага – агіяграфічнага падыходу – разглядаюць гісторыю хрысціянства як гісторыю святых. Гэты падыход станоўча адрозніваецца ад папярэдняга больш уважлівымі адносінамі да асобы. Больш за тое – асоба ў дадзеным выпадку стаіць у

цэнтры ўвагі гісторыяпісца, а ўсе астатнія аспекты гістарычнага быцця (культурнае, палітычнае, тэалагічнае і бытавое акружэнне) успрымаюцца праз прызму асобы. Гістарычная царкава ў гэтым выпадку прадстаўляецца нам як збор выбітных людзей і іх паслядоўнікаў. Гэты падыход куды больш блізкі да ўласне хрысціянскага разумення царквы, чым папярэдні. Пры выкарыстанні агіяграфічнага падыходу ствараецца не толькі мастацка-публіцыстычная жыційная літаратура але і выдатныя гістарычныя даследванні. Найбольш яркім аўтарам беларускай навуковай агіяграфіі з’яўляецца Аляксей Мельнікаў[ii]. І ўсё ж агіяграфічны падыход, пры ўсіх перавагах, малапрыгодны для выяўлення агульных заканамернасцяў, па колькі ў гэтым выпадку будзе складаць эклектычную карціну. Праблемай абодвух апісаных вышэй падыходаў з’яўляецца тое, што панятак “царква” міжвольна ў іх абмінае большую частку хрысціянаў – простых міранаў і манахаў. Яна (царква) як бы робіцца трэцяй асобай для іх. Пры першым падыходзе гэта асоба “юрыдычная”, а пры другім – асобы абраных. Аднак ці магчыма адэкватна зразумець гістарычную з’яву, расчляніўшы яго такім грубым чынам. Зразумела, што ў дадзеным выпадку мы аказваемся ў вельмі двухсэнсоўным становішчы З аднаго боку – фармальная прыналежнасць да той ці іншай царквы (факт хрышчэння) не заўсёды цягне за сабою наяўнасць царкоўнай ментальнасці, хрысціянскага вобраза думак і паводзінаў. З іншага боку – заняцце пэўнай царкоўнай пасады таксама не з’яўляецца гарантыяй царкоўнасці ў сапраўдным сэнсе слова. Такім чынам, мы ізноў сутыкаемся з праблемай, якая непакоіць тэолагаў і даследчыкаў царкоўнай гісторыі ўжо шмат стагоддзяў – праблемай межаў царквы. Кажучы вобразна, царква уяўляецца ў гісторыі як воднае люстра з няпэўнымі абрысамі. Аднак, калі мы не можам дакладна усталяваць межы гэтага люстра, то можам заўважыць у ім водныя плыні, скіраваныя у пэўным напрамку.

Цалкам новым ў гістарычнай літаратуры з'яўляецца разляд царквы як сукупнасці духоўных рухаў. Пры дадзеным падыходзе даследчык сыходзіць ад непажаданага падзялення царквы на «прафісійных хрысціянаў» і «хрысціянаў-аматараў».

Спроба даць вызначэнне панятку «духоўны рух» і пераасэнсаваць з гэтых пазіцый гісторыю хрысціянства была зробленая маскоўскімі гісторыкамі царквы С. Зайденбергам і В. Котам[iii]. Па словах аўтараў «у праваслаўнай экклезіялогіі слова рух і яго канкрэтызацыя духоўны рух не з'яўляецца устойлівым тэрмінарам, які б абазначаў пэўную з'яву,… Аднак, не гледзячы на крайнюю размытасць тэрміна, як з рэшты, і абазначаных ім з'яваў, можна выдзеліць тры больш менш канкрэтныя рэаліі, якія з рознай ступенню часціні ў гістарыяграфіі носяць найменне «духоўныя рухі»: 1) Навуковая, багаслоўская ці філасофская плынь ці школа, 2) царкоўная, грамадская ці культурная скіраванасць, тэндэнцыя, якую можна ахарактэрызаваць пэўнымі хваляваннямі, развагамі, пошукамі,

але якая не аформілася, не выкрышталізавалася, не знайшла арганізацыйных форм, 3) уласне грамадскі ці царкоўны рух, які мае свае пэўныя межы і мэты"[iv].

Слова "рух" па сваёй сутнасці супрацьлеглае "застою". Таму і духоўны рух у царкве, паводле азначэння, мусіць супрацьстваяць застою і ў царкоўным жыцці. Таму ён заўсёды звязаны з пакаяннем хрысціянаў у той ці іншай канкрэтнай галіне жыцця царквы, якая не адпавядае Евангеллю. У гэтым сэнсе духоўны рух – гэта заўсёды вяртанне да жыцця па Евангеллі. Пакаянне пры гэтым з'яўляецца не толькі асабістай справай кожнага ўдзельніка руху – яно звязанае з прыняццем на сябе адказнасці за ўсю царкву альбо за канкрэтнае служэнне ў ёй[v]. Безумоўна, гэта не можа ажыццяўляцца без адмысловай харызмы, без непасрэднага натхнення Духа Святога. Таму кожны духоўны рух мае ў сваёй аснове прароцкае бачанне, якое можа адкрывацца праз асобу заснавальніка, ці праз усю супольнасць удзельнікаў руха.

Па колькі рух звязаны з непасрэдным натхненнем Духа, ён звычай носіць эсхаталагічны[1], крызісны[2], але пры гэтым і творчы характар, неразрыўны з пошукам новых шляхоў царкоўнага жыцця, захоўваючы пры гэтым пераемнасць і традыцыю[vi]. Духоўны рух ахоплівае розныя пласты царкоўнага народа (альбо ўплывае на іх). Ён часта дзейнічае незалежна ад іерархіі, хаця і не выступаючы спецыяльна супраць яе. Рух мае ясныя межы, якія пры гэтым не заўсёды фармальна акрэсленыя. Часта гэтыя межы выяўляюцца пад час ганенняў, бо амаль кожны духоўны рух (асабліва на сваім пачатку) звязаны з цярпеннем пакутаў за царкву[vii].

## *Пытанне 2 Якія перыяды варта выдзеліць у гісторыі хрысціянства на Беларусі?*

Пачатак евангельскай місіі на Беларусі нельга адзначыць нейкай пэўнай датай. Некаторыя летапісныя паданні гавораць пра наведванне Беларусі апосталам Андрэем (загінуў каля 70 году)[viii]. Але пры ўсёй смеласці, нават гэтыя паданні не адважваюцца казаць аб тым, што ён ажыццяўляў тут місію. У лепшым выпадку гаворка ідзе пра тое, што ён проста плыў па Дняпры. Нажаль, да гэтуль няма ніякіх пераканаўчых сведчанняў пра пропаведзь Евангельля сярод славянскіх і балцкіх плямёнаў ажно да дзесятага стагоддзя нашай эры. Праўда, сярод археалагічных знаходак восьмага і дзевятага стагоддзя можна заўважыць прадметы хрысціянскага культа – крыжыкі, абразкі. Гэта значыць , што старажытныя насельнікі Беларусі ў гэты час ужо мелі кантакты з тагачасным "хрышчоным светам".

[1] Эсхаталагічны – звязаны з канцом часу і наступленнем Валадарства Божага.

[2] Слова "крызіс" часта звязваюць толькі з адмоўнымі з'явамі. Насамрэчэ крызіс у хрысціянскім разуменні гэта суд, то бок аддзяленне дабра ад зла. У гэтым сэнсе любая праўдзівая сустрэча з Богам ёсць крызіс-суд, які прыводзіць да ачышчэння.

Аднак нажаль менавіта толькі кантакты[ix]. Самыя важныя археалагічныя сведкі рэлігійнай прыналежнасці – пахаванні застаюцца ў гэты час выключна паганскімі. Хаця, ужо бліжэй да канца дзевятага стагоддзя, можна заўважыць прысутнасць на Беларусі хрысціянаў[x]. Пераважна гэта былі скандынаўскія наёмнікі, якія вярталіся са службы ў Віззантыі і часам асядалі на беларускіх землях. Некаторыя з гэтых наймітаў былі хрысціянамі. Аднак ізноўку ж – яны былі чужымі на нашых землях.

Рэальны прарыў хрысціянства на тэрыторыю Беларуі адбыўся менавіта тады, калі новая славяна-варажская арыстакратыя, стварыўшы моцныя княствы, адчула патрэбу "легалізаваць" сваю высакароднасць праз сувязі з канстантынопальскім дваром[xi]. На той час Кастантынопаль як цэнтр усходняй рымскай імперыі яўляў сабой па-сутнасці адзіны цэнтр рэальнай цывілізацыі. Заходняя рымская імперыя была скорана варварамі, а самі варварскія дзяржавы яшчэ не набралі дастатковага культурнага багажу. Таму, сцвердзіўшыся на гандлёвых шляхах, славяна-варажскія князі сталі прыкладаць намаганні па ўваходжані ў сферу цывілізванага свету, "ікумены". Найбольш актыўныя намагані ў гэтым сэнсе прыкладала жонка кіеўскага князя Ігара Вольга (+969) і яе ўнук Уладзімір Святаславіч (960–1015) [xii]. Ведучы перамовы з Візантыяй, Вольга прыняла ў 955 годзе хрысціянства – рэлігію цывілізванага Канстантынопаля. Менавіта дзякуючы яе палітыцы хрысціянскія місіянеры ў першыню атрымалі магчымасць працаваць сярод аўтэнтычнага насельніцтва Беларуі[xiii]. Па загадзе Вольгі на месцы княжацкіх "пагостаў" (стаянак для збору даніны) пачалі ўладкоўвацца хрысціянскія храмы. Існуе летапіснае паданне пра заснаванне княгіняй Вольгай горада Віцебска. У новым горадзе адразу ж былі закладзныя дзьве праваслаўны святыні[xiv].

Князь Уладзімер працягнуў справу сваёй бабулі, аднак прыродная ваяўнічасць харакра выразілася ў жаданні цалкам пакончыць з паганствам і прымусіць падуладныя яму плямёны да прыняцця "цывілізаванага" хрысціянства за адно пакаленне. У 988 годзе ён з выкарыстаннем сілы ажыццявіў масавыя хрышчэнні ў Кіеве і Ноўгарадзе[xv]. Нягледзячы на краюнюю трагічнасць гэтых здарэнняў, яны паклалі пачатак хуткаму распаўсюду новай веры у тым ліку і на на беларускіх землях (Уладзімеру тады быў тады падпарадкаваны Тураў і, верогодна, Полацк ці прынамсі частка полацкага княства). Напрацягу двух дзесяцігоддзяў на нашай тэрыторыі былі заснаваныя Полацкая (каля 992) і Тураўская (1005) епархіі[xvi]. Пры іх амаль адразу ж узніклі школы, якія сталі распаўсюджваць пісьменства. Па беларускіх землях разышліся многія і многія святары-місіянеры. На месцы паганскіх капішчаў пачалі будавацца хрысціянскія храмы[xvii].

Праз блізкасць моваў маладое беларускае хрысціянства магло чэрпаць поўнаю жменяй са скарбонкі паўднёваславянскай кніжнасці. А на той час славянская літаратура была адной з

самых багатых у Еўропе. Паўднёваславянская царква была з большага плодам духоўнага руху, заснаванага братамі-прапаведнікамі Кірылам (827–869) і Мяфодзіем (815–885)[xviii]. Трэцяе ці чацьвёртае пакаленне іх вучняў, атрымаўшы санкцыю княжацкай улады, скіравалася з місіяй на беларускія землі. З гэтай нагоды першы перыяд у гісторыі хрысціянства мы будзем называць ***кірыла-міфодзіеўскім перыядам***. Калі палітычны інтарэс княжацкай улады быў умовай місіі, то праца наступнікаў Кірыла і Мяфодзія была яе сутнасцю. Менавіта дзякуючы іх намаганням евангельская вера пачынае ўкараняцца ў сэрцах старадаўніх беларусаў і ў хуткім часе прыносіць свае плады – перамену звычаяў, станаўлеене манаства, узнікненне мясцовай літаратуры і жывапісу[xix]. Ніжнюю мяжу кірыла-мяфодзіеўскага перыяду мы абазначчм другой паловай IX стагоддзя, калі першыя місіянеры з епіскапства святога Мяфодзія маглі пранікнуць на тэрыторыю Беларусі. Верхняй мяжой будзе другая палова XI стагоддзя, калі беларускае хрысціянства пачало прыносіць архіялагічна заўважныя плады – адмову ад паганскіх пахавальных звычаяў, творы пісьменства і храмавай архітэктуры.

Далейшы распаўсюд і ўкараненне хрысціянства быў звязаны з развіццём тутэйшых асветніцкіх рухаў, стрыжнем якіх было манаства[xx]. У таго, што менавіта манахам належыла цэнтральная роля ў сярэднявечным хрысціянстве, былі свае сур'ёзныя прычыны. Спалучэнне рэальнай хрысціянскай місіі з гвалтоўным навязваннем хрышчэння з боку вайсковай арыстакратыі (князёў і баяраў) прывяло да ўзнікнення вялікай колькасці "двоеверцаў" – людзей, якія з аднаго боку вызнавалі сябе хрысціянамі, з іншага боку прытрымліваліся язычніцкіх звычаяў і нават аказваалі пакланееннe паганскім багам[xxi]. Гэтая сітуацыя вельміі турбавала шчырых хрысціянаў, якія жадалі да канца прысвяціць сябе аднаму толькі праўдзіваму Богу. Адзіным шляхам для іх у тых умовах было манаства. Пры чым манаства не “прыдворнае”, а радэкальнае, евангельскае. Перакананыя хрысціяне зыходзілі з гарадоў, пасяляліся ў простых зямлянках, альбо цесных каменных кельлях і аддаваліся малітве і цяжкой працы, кормячыся “пладамі рук сваіх”. Менавіта манаства ўспрымалася (і гэта часта адпавядала рэчаіснасці) як паўнавартаснае хрысціянства, "хрысціянства да канца". Гэтай максімай жылі насельнікі Кіева-Пячэрскай лаўры, заснаванай прападобным Феадосам (1036–1074) [xxii]. Менавіта там атрымаў евангельскае цэлы шэраг духанос ных полацкіх і тураўскіх святіцеляў. Блізкай традыцыі прытрымліваўся і прадстаўніцы руху полацкіх асветніц, заснаванага прападобнай Еўфрасінняй (1110–1173). Значэнне гэтых двух магутных евангельскіх плыняў (кіева-пячэрскай і полацкай) для беларускага хрысціянства цяжка пераацаніць. Таму наступны перыяд пасля Кірыла-Мяфодзіеўскага мы назавем ***Феадосіеўска-Еўфрасіньінскім перыядам***. Яго пачатак мы будзем звязваць са станаўленнем "уласнага"

усхонеславянскага манаства ў другой палове адзінаццатага стагоддзя. У гэты ж час пачынаюць з'яўляцца першыя творы мясцовай хрысціянскай літаратуры, якія хаця і наслеўуюць візантыйскім і баўгарскім узорам, усё ж маюць і самабытныя, нацыянальныя рысы[xxiii]. Дзякуючы асветніцкай працы прадстаўнікоў манаскіх рухаў гэтага перыяду хрысціянства глыбока засвойваецца славянскім насельніцтвам на беларускіх землях.

Важна адзначыць, што манаства не было замкнутым у сценах манастыра – яно актыўна служыла людзям у свеце, выклікаючы духоўнае абуджэнне ўсёй царквы. Паказальна, што святіцель Кірыла Тураўскі (1130 – 1183) у сваіх казанях заклікае не толькі клірыкаў, але кожнага хрысціяніна без выключэння далучыца да справы пропаведзі евангельля паганцам і двоеверцам: "калі маеце суседа, ці родзіча, ці жонку, ці дзетак – запрашайце ўсіх у царкву"[xxiv]. Прападобная Еўфрасіння і Лаўрэнці Вайшэлак (+1269), будучы манахамі актыўна ўдзельнічалі ў вырашэнні дзяржаўных праблем і спрыялі ўсталяванню міра[xxv].

К другой палове чатырнаццатага стагоддзя праваслаўнае хрысціянства робіцца звычайным для славянскага насельніцтва Беларусі. Магчыма з гэтай нагоды, Гасподзь палічыў магчымым адкрыць нашаму народу большыя містычныя глыбіні. Дзякуючы дзейнасці святіцеля Кіпрыяна Цымблака (+1406) на Беларусі з'яўляюцца духоўны рух ісіхастаў. Гэта быў рух прароцкай цішыні, які прапаведваў надзвычайную бшізкасць чалавека і Бога. Бадай што самым любімым чытаннем набожных беларусаў з гэтага часу робяцца творы Васіля Вялікага і Сімеона Новага Багаслова. У манастырах засвойваецца практыка чыстай малітвы[xxvi].

Ісіхасты распачынаюць актыўную працу па збіранні мясцовай спадчыны. Дзякуючы ім былі аднойдзеныя і захаваныя творы Кірылы Тураўскага, адрэдагавана і размножана літаратура, якая распавядала пра мясцовых святых. Адбываецца паляпшэнне царкоўнай дысцыпліны. Напрыклад, святіцель Кіпрыян дамогся забароны судовых двубояў. За цяжкія грахі і распусту былі ўведзеныя епеціміі – часовае адлучэнне ад прычасця[xxvii].

У гэты ж час на заходніх землях Беларусі пачынаецца станаўленне рыма-каталіцкай царквы. Масавыя хрышчэнні балцкага насельніцтва ажыццяўляюцца князем Ягайлам у 1387 годзе. Ствараецца віленскае бікупства – першая каталіцкая дыяцэзія на тэрыторыі Беларусі. Важную ролю ў пропаведзі сярод беларускага балцкага насельніцтва адыгрываюць прадстаўнікі ордэнаў дамініканцаў і францысканцаў[xxviii]. Цікавым радком у гісторыі касцёлу на Беларусі з'яўляецца ордэн бенедыктыцаў чэшскага паходжання. Гэты заходні манаскі рух на вялікую долю захоўваў кірыла-мяфодзіеўскую спадчыну, славянскую мову ў багаслужбе і старадаўнюю духоўнасць, якая ўзыходзіла да егіпецкіх

айцоў-аскетаў. Маладое беларускае каталіцтва таксама адчувала моцны ўплыў пражскага духоўнага абуджэння і народжанага ім гусіцтва[xxix].

У пятнаццатым стагоддзі беларускія каталікі і, часткова, праваслаўныя актыўна ўключаюцца ў агульннаеўрапейскі саборны рух. Дэлегацыі скіроўваюцца на Канстанцкі, Базыльскі і Ферара-Фларэнтыйскі сабор[xxx]. Прадпрымаюцца няўдалыя спробы з'яднання усходняй і заходняй царквы пасля пяцісотгадовага расколу. Сама рыма-каталіцкая царква пры гэтым пераадольвае ўнутраны раскол і іншыя крызісныя з'явы[xxxi].

Такім чынам, у другой палове чатырнаццатага – першай палове пятнаццатага стагоддзя самымі ўплвовымі царкоўнымі рухамі на Беларусі быў усходні ісіхазм і заходні саборны рух. Таму мы вырашылі назваць гэты перыяд ***перыядам ісіхазма і саборнага руху***.

Яго ніжняй мяжой будзем лічыць 1376 год, калі свяціцель Кіпрыян заняў кафедру кіеўскага мітрапаліта. Верхняй мяжой будзе год 1458, калі на Беларусі пачалі ўзнікаць першыя царкоўныя брацтвы, характэрныя для наступнага перыяду.

Канец пятнаццатага і ўсё шаснаццатае стагоддзе часта называюць эпохай Рэфармацыі. Гэты час адзначыўся рэзкім павышэннем удзелу простых міранаў у царкоўным жыцці. Сімвалам эпохі становяцца гарадскія Брацтвы, якія ўзнікаюць у праваслаўнай і каталіцкай царкве. Таму гэты перыяд мы будзем называць ***перыядам Брацтваў***. Брацкі рух ахоплівае мяшчанства і шляхту ва ўсіх буйных гарадах Беларусі. Брацтвы, будучы самі па сабе пладамі адукацыі, актыўна спрыяюць распаўсюду хрысціянскай асветы. Вынаходніцтва друкарскай штукі прыводзіць да зніжэння коштаў на кнігі. Гэта робіць іх даступнымі куды большай колькасці людзей. Праваслаўныя брацтвы, асабліва пасля надання некаторым з іх правоў патрыяршай стаўрапігіі (1588), набылі надзвычайны ўплыў у царкве[xxxii]. Манаскія рухі пры гэтым адступаюць на другі план. Многія гісторыкі кажуць пра глыбокі крызіс манаства ў гэтую пару. Але такія выказванні справядлівыя толькі на на пэўную долю. Проста, калі да гэтага манастыры апекаваліся патрэбамі ўсёй царквы, то цяпер самі манастыры аказваюцца пад апекай міранскіх Брацтваў. Але пры гэтым яны ўсё адно манаскія сялібы застаюцца цэнтрамі кніжнасці і духоўнасці[xxxiii]. Такім чынам праваслаўныя брацтвы з "падшэфнымі" манастырамі, бяручы на сябе адказнасць за ўсю царкву, ажыццяўлялі ў ёй саборную ўладу.

Каталіцкія брацтвы, у адрозненне ад праваслаўных мелі куды меней свабоды і знаходзіліся ў падпарадкаванні не толькі епіскапату, але і парафіяльных пробашчаў. Тым не менш яны таксама выконвалі ролю збірання царквы, стваралі магчымасць для ўзаемнага служэння хрысціянаў, распаўсюду асветы, ажыццяўлення катэхезы[xxxiv].

Гаворачы пра Беларусь шаснаццатага стагоддзя, нельга абмінуць з'яўленне на ёй пратэстанцкіх рухаў і паўстання евангелічных цэркваў. Найбольш традыцыйны

рэфармацыйны накірунак, заснаваны Марцнам Лютарам не прыжыўся на Беларусі[xxxv]. Ён закрануў толькі нямецкія дыяспары. Затое вялікую папулярнасць сярод магнетэрыі набыў кальвінізм – рух, заснаваны жэнеўскім прапаведнікам Жанам Кальвінам (1509 –1564)[xxxvi]. Першыя супольнасці гэтага руху з’яўляецца на Беларусі ў 1540-х гадах. Аднак усяго за дзесяцігоддзе кальвінізм пры падтрымцы Мікалая Радзівіла Чорнага, Мікалая Паца і іншых уплывовых абшарнікаў ахоплівае ўсе землі Вялікага Княства Літоўскага[xxxvii]. Прыхільнікамі кальвінізму была ў асноўным шляхта, хаця ў буйных цэнтрах рамесніцтва важную ролю ў супольнасцях адыгрывалі гараджане[xxxviii]. Для кіравання зборамі у 1560-х гадах быў створаны сінод літоўскай правінцыі, які падзяляўся на шэсць дыстрыктаў[xxxix]. Праца кальвініскіх прапаведнікаў істотна павысіла ў беларускім грамадстве інтарэс да хатняга чытання і падрабязнага вывучэння Бібліі. Аднак у 70-я гады шаснаццатага стагоддзя евангелічную царкву напаткаў крызіс, звязаны з рапаўсюдам антытрынітарнай ерасі[xl]. У гэты ж час распачынаецца актыўная контрмісія рыма-каталіцкай царквы, якая істотна знізіла ўплыў кальвінізму ў далейшыя перыяды[xli].

Антыпратэстанцкая і антыправаслаўная контрмісія была звязаная з контррэфармацыяй, якая ў гэты час распачынаецца ў касцёле. Стрыжнем контррэфармацыі стала рэгула езуітаў – адзін з найбольш паспяховых місіянерскіх ордэнаў. Езуіты прынеслі на тэрыторыю Беларусі вышэйшую адукацыю еўрапейскага ўзору, а таксама хрысціянскі тэатр і мастацкую культуру барока. Аднак іншых бокам іх дзейнасці была барацьба супраць іншых хрысціянскіх канфесій[xlii].

Для падпарадкавання праваслаўнага насельніцтва Беларусі ўладзе рымскай царквы, езуіты вырашылі выкарыстаць аб’яднаўчыя ідэі, якія выказвалі дзеячы розных канфесій. У 1596 годзе з апорай на найбольш клірыкалістычна настроены епіскапат, які быў незадаволены свабодай і паўнамоцтвамі брацтваў, езуітам удалося рэалізаваць праект лакальнай уніі – далучэння часткі праваслаўнай царквы да рыма-каталіцкай[xliii].

Аднак унія была прынята не ўсімі праваслаўнымі ВКЛ. Гэта прывяло да абвастрэння праваслаўна-каталіцкага супрацьстаяння, якое паступрива разгарэлася ва ўзброеныя сутычкі (1621, 1623) і нават паўнамаштабныя войны (1648 – 1653). Наступ контррэфармацыйнага каталіцтва на іншыя хрысціянскія канфесіі ўзмацняўся з кожным дзесяцігоддзем. З гэтай прычыны перыяд ад казацкай вайны (1648) да апошняга падзелу Рэчы Паспалітай (1795) мы будзем называць перыядам ***радэкальнай контррэфармацыі***. За час перманентных ганенняў з боку рыма-каталікоў на тэрыторыі Беларусі былі амаль знішчаная праваслаўная і кальвінская царква[xliv]. Аднак захавальнікам усходняй традыцыі праваслаўнай духоўнасці і беларускай нацыянальнай самасвядомасці сталася ўніяцкая царква. Таму ўдругой палове васемнаццатага стагоддзя з боку каталікоў рымскага абраду

(пераважна езуітаў) пачалі прадпрымацца захады па яе лацінізацыі і апалячванні[xlv]. Пастаянныя звады паміж хрысціянамі розных канфесій не маглі не прывесці Рэч Паспалітую да гуманітарнай катастрофы. Краіну разрывалі грамадзянскія войны, эпідэміі і напады знешніх ворагаў, што ўрэшце прывяло да гібелі дзяржавы.

Заняцце беларускіх земляў Расейскай імперыяй прывяло да аднаўлення праваслаўнай царквы ў правох і пераходу яе з дэсідэнцкага на пануючае становішча. Да яе далучылася вялікая колькасць уніятаў. Аднак Расейская царква была не цалкам свабоднай. Уся царкоўная структура была падпарадкавана свецкай уладзе на ангельскі ўзор. Патрыярха не было. Кіраванне царквой ажыццяўляла калегія епіскапаў, прызначаных імператарам. Дзяржава імкнулася выкарыстоўвць царкву як свой ідэалагічны рупар[xlvi]. Гэтыя акалічнасці прыводзілі да фармалізацыі царкоўнага жыцця. Тых праваслаўных, хто спрабаваў супрацьстаяць сістэме часта падвяргаліся пераследу.

І ўсё ж скрозь заслону збюракрытазаванасці і фармальнасці прабіваліся раскі сапраўдных духоўных рухаў[xlvii].

Па-першае дзевятнаццатае стагоддзе для рускай праваслаўнай царквы – гэта перыяд актыўнай усходняй місіі. Многія манахі і міране беларускага паходжання прынялі чынны ўдзел у пропаведзі хрысціянства народам Сібіры, Кітая і Японіі[xlviii].

Па-другое, у гэты ж самы час пачынае актыўна развівацца старчацкі і пустэльніцкі рух. Ён складаўся з духаносных старцаў, надзеленых настаўніцкім (а часам і прароцкім) дарункам. Вакол гэтых старцаў збіраліся вучні з розных пластоў насельніцтва. Часам вучні аб’ядноўваліся ў суполкі з больш-менш дакладнымі межамі, але часцей заўсё ніякіх межаў, акрамя паслухмянасці старцу не было[xlix].

Рыма-каталіцкая царква у часы расейскага панавання перайшла на правы рэлігійнай меншасці. Адносіны з імперскімі ўладамі складваліся не адназначна. У імператарства Екацярыны II, Паўла I і, часткова, Аляксандра I дзяржаўная ўлада прыхільна ставілася да заходняй царквы. Каталікам дазвалялася займаць дзяржаўныя пасады, развіваць свае навучальныя ўстановы. Аднак становішча змянілася пасля паўстанняў 1830 і, асабліва, 1863 году. З прычыны падтрымкі паўстанцаў з боку каталіцкага духавенства, пачаўся наступ на правы каталікоў[l]. Было канфіскавана і парададзена ў распараджэнне праваслаўнай царквы вялікая колькасць касцёлаў. Каталіцкая шляхта была абмежавана ў правох у параўнанні з праваслаўнай. Гэтыя абмежаванні працягвалі дзейнічаць да 1906 году, калі быў прыняты закон аб верацярплівасці[li].

Другая палова дзевятнаццатага стагоддзя адзначылася станаўленнем на тэрыторыі неапратэстанцкіх рухаў. У першую чаргу гэта былі супольнасці "пашкоўцаў", альбо евангелістаў, якія прытрымліваліся (хаця і не заўсёды паслядоўна) поглядаў "прыватных"

баптыстаў[lii]. Распаўсюд гэтага руху пачынаецца ў 1870-я гады з Гомельшчыны. Крыху пазней на Полаччыне з’яўляюцца супольнасці "агульных" баптыстаў. Заслугай брацтва баптыстаў на тэрыторыі Беларусі была евангелізацыя простага вясковага насельніцтва, якое часта было пазбаўлена царкоўнага навучання[liii]. Баптысцкая місія часта сустракала абвінавачанні ў празілітызме – навяртанні праваслпўных хрысціянаў у "сектанцтва". Аднак пры больш пільным разглядзе тагачаснай сітуацыі трэба прызнаць, што баптысцкай пропаведдзю былі захопленыя тыя асобы, пра якіх праваслаўная царква не праявіла належнага пастырскага клопату. Такім чынам, збольшага баптысты ажыццяўлялі евангелізацыю людзей, якія толькі фармальна лічыліся хрысціянамі. І гэта спрыяла евангельскаму абуджэнню на беларускай вёсцы[liv].

Распаўсюд баптызму адгукнуўся ў іншых канфесіях, прымусіўшы іх узмоцніць сваю асветніцкую і місіянерскую працу.

Такім чынам найбольш уплывовымі рухамі ў гэты перыяд быў праваслаўны старчацкі рух і брацтва баптыстаў. З гэтай нагоды мы вырашылі назваць яго ***перыядам старцаў і баптыстаў***. Ніжняй мяжой гэтага перыяду варта назваць 1795 год, а верхняй – 1918, калі з’явіліся першыя пакутніцкія сведчанні, характэрныя для наступнага перыяду.

Час савецкага панавання, які працягваўся з 1919 па 1991 год заслугоўвае назву ***перыяда вялікай мартэрыі***[3]. За гэтыя сем дзесяцігоддзяў на свой подзьвіг выйшла самая вялікая колькасць мучанікаў за ўсю гісторыю хрысціянства. Савецкая ўлада зрабіла бязбожнасць часткай сваёй афіцыйнай ідэалогіі. Захады супраць праваслаўнай царквы прапрымаліся бальшавікамі ў самыя першыя гады іх панавання на Беларусі[lv], а з 1929 году была аб’яўлена сапраўдная крывавая вайна хрысціянам усіх канфесій без выключэнння[lvi]. Любыя спробы аб’яднання хрысціян і збірання царквы немінуча ўспрымаліся як контррэвалюцыйная дзейнасць. За міжваенны час на усходняй Беларусі былі вынішчаныя ўсе каталіцкія парафіі, засталося толькі два праваслаўныя храмы, зачыніць якія перашкодзіла другая сусветная вайна (1939 – 1945). Нямецкія захопнікі асвойваючы новыя тэрыторыі, далі хрысціянам магчымасць аднавіць частку святыняў. Гэтым яны спадзяваліся забяспечыць сабе падтрымку з боку беларускага народу. Аднак рэпрэсіўная практыка нацыстаў не магла не сустракаць выкрыцця з боку праўдзівых хрысціянскіх прапаведнікаў. Ізноў палілася кроў мучанікаў[lvii]. Акупанты забілі цэлы шэраг дзеячаў беларускага каталіцкага адраджэння і вялікую колькасць простых хрысціянаў усіх канфесій. Многія з іх пацярпелі за дапамогу габрэям.

Перыяд другой сусветнай вайны часам называюць "пацяпленнем" узаемаадносінаў праваслаўнай царквы і савецкага ўраду. Сапраўды, Крамлю прыйшлося пайсці на пэўныя

---

[3] Мартэрыя – тут: мучаніцкае сведчаннне пра Хрыста (ад грэчацкага μαρτις – мучанік)

саступкі праваслаўнай царкве і евангельскім хрысціянам, каб задаволіць патрабаванні саюзнікаў па антыгітлераўскай кааліцыі. Аднак гэтыя саступкі былі збольшага знешнімі, арганізацыйнымі. Вызнаўцаў веры працягвалі забіваць і катаваць у лагерах. Асабліва гэта датычыла Беларусі, дзе большая частка духавенства падпадала пад падазрэнне ў супрацоўніцтве з немцамі. Найбольш актыўныя рэпрэсіі былі скіраваныя супраць каталікоў усходняга абраду. Некаторыя з іх былі нават аднойдзеныя і дастаўленыя з-за мяжы[lviii].

Смерць І.Стіліна ў 1953 годзе паклала пачатак такзванай хрушчоўскай адлізе. Многія пакутнікі за веру змаглі патрапіцыь пад амністыю і вярнуцца з лагероў жывымі. Аднак час кіравання М.Хрушчова прынес і новы тып ганенняў. Ён быў не такім крывавым, але таксама жорсткім. Многія святыні былі ізноўку зачыненыя. Пад час багаслужбаў перад храмамі дзяжурыла міліцыя, якая не дазваляла прыводзіць туды дзяцей і падлеткаў. Актывізавалася "антырэлігійня" і "антысектанцкая" прапаганда. Пад сектантамі пры гэтым разумеліся пераважна евангельскія хрысціяне. Пра хрысціян, асабліва пра баптыстаў і пяцідзесятнікаў, распаўсюджаліся недарэчныя нагаворы. Працягваліся арышты і заключэні ў турму, выкарыстоўваліся рэпрэсіўныя магутнасці псіхіятрычнай псеўдамедыцыны[4].

Палітыка падобнага кшталту працягвалася і за сакратарствам Л.Брэжнева. Істотны паварот у палітыцы СССР адносна хрысціянства стаў назірацца ў другой палове 1980-х гадоў, пад час такзванай "перабудовы". Поруч з атэістычнай прапагандай пачалі з'яўляцца публікацыі аб вялікім укладзе хрысціянскай царквы у культуру народоў СССР. На экранах тэлівізараў можна было часам пабачыць правкслаўных і каталіцкіх іерархаў. У 1988 годзе на дзяржаўным узроўні было адзначана тысячагоддзе хрышчэня Русі. Але, нягледзячы на ўсю гэтую "лібералізацыю", у 1989 годзе яшчэ арыштоўваліся і атрымоўвалі тэрміны зняволення хрысціянскія прапаведнікі. Таму сканчэнне эпохі вялікай мартэрыі мы можам абазначыць толькі 1991 годам, калі спыніла сваё існаванне савецкая сістэма ўлады, а Беларусь атрымала рэальную незалежнасць.

У наступных тэмах мы паспрабуем падрабязней разгледзіць гісторыю кожнага з названых вышэй перыядаў.

---

[4] У СССР існавалі спецыялізаваныя клінікі, што мелі на мэце не лячэнне, а наадварот – індукцыю псіхічных захворванняў у палітычна "недабранадзейных" грамадзянаў.

# Тэма 2. На пачатку гісторыі (ад старажытнасці да IX ст.)

## *Пытанне 1. У што верылі старажытныя беларусы, калі не былі хрысціянамі?*

Усім знаёмыя родныя беларускія словы “прырода”, “род”, “родзічы”, “народзіны”, “народ”... Яны маюць адзін гістарычны корань, які выражае аснову асноваў светапогляду старажытных славянаў. Навакольны свет успрымаўся імі як спараджэнне адвечнай жыццёвай сілы – Роду, які атаясамляўся ці з асобай Творцы, ці з далёкім першапродкам, ці ўвогуле губляў сваю асабовасць, нібыта раствараючыся ў безлічы навакольных формаў. Аднак менавіта Род з’яўляўся богам у больш-менш блізкім да хрысціянскага сэнсе слова. Культ Рода быў самым старажытным і самым устойлівым сярод славянскіх вераванняў[lix]. Можна выказаць асцярожную гіпотэзу, што ўшанаванне Рода з’яўляецца своеасаблівым успамінам з Адамавых часоў, з агульначалавечага ведання Бога-Творцы. Аднак тут выклікае пытанні адна акалічнасць. Славянская сакральная лексіка не мела аналагаў біблійнаму слову “бара” (ствараць з нічога, “замыкаць з нябыту”). Таму Род не стварае, а як бы нараджае. Найперш нараджае дзвюх дачок Рожаніц. Адна з іх сілкуе са сваіх грудзей жыватворнай вільгаццю неба, а другая – зямлю. Балцкім аналагам Рода з’яўляецца, хутчэй за ўсё, Дзіевас, якога іначай называлі Векаіс Тэвс (Стары Бацька) альбо Пракарымас (Творца). Ён таксама, як і ў славянаў, мае двух дзяцей – дзею суніляй. Сутворцам Пракарымаса лічыўся Сотварос – творца хатняй жывёлы.

Акрамя пералічаных, славяне і балты верылі ў безліч іншых багоў. Кожная стыхія і прыродная з’ява мелі сваё божышча. Найбольш ушанаванымі з іх быў гаспадар навальніцы Пярун (Пяркунас), валадар мёртвых Пекла (Пеколс), сонца Даждзьбог (Сауле). Пакланяліся таксама багіням, якіх называлі Сапуха (Вайва), Лада (Лайма), Баба Юга (Велу мате), Дзявотка (Панеўра) і інш. Павагі і паднашэнняў патрабавалі таксама больш дробныя духі і з’явы – дамавыя, лугавыя, духі камянёў, азёраў і рэчак, гор і перакрыжаванняў.

Формамі богаслужэння былі заклёны, малітвы, рытуальныя трапезы (часам оргіі) і ахвяраскладанні. Для гэтага ўладкоўваліся крытыя бажніцы (зазвычай круглай формы) і адкрытыя капішчы. Ахвярамі служылі жывёлы, расліны, пахкія алеі. Здаралася, што ў ахвяру прыносілі людзей. Зазвычай гэта былі ваеннапалонныя, але часам і суродзічы. У балтаў сустракаліся выпадкі рытуальных самагубстваў – самаспаленняў. Прафесійных жрацоў у той час, хутчэй за ўсё, не было. Рытуалы маглі выконваць старцы (па-балцку – крыве), князь альбо ўсе суродзічы.

Былі таксама людзі, надзеленыя надзвычайнымі здольнасцямі. Яны называліся валхвамі, вешчунамі, ведзьмарамі, чараўнікамі ці проста дзядамі (калі былі сталага веку). Яны лечылі хворых пры дапамозе зёлак альбо загавораў, варажылі, абвяшчалі суродзічам волю вышэйшых сілаў. Такія здольнасці і веды часта перадаваліся па спадчыне і трымаліся ў сакрэце.

Часам жыхары некалькіх паселішчаў ці нават плямёнаў збіраліся на агульны сход на спецыяльна прадугледжаных месцах. Такі сход называўся сабыццем, альбо сабуткай. Няцяжка здагадацца, што гэтыя словы абазначаюць "быццё разам". Для сходаў часцей за ўсё абіраліся не пакрытыя лесам узвышшы – лысыя горы. На іх часам уладкоўваліся капішчы. Цікава, што некаторыя з гэтых капішчаў існавалі па некалькі тысячагоддзяў, пераступаючы межы бронзавага і жалезнага веку, перажываючы розныя народы.

Важна падкрэсліць, што рэлігія паганцаў збольшага ўтылітарная. Жыццё (дакладней сказаць, выжыванне) роду было галоўнай мэтай, у той час як божышчы, духі, дабрахожыя заставаліся проста фактарамі, якія неабходна скарыстаць дзеля дасягнення мэты. Таму божышчаў трэба было задобрыць, падкупіць ахвярапрынашэннямі, а на духаў паўздзейнічаць магічнымі рытуаламі, заклёнамі ці проста заключыць "справядлівую" гандлёвую дамову. Такое паганскае стаўленне да Бога, на жаль, застаецца ўласцівым і некаторым сучасным хрысціянам, хоць Евангелле патрабуе ад нас зусім іншых, родиасных, сыноўніх зносінаў з Творцам.

І ўсё ж нават у першабытным грамадстве знаходзіліся людзі, якія імкнуліся спазнаць глыбіню, самую сутнасць рэчаў. Такія людзі часта рабіліся валхвамі ці старцамі і таксама ўплывалі на светапогляд суродзічаў, прымушаючы задумвацца пра духоўны змест, прыхаваны за покрывам штодзённасці. Мудрасць перадавалася з пакалення ў пакаленне, застаючыся ў казках, песнях і былінах.

Часам сёння можна пачуць думку, што хрысціянства абцяжарыла чалавека неверагоднай колькасцю этычных патрабаванняў і забаронаў. Наша вера сутыкаецца з абвінавачаннямі ў аўтарытарнасці і антыгуманнасці. З гэтай нагоды некаторыя рамантычна настроеныя людзі спрабуюць знайсці для сябе пажаданую свабоду ў адраджэнні старадаўняга паганства, якое ўспрымаецца як рэлігія чалавечная і свабодная. Такое стаўленне можа вынікаць толькі з няведання, а часам і з нежадання ведаць рэальнае аблічча паганскіх звычаяў старажытных насельнікаў Беларусі.

Панятак свабоды асобы, вольнага выбару быў прынесены на нашы землі менавіта хрысціянскімі мыслярамі, у паганскія ж часы чалавек быў, наадварот, ва ўсім звязаны строгімі родавымі повязямі, цяжарам першабытнага побыту і вялізнай колькасцю рытуальна-магічных правілаў і забаронаў, а дакладней сказаць – забабонаў. Многія з іх

пратрывалі да нашых дзён, застаўшыся ў выглядзе "народных прыкметаў". Гэтыя прымхі збольшага носяць не этычны, а менавіта чарадзейны характар.

Тым не менш у першабытных славянаў і балтаў была своеасаблівая этычная сістэма. Каб яе зразумець, неабходна ўлічыць псіхалагічны грунт, на якім яна будавалася. Старажытныя людзі строга падзялялі свет на сваіх і чужых. Сваімі былі суродзічы, супляменнікі. Менавіта яны прызнаваліся людзьмі ў поўным сэнсе слова. Чужымі былі прадстаўнікі іншых плямёнаў і народаў, зрэшты, увесь знешні свет. З гэтага разумення вынікалі падвойныя стандарты. Напрыклад, красці ў сваіх (суродзічаў, суграмадзянаў) было вялікім злом і ганьбай, рабаўніцтва ж чужых паселішчаў лічылася вайсковым гонарам. Славяне часам удзельнічалі ў вялікіх рабаўніцкіх паходах на ўсходнюю Рымскую імперыю, а сутычкі паміж суседнімі гарадзішчамі амаль не спыняліся. Безумоўна, такая практыка прыводзіла да развіцця культу грубай сілы.

Аднак перш чым строга судзіць падыходы нашых продкаў (іх погляды сапраўды былі далёкімі ад Евангелля), варта ўважліва і шчыра праверыць, ці няма ў нас з вамі і нашых сучаснікаў праяваў таго самага падзелу, што і ў першабытных плямёнаў. Бойкі паміж спартыўнымі фанатамі, узаемная пагарда ўсходне- і заходнееўрапейцаў ці еўрапейцаў і амерыканцаў, расавая і рэлігійная нянавісць – гэта ўсё праявы таго самага падзелу на сваіх і чужых.

Тым не менш нашыя продкі ва ўсім ведалі меру. Напрыклад, грэкам і іншым жыхарам Прычарнамор'я славяне былі вядомыя не толькі як страшныя рабаўнікі, але і як надзейныя і сумленныя гандляры.

## ***Пытанне 2. Ці прапаведаваў на Беларусі апостал Андрэй?***

Пытанне, хто першым прапаведаваў хрысціянства на тэрыторыі Беларусі, дагэтуль застаецца адкрытым. Пэўных археалагічных слядоў прысутнасці хрысціянаў на Беларусі да IX ст. у нас няма. Аднак у нас ёсць паданні... Вось, напрыклад, аўтар "Аповесці мінулых гадоў"[5] богаўпадабаны Нестар Пячэрскі (прыкладна 1056 – 1114)[6] паведамляе, што справу пропаведзі Евангелля на нашых землях распачаў сам апостал Андрэй. Расповед летапісца гучыць наступным чынам: «Калі Андрэй вучыў у Сінопе і наведаў Корсунь, ён дазнаўся, што недалёка ад Корсуня вусце Дняпра, і захацеў скіравацца ў Рым, і паплыў праз вусце дняпроўскае, і скіраваўся ўверх па Дняпры. І здарылася так, што ён прыйшоў і спыніўся пад гарамі на беразе. І зранку ўстаў і сказаў вучням, якія былі з ім:

---

[5] "Повесть временных лет" (Аповесць мінулых гадоў) – найбольш ранні з вядомых нам усходнеславянскіх летапісных зводаў. Створаны ў Кіева-Пячэрскім манастыры каля 1113 г.

[6] Тут трэба адразу зрабіць агаворку, што Нестар з'яўляецца адным з аўтараў (але не адзіным) "Аповесці мінулых гадоў".

“Ці бачыце гэтыя горы? На гэтых гарах заззяе ласка Божая, будзе горад вялікі і паставіць Бог шмат цэркваў”. І ўзышоўшы на гэтыя горы, блаславіў іх, і паставіў крыж, і памаліўся Богу, і зышоў з гэтай гары, дзе надалей будзе Кіеў, і пайшоў вышэй па Дняпры (*г. зн. у бок Беларусі. – А. С.*). І прыйшоў да славенаў, дзе зараз Ноўгарад стаіць, і пабачыў людзей, што там жывуць, – які ў іх звычай, і як моюцца і хвастаюць сябе, і здзівіўся ім. І скіраваўся ў краіну варагаў, і прыйшоў у Рым, і распавёў пра тое, як вучыў і што бачыў, і расказаў: Я бачыў дзіва ў славенскай зямлі па шляху сваім сюды. Бачыў лазні драўляныя, і натопяць іх моцна, і распрануцца, і будуць голымі, і абальюцца квасам скарняцкім, і падымуць на сябе дубцы маладыя, і б’юць сябе самі, і гэтак сябе наб’юць, што ледзьве вылезуць ледзь жывыя. І робяць гэта ўвесь час, нікім не мучаныя, але самі сябе мучаць, і гэтак робяць амавенне сабе, а не мукі”. Тыя ж, пачуўшы пра гэта, здзіўляліся. Андрэй жа, пабыўшы ў Рыме, прыйшоў у Сіноп»[lx].

Гэты трошкі забаўны расповед пячэрскага летапісца вельмі падабаўся ўсходнеславянскім хрысціянам і таму перапісваўся з летапісу ў летапіс як сведчанне старажытнасці Хрыстовай веры на Русі. Аднак з пункту гледжання сучасных гісторыкаў, ён выклікае шмат пытанняў і, па сутнасці, выглядае недарэчным. Па-першае, складаецца ўражанне, што аўтару “Аповесці мінулых гадоў” акольны шлях з Сінопы ў Рым праз Балтыйскае мора падаецца найкарацейшым. Але гэта не адпавядае геаграфічнай рэальнасці. Таму было б дзіўна жыхару Міжземнамор’я карыстацца такімі далёкімі і вельмі на той час небяспечнымі шляхамі, каб патрапіць у горад на суседнім паўвостраве. Па-другое, дакладна невядома, ці прапаведаваў св. Андрэй паганскім народам увогуле. У сваіх лістах св. Павел называе сябе апосталам язычнікаў, адрозніваючы пры гэтым сваё служэнне ад служэння Пятра і, магчыма, іншых апосталаў, якія прапаведавалі Хрыста сярод супляменнікаў – юдэяў[lxi]. Таму больш верагодна, што апостала Андрэя цікавілі ў першую чаргу тыя гарады Прычарнамор’я, дзе былі сінагогі. У першабытных лясах Беларусі і Паўночнай Русі сінагог на той час не было, як не было і гарадоў. Па-трэцяе, не засталося ніякіх іншых сведчанняў пра паўночную місію апостала Андрэя, акрамя расповедаў славянскіх летапісцаў.

Але ўсё ж так хочацца верыць, што сярод шматлікіх паганскіх плямёнаў палымнеў на Беларусі, хай сабе і цьмяны, агенчык Хрыстовай веры.

# Тэма 3. Беларусь у кірыла-мяфодзіеўскі перыяд (IX-XI ст.)

## *Пытанне 1. Калі з’явіліся першыя хрысціяне на беларускіх землях?*

У сярэдзіне IX ст. хрысціянства пачынае атачаць беларускія землі з усіх бакоў. Праўдзівую веру прымаюць славяне Маравіі, Паноніі і Баўгарыі. Святы Ансгар (праўда, з рознай паспяховасцю) прапаведуе сярод паўночных славянаў. Візантыйская місія накіроўваецца ў Кіеў. Робіцца спроба паўторнага навяртання народаў хазарскага каганату. Такім чынам, місіянерскія цэнтры ўсё шчыльней і шчыльней набліжаюцца да межаў нашай Бацькаўшчыны, а хрысціянскія місіянеры атрымліваюць адкрытыя шляхі ў Беларусь. На жаль, мы можам толькі ўскосна меркаваць пра поспехі, якіх яны тут дасягнулі. Аднак некаторыя археалагічныя знаходкі дадаюць аптымізму і дазваляюць, хоць і з пэўнай доляй асцярожнасці, датаваць з’яўленне першых хрысціянаў на беларускіх землях дзевятым стагоддзем.

## *Пытанне 2. Хто такія салунскія браты і які духоўны рух яны заснавалі?*

У 863 г. мараўскі[7] князь Расціслаў звярнуўся да візантыйскага імператара Міхаіла III, просячы даслаць епіскапа і настаўніка для асветы славянаў, што жылі ў Паноніі і Маравіі. Насельнікі гэтых земляў ужо збольшага былі ахрышчаныя, але не атрымалі належнага навучання веры. Адной з асноўных прычынаў такога становішча славянскіх хрысціянаў сталася вучэнне аб “чатырох святых мовах”. Яно заключалася ў тым, што багаслоўскія гутаркі і багаслужбы дазвалялася весці толькі на лацінскай, грэчаскай і габрэйскай (старагабрэйскай і арамейскай) мове. Нямецкія епіскапы Зальцбургскага архідыяцэзу, да якога належалі славянскія землі, таксама прытрымліваліся такіх поглядаў. Гэтае вучэнне істотна перашкаджала перакладу Святога Пісьма, богаслужбовых і навучальных кніг на славянскую мову, што ў сваю чаргу стварала праблемы для навучання веры. Фактычна, евангелізацыі хрышчоных мараўскіх земляў ніхто не правёў, таму князі Расціслаў і Кацэл прасілі настаўнікаў дзеля гэтай неабходнай справы.

Імператар Міхаіл і свяціцель Фоці скіравалі ў Маравію вучонага манаха Канстанціна Філосафа і яго брата Мяфодзія. Місіянеры паходзілі з Салуні і валодалі славянскай мовай. Аднак святы Канстанцін ужо меў слабое здароўе і не адважваўся ехаць без Божага

[7] Краіна Вялікая Мравія займала тэрыторыю Чэхіі, часткова Славакіі, Сербіі, ўдавалася ў горыня раёны Польшчы і Украіны.

блаславення. Зрэшты, ён хутка яго атрымаў. Вось як гэта апісвае аўтар "Жыція Канстанціна": «Пайшоў жа філосаф і па старым звычаі стаў на малітву з іншымі памочнікамі. І хутка адкрыў яму Бог, што пачуў малітву слуг сваіх, і тады склаў літары і стаў пісаць словы Евангелля "*Спачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Бог*" і астатняе...». Так, атрымаўшы блаславенне і дарунак ад Бога, святыя браты прыбылі ў Маравію і прыняліся за працу.

На золку хрысціянскай эры апостал Павал пісаў сваім вучням: "*Для кволых стаўся я кволым, каб пацягнуць кволых; стаўся ўсім для ўсіх, каб хоць некаторых збавіць*" (1 Кар. 9: 20 – 22). Гэты прынцып ва ўсёй паўнаце спадкавалі і святыя салунскія браты. Каб набыць мусульман падчас сарацынскай місіі, св. Канстанцін старанна вывучаў Каран, падчас хазарскай місіі дэманстраваў бліскучае разуменне Торы, а ў славянскай місіі паводле свайго духоўнага і культурнага ўнёску Канстанцін і Мяфодзі сталіся нават большымі славянамі, чым самі славяне.

Акрамя стварэння славянскай азбукі, за 40 месяцаў свайго знаходжання ў Маравіі святыя браты працавалі над перакладамі. Паспелі перакласці шэраг богаслужбовых кніг і частку Апракаса – Евангельскіх і Апостальскіх чытанняў, прызначаных для нядзельных літургій. "І хутка, – піша жыццеапісальнік святога Канстанціна, – пераклаў увесь царкоўны чын і навучыў іх ютрані[8], і гадзінам[9], і абедні[10], і вячэрні[11] і павячэр'ю[12], і тайнай малітве[13]. І адкрыліся да прароцкага слова вушы глухіх, каб яны пачулі словы кніжныя, і стала пэўнай мова косназыкіх. І Бог узрадаваўся, бачачы гэтае, а д'ябал быў пасаромлены".

Святыя браты, у адрозненні ад папярэднікаў, праявілі сапраўды апостальскую дбайнасць. Яны не проста перакладалі богаслужбовыя кнігі, яны адаптавалі іх да духоўных патрэбаў славянскіх хрысціянаў. Такім чынам, на базе грэчаскай богаслужбовай традыцыі нарадзіўся новы тып хрысціянскага літургічнага абраду – славянскі абрад.

Пры гэтым салунскія браты не толькі займаліся перакладніцкай і літургічнай творчасцю, але і актыўна прапаведавалі Слова Божае, змагаліся са шматлікімі

---

[8] Ютрань (утраня) – ранішняя багаслужба, якая традыцыйна здзяйснялася на світанку і ўтрымлівала чытанне Евангелля і праслаўленне Бога за дарунак святла.

[9] Гадзіны – кароткія багаслужбы з трох псалмоў і некалькіх малітваў, якія здзяйсняліся а першай, трэцяй, шостай і дзевятай гадзіне працоўнага дня (адлік паводле габрэйскай традыцыі). Такім чынам штодзённа згадваліся розныя моманты пакутаў Хрыста.

[10] Пад абедняй, хутчэй за ўсё, маецца на ўвазе літургія – еўхарыстычная служба.

[11] Вячэрня – першая служба ў сутказым коле (суткі пачыналіся з вечару). Здзяйснялася на захадзе сонца, радзей – адразу пасля дзевятай гадзіны. У ёй узносяцца пакаяльныя і ўдзячныя малітвы на сканчэнне дня і праслаўляецца Бог як Творца сусвету.

[12] Павячэр'е – старажытнае малітоўнае правіла перад сном.

[13] Малітвы, якія прамаўляе прасвітар падчас багаслужбаў, звязаных з таемствамі.

забабонамі[14], навучалі новастворанаму славянскаму пісьму, рыхтуючы асяроддзе адукаваных хрысціянаў, гатовых панесці асвету далей, у глыб славянскіх земляў. У гэтым сэнсе Канстанцін і Мяфодзі таксама спадкавалі настаўленням апостала Паўла, якія той пакідаў свайму вучню Цімафею: “*Тое, што чуў ты ад мяне пры многіх сведках, перадай верным людзям, якія будуць здольныя і іншых навучыць*”. Такім чынам, вакол святых братоў фармуецца трывалая групоўка аднадумцаў, здольная запачаткаваць сапраўдны духоўны рух, велічнае ззянне якога асвятліць усё славянскае хрысціянства на велізарных абсягах і на працягу шматлікіх стагоддзяў.

Калісьці на таемнай вячэры Гасподзь сказаў вучням: “*Калі мяне гналі, то будуць і вас гнаць”* (Ян 15: 20). І гэтыя словы спраўдзіліся ў жыцці Канстанціна і Мяфодзія. Зальцбургскі епіскапат шматкроць усчынаў ганенні на салунскіх братоў. Святыя не пазбеглі праследу і турмы. Аднак Гасподзь заўсёды цудам выратоўваў справу іх жыцця, бо гэта была Ягоная справа. Стаміўшыся ад шматгадовай працы, святы Канстанцін у міры і пашане спачыў у Рыме, прыняўшы перад смерцю схіму з імем Кірыл. Святы Мяфодзі атрымаў сан епіскапа, што дазволіла яму працягнуць місію. Ён адышоў да Госпада ў 885 г., пакінуўшы пасля сябе больш за 200 (!) вучняў. Пасля яго спачыну прыхільнікі славянскага абраду апынуліся без апекі і ў хуткім часе служэнне на роднай мове было забаронена ў Маравіі. У 886 г. тры вучні салунскіх братоў (Клімент, Навум і Ангелар) прынятыя хрысціянскім царом Баўгарыі Барысам Міхаілам (852 – 889). Гэты valadar яшчэ да мараўскай місіі быў ахрышчаны святым Мяфодзіем. З дазволу Барыса святы Клімент заснаваў на беразе Ахрыдскага возера ў Македоніі манастыр. Там ён актыўна працягнуў дзейнасць сваіх настаўнікаў, і неўзабаве гэтая сяліба стала магутным цэнтрам славянскага пісьменства. Створаная пры манастыры школа рыхтавала святароў, прапаведнікаў, пісьменнікаў і перапісчыкаў. Тут памнажаліся тэксты перакладаў, зробленых Канстанцінам і Мяфодзіем. Працягвалася перакладніцкая праца і пісаліся арыгінальныя творы. Пры жыцці св. Клімента († 916) славянскай грамаце было навучана больш за тры з паловай тысячы чалавек. І гэта толькі лік актыўных дзеячаў славянскай культуры, якая ў перыяд царства Сіміёна (893 – 927) дасягнула небывалых вышынь. П. Флароўскі, спасылаючыся на Ягіча, сведчыць, што пісьменства Сіміёнавай Баўгарыі “па багацці літаратурных твораў царкоўна-рэлігійнага зместу адважылася б стаць у адным шэрагу з самымі багатымі ў той час літаратурамі – грэчаскай і лацінскай, – пераўзыходзячы ў гэтым сэнсе ўсе астатнія еўрапейскія літаратуры”. Такім чынам узнікла наймагутнейшая крыніца хрысціянскай культуры і настаўніцтва, здольная напаіць многія народы. З Баўгарыі

[14] Сярод забабонаў жыццеапісальнік св. Канстанціна ўзгадвае, напрыклад, меркаванне, што забойства змяі дазваляе чалавеку адразу ж выбавіцца ад любога з дзевяці найцяжэйшых грахоў.

славянскае пісьменства пранікае ў Сербію, Трансільванскае Сямігароддзе, Валахію, паўторна вяртаецца ў Маравію і, урэшце, на крылах Божага ветру прыходзіць з хрысціянскімі місіянерамі ў Беларусь. Калі чацвёртае ці пятае пакаленне наступнікаў Канстанціна і Мяфодзія прапаведавала праўдзівую веру на нашых землях, яны ўжо маглі поўнаю жменяй чэрпаць са скарбонкі хрысціянскай цывілізацыі паўднёвых славянаў, створанай кірыла-мяфодзіеўскім духоўным рухам.

Будзе збольшага справядлівым сказаць, што беларускае хрысціянства з'яўляецца кірыла-мяфодзіеўскай спадчынай. Менавіта з працы наступнікаў святых салунскіх братоў беларускія хрысціяне атрымалі ўсе неабходныя кнігі (у першую чаргу Евангелле) у перакладзе на славянскую мову. Місіянерства, якое прыводзіла да паступовай хрысціянізацыі беларускага насельніцтва, таксама з'яўлялася працягам місіянерскага ж кірыла-мяфодзіеўскага руху. Прычым гаворка ідзе не пра вандроўную місію, а пра штодзённую працу тутэйшых хрысціянаў сярод сваіх жа суграмадзянаў, руплівую пропаведзь Евангелля справай і словам. Па сведчанні мітр. Макарыя, у буйных гарадах (магчыма, і ў Полацку) святары актыўна наведвалі гараджанаў, гутарылі пра веру, навучалі Божаму Слову. Летапісная і жыційная літаратура паказвае нам прыклады не толькі прасвітараў, але і епіскапаў, якія спецыяльна выдзялялі час на гульні з гарадскімі і сельскімі дзецьмі. Падчас гэтых гульняў яны навучалі іх чытанню, хрысціянскім паводзінам і прапаведавалі Божае Дабравесце. У некаторых месцах такія місіянеры станавіліся найлепшымі сябрамі і дарадцамі дзетак і падлеткаў, што часам, праўда, выклікала незадаволенасць і нават помсту бацькоў-язычнікаў.

Безумоўна, сказаць, што ўсё хрысціянскае духавенства было менавіта такім, азначала б дапусціць вялікае перабольшванне. Хрысціянства ў беларускім грамадстве распаўсюджвалася "зверху", і гэта цягнула за сабою шматлікія злоўжыванні. Гістарычныя крыніцы і паданні Тураўскага княства фіксуюць нават выпадкі рэпрэсій супраць язычніцкіх жрацоў і язычнікаў увогуле. Пра Полацкае княства нам вядома значна меней, бо ўласныя полацкія летапісы былі знішчаныя ў XIX ст. Аднак плады хрысціянскай культуры, якія прынясе наступная эпоха, з'яўляюцца сведчаннем не толькі місіі, але і хрысціянскай адукацыі і духоўнага апякунства.

### ***Пытанне 3. Калі на Беларусі паўсталі першыя хрысціянскія епархіі?***

У X ст. назіраецца сапраўдны прарыў хрысціянства на беларускія землі. Асноўнымі носьбітамі гэтага прарыву былі, хутчэй за ўсё, вандроўныя варажскія дружыны. Многія з іх наймаліся на службу да рамеяў, дзе нярэдка прымалі хрысціянскую веру. Вяртаючыся на радзіму, яны асядалі ўздоўж Дняпра і Дзвіны, утвараючы паселішчы. Аднак асноўная

маса хрышчэнняў адбылася тады, калі варажскія эліты беларускіх земляў пачалі прымаць хрысціянства і распаўсюджваць яго сярод мясцовага насельніцтва.

Найстаражытнейшай хрысціянскай епархіяй на тэрыторыі Беларусі з'яўляецца Полацкая. Яе заснаванне легендарна адносяць да 992 г. Але імя першага епіскапа нам невядомае і датаванне носіць ускосны характар. Цалкам верагодна, што першы цэнтр Полацкай епархіі знаходзіўся ў Заслаўі. У юрысдыкцыю полацкага епіскапа ўваходзілі паўночнабеларускія землі, смаленская зямля, а пазней – Панямонне на захадзе і нават гарады на верхняй Волзе на ўсходзе.

Дата заснавання другой – Тураўскай – епархіі вядомая больш дакладна. Ужо ў 1005 г. згадваецца яе епіскап.

Полацкая і Тураўская епархіі ўваходзілі ў Канстанцінопальскі патрыярхат і належылі да Кіеўскай метраполіі. Такім чынам былі носьбітамі ўсходнях хрысціянскай традыцыі. Але ў дакумантах узгадваецца прысутнасць у Тураве і заходняга епіскапа. Ён прыбыў з Польшчы разам з жонкай князя Святаполка. Такі факт магчымы, бо паміж Усходняй і Заходняй царквой на той час не было падзялення. Аднак роля, якую адыгрываў заходні епіскап у Тураве застаецца дыскусійным пытаннем.

## *Пытанне 4. Дзе прапаведаваў святы Бруна?*

Напрыканцы X ст. у Заходняй царкве, якая супакоілася на ложы Свяшчэннай Рымскай Імперыі, назіраецца распавольванне хрысціянскага жыцця. Частымі сталі выпадкі сіманіі – выкупу царкоўных пасадаў за грошы. Манастыры аслаблялі аскетычнае напружанне. У хрысціянскі лад жыцця пранікала ўсё больш свецкасці і шыку. Супрацьпаставіць злу ў такіх умовах можна было толькі яшчэ большую рэўнасць і яшчэ большую строгасць, чым была дагэтуль.

Безумоўна, што знаходзіліся людзі, гатовыя ў імя Хрыстовае супрацьстаяць сілам разбэшчвання і распаду, якія губілі царкву. Адзін з іх – святы Рамуальд († 1027). Прыняўшы закон святога Бенедыкта, ён пасяліўся ў пустыннай мясцовасці ў Апенінах. Гэтая мясціна звалася Campus Maldoli, што і дало назву будучай супольнасці падзвіжнікаў – камальдулы. З цягам часу ў Рамуальда з'явіліся вучні. І вакол ягонай келлі вырас манастыр. Аднак ён уяўляў з сябе не столькі адзіную брацію, колькі згуртаванне пустэльнікаў, якія вялі строга адасоблены лад жыцця і збіраліся толькі для багаслужбы. Па строгасці і дысцыплінаванасці жыцця звычай камальдулаў пераўзыходзіў законы святога Бенедыкта і ўстаў Васіля Вялікага. Для іх былі характэрныя строгія і нават жорсткія цялесныя подзвігі – яны хадзілі босыя ва ўсе часы года, насілі нязменную грубую вопратку белага колеру, практыкавалі частае і жорсткае самапакаранне плёткамі і

розгамі, прытрымліваліся строгага посту ва ўсе дні і не аслаблялі яго нават падчас хваробы.

У жыцці святога Рамуальда, складзеным Пятром Даміані († 1072 г.), згадваецца руская місія аднаго з яго непасрэдных вучняў. Гэтага вучня звалі Бруна Баніфацы і паходзіў ён з горада Квертфута. Згодна з узгаданым "Жыццём", падчас гэтай місіі яму ўдалося навярнуць да Хрыста шмат язычнікаў ва ўсходнеславянскіх землях і скончыць жыццё мучаніцкім сведчаннем. Аднак некаторыя іншыя крыніцы ўносяць істотныя папраўкі ў наша бачанне гэтых падзей. Важную інфармацыю дае храніст Тытмар, епіскап Межыбарскі, які апісвае місію Бруна Баніфацыя як скіраваную не да ўсходніх славянаў (як лічыў Пётра Даміані), а да печанегаў. У ягонай версіі мы бачым Уладзімера Святаславіча "хрысціянскім каралём", што прыняў веру ад грэкаў. Пры гэтым ён падтрымлівае заходніх братоў у іх намеры прапаведаваць стэпнякам. Згодна з Тытмарам, печанежская місія адбываецца не раней за 1002 г. (пасля смерці германскага цара Отана). Другі важны дакумент – ліст самога Бруна Баніфацыя да цара Генрыха ІІІ, дзе ён узгадвае тэрыторыі свайго прапаведніцкага подзвігу – Памаранію, Венгрыю, Прусію і печанежскія стэпы. Князь Уладзімер, па сведчанні святога Бруна, двойчы аказваў яму ласкавы прыём як брату па веры. Гэта значыць, што славяне на тэрыторыях, падуладных Уладзімеру (а гэта на той час і Тураў і, не безперапынкаў, Полацак), ужо не патрабавалі місіі звонку, бо мелі для гэтага мясцовае духавенства. Тым не менш некаторыя сведчанні ўсё ж даюць нам магчымасць звязваць завяршальную фазу служэння святога Бруна з тэрыторыяй Беларусі. Па-першае, пад назвай "Прусія" Бруна мог разумець балцкія землі ўвогуле (у тым ліку землі беларускіх балтаў). Па-другое, некаторыя крыніцы (Кведлінбургскія летапісы пад 1009 г.) лакалізуюць мучаніцкую гібель камальдульскага місіянера паміж "Літвой і Руссю" (in konfinio Rusciae et Lituae), гэта значыць на стыку балцкіх і славянскіх земляў[15]. А гэтая мяжа праходзіла па тэрыторыі Беларусі. Значыць, апошнія пропаведзі Бруна Баніфацыя прагучалі менавіта на нашых землях; магчыма, яны прызначаліся тутэйшаму балцкаму насельніцтву. Некаторыя аўтары прыводзяць расповед пра тое, што святому Бруна ўдалося навярнуць аднаго з яцвяжскіх князёў з часткай ягонай дружыны, але брат неафіта, які выконваў абавязкі жраца, падбухторыў астатніх супляменнікаў забіць місіянераў і навернутых імі яцвягаў. Такім чынам, з некаторай доляй упэўненасці мы можам усё ж такі гаварыць пра камальдульскую місію на Беларусі, толькі не на славянскіх (як гаворыць жыццеапісальнік святога Рамуальда), а на балцкіх землях.

[15] Некаторыя даследчыкі атаясамліваюць гэтыя назвы не з этнасамі, а з населенымі пунктамі, якія і сёння існуюць на Беласточчыне.

# Тэма 4. Беларусь у феадосіеўска-еўфрасіннінскі перыяд (XI-XIV)

## *Пытанне 1. Хто такія манахі?*

Манаства як духоўны рух развіваецца на пачатку чацвёртага стагоддзя. Гэты час заўважны тым, што старажытныя ганенні на хрысціянаў прыпыніліся, а хрысціянства набыло статус афіцыйнай рэлігіі імперыі рамеяў. Новае становішча прываблівае ў царкву вялікую колькасць новых вернікаў. Для іх выбар хрысціянства ўжо не звязаны з рызыкай для жыцця. Больш за тое – быць хрысціянінам становіцца модным і нават выгодным. Такім чынам, у царкве аказваецца вялікая колькасць нявыпрабаваных вернікаў. Гэта прыводзіць да ахалоджання веры і жыцця. Адкрываюцца новыя шляхі для пранікнення граху за царкоўную агароджу. Манаскі, пустэльніцкі рух быў свайго кшталту евангельскім адказам на такі паварот справаў.

Першым правадыром ранняга манаства быў Антоні (нар. у 251 г.). Паводле Божага паклікання ён, дасягнуўшы паўналецця, раздаў бацькоўскую спадчыну жабракам, а сам стаў пустэльнікам, пасяліўшыся ў пустыні на берагах Ніла. Пасля доўгіх гадоў малітваў і барацьбы з страсцямі быў надзелены прароцкім і настаўніцкім дарункам. Да яго пачалі збірацца паслядоўнікі. Доўгі час Антоні не пагаджаўся нікога прымаць. Нарэшце, саступіўшы просьбам, дазволіў сяліцца побач і ставіць “манастыры” (у перакладзе з грэчаскай “адзіночнікі”) – падабенствы шатроў, разлічаных на аднаго чалавека. Зусім не тое, што называецца манастыром сёння. Пустэльнікі жылі адасоблена, сустракаючыся толькі на нядзельнай багаслужбе і дзеля духоўнага кіраўніцтва.

Аднак з цягам часу пачалі заўважацца хібы ў такой адасобленасці жыцця. І некаторыя старцы адчулі, што Дух Госпада заклікае да збірання ў супольнасці (па-грэчаску – кінавіі). Першая кінавія была ўладкаваная прападобным (найпадобнейшым) Пахомам Вялікім (нар. у 292), які распачаў свой подзвіг з пустэльніцтва. Ён бачыў, што адасоблены лад жыцця непасільны і некарысны для неафітаў. Таму паступова арганізаваў у Тавенісі кінавію на аснове строгага паслушэнства. Манастыр Пахома быў выхаваўчай установай, куды прымаліся нават ненавучаныя веры. Строгімі выпрабаваннямі правяралася чысціня і цвёрдасць намераў. Неафіт пастурпаў пад кіраўніцтва да аднаго са старэйшых братоў. Інакі жылі ў асобных дамах змяшчальнасцю каля 40 чалавек. Для малітвы ўсе збіраліся разам. Праца задавалася строга вызначаная. Яе нельга было самаўладна памяншаць ці павялічваць. Гэта было агульнае жыццё, агульны подзвіг ва ўзаемных клопатах. У будучыні такі спосаб жыцця стаў больш звычайным, чым

пустэльніцтва. Многія прынцыпы кінавіі былі сфармуляваныя Васілём Вялікім напрыканцы чацвёртага стагоддзя.

На пачатку манаства было свайго роду апазіцыйным, бунтарскім рухам, які выступаў супраць ахалоджання жыцця ў царкве. Большасць першых манастыроў не мела кананічна рукапакладзеных прасвітараў (манахі прыходзілі для здзяйснення Еўхарыстыі ў агульныя храмы). Прадстаўнікі іерархіі насцярожана ставіліся да новай формы пабожнасці. Раннія старцы таксама не мелі святарства, хоць і прымалі споведзь вучняў. Тым не менш з цягам часу ў манастыры пачалі рукапакладацца прасвітары, а пазней з манахаў абіралі кандыдатаў на епіскапства. Пастулова манаства набыло першарадны аўтарытэт у царкве і нават з'явілася правіла, што епіскапам можа быць толькі манах. Само ж манаства пераўтвараецца з духоўнага руху ў адну з формаў хрысціянскай царкоўнасці (“анёльскі чын”), унутры якой узнікаюць ужо новыя духоўныя рухі.

Характэрнай рысай манаства становіцца абавязковае выкананне трох евангельскіх парадаў – бязшлюбнасці (цноты) (Мф. 19: 12), беднасці (Мф. 19: 23) і паслушэнства. Паслушэнства з'яўлялася падставай навучання. Беларускі аўтар XII ст. свяціцель Кірыла Тураўскі на гэты конт піша: “Ты як свечка – вольны ў сабе перад дзвярыма царкоўнымі. А пасля не глядзі, як і што з цябе зробяць. Ты як адзенне – ведаеш сябе да таго часу, як цябе не возьмуць у рукі. А потым не разважай, калі і на анучы цябе парвуць. Май сваю волю толькі да паступлення ў манастыр. Па прыняцці інацкага вобраза ўсяго сябе аддай на паслушэнства. Не затойвай у сэрцы нават малога свавольства, каб душою не памерці. Уступіўшы ў манастыр, пастарайся знайсці мужа, які меў бы дух Хрыстоў, быў бы ўпрыгожаны цнотамі, сведчыў за сябе жыццём сваім, больш за ўсё меў бы любоў да Госпада, паслушэнства да ігумена і лагоднасць да братоў, разумеў бы Святое Пісьмо і праз гэта настаўляў бы вандроўных на нябёсы да Бога. Аддай гэткаму мужу самога сябе, знішчыўшы сваю волю.

На Беларусь манаства патрапляе ў авангардзе хрысціянскай місіі. Манахамі былі першыя місіянеры. Патрапляе ўжо ў сфармаваным выглядзе, з гатовымі богаслужбовымі ўставамі і правіламі жыцця. За выключэннем нешматлікай місіі братоў-камальдулаў, першыя манастыры трымаліся ўсходнехрысціянскага звычаю. Ва ўмовах двоеверства і размытасці межаў царквы, вялікай колькасці фармальных хрышчэнняў манаства выглядала як некаторая форма паўнавартаснага хрысціянства, хрысціянства да канца. Таму манаскі пострыг успрымаўся як своеасаблівае “другое хрышчэнне” ці дапаўненне хрышчэння. Безумоўна, ён успрымаўся як акт сакраментальны, хоць схаластычна ў спіс таемстваў не ўваходзіў.

### *Пытанне 2. Хто такі святы Феадос і які духоўны рух ён заснаваў?*

Гісторыю манаскіх духоўных рухаў на ўсходнеславянскіх землях адкрывае кіева-пячэрскі. Назва руху звязаная з тым, што першыя яго прадстаўнікі пасяліліся на гары непадалёк ад Кіева, выкарыстоўваючы ў якасці жытла выкапаныя ў зямлі норы – “пячоры”. Заснавальнікам кіева-пячэрскага руху справядліва лічыцца прападобны (найпадобнейшы) Феадос Пячэрскі (1008 – 1074). Ён быў прадстаўніком першага пакалення рускай арыстакратыі, якое вырасла за хрысціянскім часам. У юнацтве атрымаў адукацыю ў адной з хрысціянскіх школаў, заснаваных на загад Уладзімера. Вера Феадосія была шчырая і вельмі гарачая. Дасягнуўшы паўналецця, ён не абраў шляху продкаў, але пакінуў дом і стаў вучнем вандроўнага пустэльніка Антонія († 1073), які жыў недалёка ад Кіева. Антоні быў, хутчэй за ўсё, манахам малдаўскага паходжання, у многім спадкаваў традыцыі Афона. Калі святы Феадосі дасягнуў духоўнай сталасці, Гасподзь паставіў яго на чале супольнасці падзвіжнікаў. Намаганнямі прападобнага яны перанялі ўстаў святога Фёдара Студыта. Гэты ўстаў упарадкаваў жыццё пячэрскіх падзвіжнікаў і далучыў іх да вопыту візантыйскага, а дакладней сказаць, палестынскага манаства.

Прападобны Феадосі сярод двоеверства і крывавага звычаю Старажытнай Русі з’явіў вобраз і прыклад надзвычайнай цэласнасці хрысціянскага жыцця. Гэты выключны чалавек уражваў сучаснікаў і нашчадкаў ураўнаважанасцю і гарманічным спалучэннем розных уласцівасцяў. Строгі аскет у ім ужываўся з лагодным прарокам і сузіральнікам, дбайным малітоўцам і пры ўсім гэтым надзвычай дзейсным і таленавітым адміністратарам. Вопытам пячэрскіх падзвіжнікаў натхняліся князі і сяляне, баяры і рамеснікі. Жыццё манахаў, прынцыпова адасобленае ад свету, пры гэтым не заставалася зачыненым для свецкіх асобаў, для царквы ў цэлым.

Пячэрскія падзвіжнікі бачылі сваё служэнне не толькі ў малітве за свет, але і ў актыўнай місіі, настаўніцтве і духоўным апякунстве. Сам прп. Феадосі, пільна клапоцячыся пра непасрэдна давераных яму Богам інакаў, быў яшчэ і духоўным апекуном для многіх свецкіх асобаў. Кіева-пячэрская супольнасць выхавала многіх адважных місіянераў і нават пакутнікаў. Найбольш вядомыя – прападобнамучанік Кукша, апостал вяцічаў († 1113), і Лявонці Растоўскі, які прапаведаваў растоўскай меры. Многія сталі епіскапамі, вызначаючы ў розных епархіях жыццё ў адпаведнасці з феадосіеўскім духоўным максімалізмам. “Хрысціянства да канца!” – так можна сфармуляваць агульную харызму кіева-пячэрскага руху.

Сказаўшы пра настаўніцкае служэнне феадосіеўцаў, нельга не прыгадаць і сацыяльныя функцыі, якія на сябе брала супольнасць падзвіжнікаў. Манастыр дапамагаў

найменш абароненай часткі насельніцтва – удовам, сіротам, інвалідам. Манахі раздавалі апошні хлеб у галодныя гады, і Гасподзь з’яўляў праз міласэрных падзвіжнікаў цуды памнажэння і паляпшэння хлябоў. Праз малітву часта здаралася ацаленне. У манастыр перабіраліся хворыя і немачныя з бяднейшых грамадскіх станаў. За агароджай манастыра за ігуменствам Феадосія быў пабудаваны гасціны двор з царквою. На гэтым двары прымаліся калекі, жабракі, хворыя. На іх ішла дзясятая частка ўсяго, што зараблялася манахамі (яны карміліся сваёю працай) ці ахвяравалася манастыру.

Не менш важным за раздачу хлябоў і прытулак бедным было адстойванне праўды. Сам прп. Феадосі адважваўся спрачацца нават з князямі, калі тыя ўчынялі не па справядлівасці. У гэтым ён браў прыклад з прарока Яна Прадвесніка і, нягледзячы на цалкам рэальныя пагрозы, быў няўхільны. Пячэрскія падзвіжнікі ўдзельнічалі ў прымірэнні князёў, хоць часцей ім даводзілася адстойваць інтарэсы бяспраўнай часткі насельніцтва перад суддзямі. “Такім чынам, шчасны айцец наш Феадос многім быў заступнік, выбаўляючы іх перад суддзямі і князямі, бо ніхто не адважваўся яго не паслухацца, ведаючы дасведчанасць і праведнасць яго”, – кажа старажытны жыццеапісальнік.

Мы бачым, што ва ўнутраным жыцці прадстаўнікі кіева-пячэрскай супольнасці імкнуліся ажыццявіць ідэал евангельскай малітоўнай супольнасці, а ў знешняй дзейнасці аказвалі духоўную апеку, матэрыяльную дапамогу і справядлівую абарону ўсім, хто меў у гэтым патрэбу.

Вельмі хутка ўплыў кіева-пячэрскага руху адчуўся ў галоўных духоўных і культурных цэнтрах Беларусі – Полацку і Тураве. Гэтыя гарады і цэнтры епархій звязваліся з Кіева-Пячэрскім манастыром прамымі воднымі шляхамі. Найбольш істотным момантам у стасунках беларускіх хрысціянаў з пячэрскімі падзвіжнікамі было пастаўленне пастыраў, якія выхоўваліся пад кіраўніцтвам Феадосія Пячэрскага і ягоных вучняў. У гэтым сэнсе нельга не ўзгадаць першага вядомага нам па імені полацкага епіскапа – Міну. Дата ягонага нараджэння дакладна не вызначаная. Дзіцячыя гады будучага пастыра прайшлі ў Полацку, дзе ён навучаўся пісьму і Святому Пісанню ў школцы для падлеткаў. Імкненне да больш адданага служэння Богу прывяло яго ў Кіева-Пячэрскі манастыр, дзе ён прыняў пострыг з імем Міна. Адбылося гэта, хутчэй за ўсё, ужо пасля смерці прападобнага Феадосія. Таму настаўнікамі Міны былі ўжо вучні заснавальніка манастыра. У 1105 г. Міна ўзведзены ў сан епіскапа полацкага. Ён арганізаваў навучанне духавенства, спрыяў місіі. Важную ролю святіцель Міна адводзіў манастырам і буйным храмам як цэнтрам асветы і кніжніцтва. Пры ім актыўна будаваліся новыя цэрквы і манаскія сялібы. Падчас служэння святіцеля Міны прыняла пострыг прп.

Еўфрасіння, дачка полацкага князя Глеба Усяслаўліча. Нельга выключыць таго, што ідэі кіева-пячэрскага духоўнага руху пакінулі глыбокі след у светапоглядзе будучай асветніцы. Прынамсі, у яе справах мы назіраем шмат падабенстваў з дзейнасцю феадосіеўцаў. Папрацаваўшы на карысць беларускай царквы адзінаццаць гадоў, свяціцель Міна спачыў 20 чэрвеня 1116 г. Месца яго пахавання дакладна невядома. Існуе два меркаванні: ён пахаваны ў Полацку або ў Кіеве.

Значна меней інфармацыі мы маем пра яшчэ аднаго выхаванца Кіева-Пячэрскай лаўры, які займаў полацкую кафедру. Гэта свяціцель Дыянісі Полацкі. Ён ушаноўваўся як святы, але пра яго подзвіг не захавалася ніякіх звестак. Вядома толькі, што менавіта ён даў добраславенне Еўфрасінні на яе паломніцтва ў Святую Зямлю. Іпацьеўскі летапіс сведчыць пра спачын уладыкі Дыянісія ў 1182 г. Такім чынам, мы бачым, што большую частку дванаццатага стагоддзя полацкую кафедру займалі выхаванцы Кіева-Пячэрскага манастыра. Безумоўна, гэта паўплывала на развіццё хрысціянства на гэтай зямлі. Нам вядома, што Полацак у гэты час стаў магутным цэнтрам кніжніцтва і школьніцтва. У ім працуюць скрыпторыі – майстэрні па перапісцы кніг. Адчыняюць дзверы манастырскія і храмавыя школы. Пісьменнасць становіцца здабыткам не толькі арыстакратыі, але і прадстаўнікоў іншых саслоўяў. Археалагічныя раскопкі паказваюць, што пісьмом маглі валодаць нават некаторыя сяляне (надпісы на прадметах побыту). За епіскапствам Дыянісія прп. Еўфрасіння адчыняе вучэльню для гарадскіх дзяўчат, што з’яўлялася для таго часу справай выключнай. Гэта ўсё служыць хрысціянскай місіі сярод усё яшчэ язычніцкага ці двоевернага насельніцтва. Духаўнікі-місіянеры ў XII ст. не толькі нясуць служэнне ў славянскіх паселішчах, але і пачынаюць пропаведзь сярод балтаў. Некаторыя балцкія правадыры – кунігасы – прымаюць пад іх уплывам праваслаўную веру.

Сярод тураўскіх свяціцеляў выхаванцам Кіева-Пячэрскай лаўры быў Лаўрэнці, які змяніў на кафедры найбольш вядомага беларускага прапаведніка Кірылу Тураўскага. Свой манаскі шлях Лаўрэнці пачаў у Кіева-Пячэрскай лаўры. Пасля ён выбраў самы строгі ў сэнсе ўставу манастыр у наваколлі Кіева – манастыр велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага. Міласцю Божай Лаўрэнці атрымаў дарунак ацалення і выгнання дэманаў. Праз яго падавалася ацаленне як цялесных, так і псіхічных захворванняў. Пасля ацалення аднаго апантанага злым духам Лаўрэнці вярнуўся ў лаўру (магчыма, быў запрошаны туды на служэнне). Праз некаторы час яго веру і подзвігі заўважыў і ацаніў мітрапаліт Кіеўскі і рукапаклаў Лаўрэнція ў епіскапа тураўскага. Некаторыя крыніцы сведчаць, што Лаўрэнці, стаўшы епіскапам, працягваў строгі цялесны подзвіг і, у адрозненне ад санавітых тураўлянаў, насіў вельмі простую вопратку. Позні іканапісны канон патрабуе выяўляць свяціцеля Лаўрэнція босым, што магло адпавядаць яго прыжыццёваму звычаю. Відавочна,

што свяціцель Лаўрэнці мусіў працягваць прапаведніцкую практыку свайго папярэдніка – Кірылы. Але казані Лаўрэнція да нас, на жаль, не дайшлі. Напрыканцы зямнога шляху свяціцель Лаўрэнці прасіў мітрапаліта адпусціць яго назад у Пячэрскі манастыр, дзе аддаўся затворніцкай малітве і спачыў у 1194 г. Паводле некаторых дадзеных, яго пахавалі ў той самай пячоры, у якой ён праходзіў свой апошні затворніцкі подзвіг.

### *Пытанне 3. Што такое турава-смаленскі рух манахаў-прапаведнікаў?*

Не без уплыву кіева-пячэрскага духоўнага руху на этнічных землях Беларусі ўзнікае вельмі яркі рух манахаў-прапаведнікаў (нашы продкі іх называлі “казнадзеямі”). Гэты рух быў адказам на надзённую патрэбу царквы. Хрысціянскае жыццё вымагала пастаяннага навучання Божаму Слову. Між тым служэнне многіх прадстаўнікоў духавенства зводзілася да тэхнічнага выканання абавязкаў, пра што са шкадаваннем пісалі некаторыя архіпастыры таго часу. Таму сярод найбольш адукаванай часткі кліру Гасподзь абірае людзей, гатовых цалкам сябе прысвяціць справе пропаведзі – вуснаму і пісьмоваму навучанню. Відаць, найбольш актыўна гэты рух развіваўся ў двух цэнтрах – Тураве і Смаленску, – таму да нас дайшлі імёны прапаведнікаў менавіта з гэтых гарадоў. Тураў праславіўся ўжо згаданым вышэй свяціцелем Кірылам, а са смаленскіх прапаведнікаў да нас дайшлі імёны Клямента і Аўрамія. Усе згаданыя прапаведнікі былі манахамі, што накладала некаторы адбітак на змест іх казаняў. Аднак гэта не значыць, што пропаведзі не адпавядалі патрэбам свету.

Бадай што самым пладавітым пісьменнікам XII ст. быў Кірыла Тураўскі – прапаведнік, якога пасля назавуць рускім Златавустам. Гэты хрысціянін валодаў вялікай колькасцю талентаў: ён быў адукаваным тэолагам, кніжнікам, адораным паэтам і надзвычайным красамоўцам. Епіскапскае служэнне не замінала яму заставацца надзвычай строгім аскетам (што, як мы бачым, характэрна менавіта для тураўскіх свяціцеляў). Будучы свяціцель нарадзіўся ў самім горадзе Тураве ў 30-я гг. XII ст. “Жыціе” сведчыць, што ён быў сынам багатых бацькоў. Відавочна, ён атрымаў някепскую адукацыю, магчыма, у школе, якая існавала ў Тураве. Пра ўзровень гэтай адукацыі мы можам судзіць па тым, што Кірыла цытуе творы айцоў царквы, якія на той час яшчэ не былі перакладзеныя на славянскую мову. Дасягнуўшы паўналецця, Кірыла адмовіўся ад бацькоўскай спадчыны і прыняў пострыг у тураўскім Барыса-Глебскім манастыры. Праз некаторы час ён атрымаў добраславенне сысці ў затвор. Гэты подзвіг звязаны з тым, што чалавек у строгіх аскетычных умовах перабываў у адзіночнай келлі. Чым жа займаўся манах Кірыла ў затворы? Жыццеапісальнік кажа, што ён “выклаў многія Боскія Пісанні”. Гэта можна разумець як тое, што святы Кірыла займаўся або перакладамі або экзэгезай

Святога Пісьма. Зрэшты, пасля святога Кірылы засталося каля 70 твораў розных жанраў: казані, малітвы, вершы. Жадаючы большага подзвігу, святы Кірыла зачыніўся ў вежы і жыў пэўны час яшчэ больш рупячыся постам і малітвамі. Многія людзі звярталіся да яго па параду. Святасць жыцця і надзвычайная адукаванасць прывабілівалі да яго як манахаў, так і свецкіх асобаў. Кірыла навучаў манахаў быць паслухмянымі і наследваць Хрысту, не дагаджаючы свайму целу. Міранаў ён навучаў наведваць царкоўны сход, чытаць Біблію і не захапляцца язычніцкімі кнігамі, якія ўжо ў той час пачалі з'яўляцца. Карыстаючыся вялікім аўтарытэтам, ён быў абраны на тураўскую кафедру. Стаўшы свяцікелем, Кірыла клапаціўся пра маральнасць царкоўнага збору, слушнае ўладкаванне царквы. Змагаўся з п'янствам сярод тураўлянаў. Шмат прапаведаваў і навучаў народ.

Пры выкананні епіскапскіх абавязкаў свяціцель Кірыла сутыкнуўся з інтарэсамі многіх уплывовых людзей. Відаць, не ўсім падабалася ягонае выкрыццё і ягонае заступніцтва за праўду. Магчыма, гэта прымусіла яго пакінуць кафедру і вярнуцца да затворніцкага жыцця. Падобны паварот у лёсе ягонага наступніка, Лаўрэнція, наводзіць на думку, што ў Тураве былі сілы, якія супрацьдзейнічалі развіццю духоўнага хрысціянства. Дакладная дата спачыну свц. Кірылы невядомая, верагодна, гэта адбылося ў 1183 г.

Са смаленскага цэнтра прапаведніцкага руху варта адзначыць найперш сучасніка Кірылы Тураўскага – Кліма Смаляціча. Імя "Клім", хутчэй за ўсё, скарочанае ад "Клімент". Гэтае імя часам сустракаецца ў літаратурных крыніцах. Нарадзіўся Клім Смаляціч у Смаленску, але манаскі подзвіг праходзіў у Зарубенскім манастыры каля Кіева. Відавочна, што ў гэты час Зарубенскі манастыр так ці інакш быў звязаны з кіева-пячэрскім духоўным рухам. Некаторыя даследчыкі лічаць, што Клім вучыўся ў Візантыі. На гэта ўказвае яго тыпова візантыйская адукаванасць. Ад іншых рускіх кніжнікаў Клім адрозніваўся веданнем не толькі царкоўных аўтараў, але і антычных філосафаў ды паэтаў. За гэта яго справядліва называюць чалавекам Рэнесансу. Паводле звестак, якія дайшлі да нас, Клімент быў вельмі працавітым аўтарам: ён напісаў шмат кніг, казаняў (пропаведзяў), пасланняў, тлумачэнняў. Аднак, на жаль, з усяго гэтага багацця да нас дайшло толькі адно пасланне (да прасвітара Фамы), у якім аўтар адстойвае неабходнасць для хрысціяніна не толькі тэалагічнай, але і свецкай, філасофскай адукаванасці. Выказвае своеасаблівы погляд на гісторыю збавення. У развіцці чалавечай гісторыі Клім вылучае тры паслядоўныя перыяды: "Запавет", "Закон" і "Дар Божы". Значэнне першых двух у тым, што яны рыхтуюць перамогу абсалютнай ісціне, якая адкрываецца ў хрысціянстве. Паводле яго слоў, "Хрыстос Бог наш, Сонца Праведнае, асвяціў нас Боскімі зорамі і прасвяціў Сваім хрышчэннем, і вось усё старое прайшло, і стала ўсё новае, і ўжо не месціцца ў законе чалавецтва, але пад Боскай ласкаю свабодна ходзіць...".

Заняўшы епіскапскую кафедру, Клім актыўна прапаведаваў. Як прыхільнік развіцця ўсходнеславянскай культуры, змагар супраць засілля ў рускай царкве грэчаскага духавенства, ён падтрымліваў ідэю аўтакефаліі рускай царквы. Гэта не была проста палітычная гульня. Клім яскрава даводзіў, што мітрапаліты-грэкі, якія дрэнна валодалі славянскай мовай, не маглі даць столькі карысці для царкоўнага ўпарадкавання і народнай асветы, колькі можна было чакаць ад мітрапалітаў мясцовага паходжання. Знаёмы з яго прамовамі князь Ізяслаў Мсціславіч, які заняў у 1146 г. велікакняжацкі сталец, паступіў як яго продак Яраслаў Мудры. У 1147 г. ён склікаў у Кіеве епіскапскі сабор і прапанаваў удзельнікам выбраць першасвятара для усходнеславянскіх земляў без адабрэння канстанцінопальскага патрыярха. Пры падтрымцы князя Ізяслава Клім Смаляціч стаў другім на Русі (пасля Іларыёна) мітрапалітам славянскага паходжання. Узвядзенне яго на кіеўскую кафедру выклікала шмат складанасцяў. Праціўнікі царкоўнай самастойнасці напачатку адмовіліся прызнаць яго мітрапалітам без волі на тое патрыярха. Партыя епіскапаў на чале з Ніфантам Ноўгарадскім супраціўлялася ўладзе мітрапаліта Клімента на працягу доўгіх гадоў. Ніфант ад свайго імя і ад імя іншых епіскапаў заявіў: “Мы не станем табе кланяцца, не будзем служыць з табой, таму што ты не ўзяў добраславення ў святой Сафіі і ад патрыярха”.

У сакавіку 1155 г. кіеўскі пасад заняў правізантыйскі настроены суздальскі князь Юры Даўгарукі, які саслаў мітрапаліта Клімента ва Уладзімір Валынскі, а мітрапаліцкую кафедру аддаў прызначэнцу патрыярха Канстанціну. Аднак праз тры гады новы кіеўскі князь Мсціслаў Ізяславіч вярнуў усё на свае месцы. Барацьба за мітрапаліцкае месца выклікала царкоўную смуту. Каб спыніць разлад, князі Расціслаў і Мсціслаў адхілілі ад спраў абодвух мітрапалітаў і прызначылі ў жніўні 1161 г. на мітрапаліцкае месца Феадора, а потым Яна IV. У выніку дзяржаўнай мудрасці і дыпламатычнай гнуткасці Расціслава барацьба вакол самага прынцыповага для царкоўнага жыцця пытання сціхла. Але Клім Смаляціч так і не здолеў ізноў заняць кафедру.

На пакаленне малодшым за Кліма Смаляціча быў другі прапаведнік са Смаленску – Аўраамі Працалюбны. У падлеткавым узросце ён гэтаксама, як і папярэднія героі нашага аповеду, атрымаў добрую кніжную навуку. Перад ім палягалі вялікія перспектывы свецкага жыцця. Але ўражаны евангельскім вучэннем, ён робіць, як некалі Антоні Вялікі: пасля смерці бацькоў раздае ўсю іх маёмасць манастырам, цэрквам і бедным, а сам абірае манаскі подзвіг. Аўраамі паступіў у манастыр, размешчаны ў ваколіцах Смаленска. Тут ён старанна вывучаў творы Яна Златавуста, Яфрэма Сірына, а таксама жыцціі пустынных аскетаў старажытнасці Антонія Вялікага, Яўхімія, Савы, Феадосія з Палестыны. Важным для яго быў прыклад святых Антонія і Феадосія Пячэрскіх – заснавальнікаў кіева-

пячэрскага руху. Іх імёны на той час ужо сталі легендай, а подзвігі былі апісаныя ў пісьмовых крыніцах. Аўраамі выказаў вялікую любоў да кніг. Займаўся зборам і перапісваннем. У гэты час смаленскі князь Раман Расціслававіч (памёр у 1170 г.) заснаваў у горадзе вучэльню, у якой навучаліся па славянскіх, грэчаскіх і лацінскіх кнігах. Аўраамі спрыяў росквіту гэтай вучэльні, дапамагаў фармаваць яе бібліятэку. Аднак выкладчыцкай і кніжніцкай дзейнасці яму не хапала. Ён адчуваў у простым хрысціянскім народзе востры недахоп жывога слова, казані, навучання. Таму пасля 30 гадоў манаскага служэння ў 1198 г. ён прыняў сан прасвітара. Пачаў актыўна прапаведаваць у прыходскім храме сярод міранаў і манахаў. Хутка яго казані і настаўленні зрабілі яго вядомым. Да яго прыходзіла шмат людзей. Гэта выклікала зайздрасць у часткі духавенства, і Аўраамію давялося перайсці ў Крыжаўзвіжанскі манастыр у Смаленску. Аднак сюды сабралася яшчэ болей люду. Аўраамі добра разумеў, што значэнне мае не толькі прамоўленае слова, але і візуальны вобраз, які дапамагае засвоіць сказанае. Таму ён актыўна займаўся іканапісам – гэтым катэхізісам у фарбах. Няспынныя казані і поспех у вернікаў зноў выклікалі зайздрасць у духавенства і гарадской знаці. Прасвітэра абвінавацілі ў ерасі і распаўсюджванні забароненых кніг, а таксама ў спакушэнні жанчын і пераманьванні духоўных дзяцей. На судзе, які ўзначальвалі князь і епіскап, ён змог часткова апраўдацца, але яго забаранілі ў служэнні і загадалі яму вярнуцца ў той самы манастыр. Але папулярнасць Аўраамія ў народзе была настолькі вялікая, што рашэнне выклікала бурную незадаволенасць смаленскіх хрысціянаў. Баючыся смуты, царкоўныя ўлады мусілі адмяніць забарону на прапаведніцтва і прызначылі Аўраамія ігуменам новага манастыра. Па-ранейшаму да яго сыходзіліся розныя людзі, каб паслухаць разумныя парады і настаўленні. Аўраамі заклікаў смалян няўхільна выконваць запаведзі, клапаціцца пра духоўнае ўдасканаленне жыцця, увесь час помніць пра Бога і заўсёды маліцца. Вялікі прапаведнік спачыў у 1224 г., пражыўшы ў манастве 50 гадоў. Пасля смерці, як і пры жыцці, Аўраамія шанавалі смаляне як нястомнага прапаведніка пакаяння і непазбежнасці страшнага суду.

Такім чынам, усіх вядомых нам прадстаўнікоў руху прапаведнікаў аб'ядноўвае некалькі агульных рысаў. Па-першае, яны былі людзьмі бліскуча адукаванымі. Гэтым іх рух падобны, з аднаго боку, на рух вучоных-місіянераў, пра якіх мы ўжо гаварылі ў папярэдняй тэме, а з другога, на рух дамініканцаў, які разварочваецца ў Заходняй царкве ў гэты самы час. Па-другое, прапаведнікі вылучаліся высокай аскетычнай строгасцю жыцця. Гэта безумоўная рыса ўсіх жывых манаскіх рухаў разгляданага перыяду. Па-трэцяе, яны жыва адгукаліся на патрэбу хрысціянскага народу ў пропаведзі – выкрыцці, навучанні і выпраўленні. Яны таксама і актыўна абаранялі справядлівасць, што збліжае іх справы з

сацыяльным служэннем кіева-пячэрскага руху. Пры гэтым шмат іншых фактаў сведчыць пра прамую, арганічную ўзаемасувязь паміж рухам прапаведнікаў і рухам кіева-пячэрскім. Яшчэ адзін важны момант: ва ўсіх прыведзеных тут біяграфіях яскрава відаць выкананне словаў Хрыста: “Гналі мяне, будуць гнаць і вас, Маё слова спаўнялі, будуць спаўняць і вашае”. Прапаведніцкая дзейнасць усіх пералічаных герояў прапаведніцкага руху часта прыводзіла да небяспечнага канфлікту з пэўнымі царкоўнымі і свецкімі сіламі.

### *Пытанне 4. Хто такая богаўпадабаная Еўфрасіння і што такое рух полацкіх асветніц?*

За епіскапствам у Полацку прадстаўнікоў кіева-пячэрскага духоўнага руху ў гэтым горадзе сфармавалася выключная для таго часу з’ява – духоўны рух асветніц, аснову якога складалі жанчыны-манахіні. Заснавальніцай руху стала бадай што самая вядомая беларуская святая – Еўфрасіння. Яна нарадзілася ў Полацку ў сям’і тагачаснага князя. У свеце насіла імя Прадслава. Калі княжна дасягнула паўналецця (а яно наступала ў дзяўчат у дванаццаць гадоў), бацькі пачалі абдумваць выгодны варыянт выдання дачкі замуж. Аднак юная хрысціянка не бачыла для сябе будучыні ў свецкім княжацкім жыцці. “Што ж учынілі нашыя роды, якія былі да нас? – думала Прадслава. – Жаніліся, і выходзілі замуж, і княжылі, але не вечна жылі; жыццё іх праплыло, і загінула іхняя слава, быццам прах, горай за павуцінне. А некаторыя ж старажытныя жанчыны, узяўшы мужчынскую цвёрдасць, пайшлі следам за Хрыстом, жаніхом сваім, аддалі целы на раны і галовы пад мячы, а іншыя, калі і не прыхілілі шыі свае пад жалеза, дык духоўным мечам адсеклі ад сябе плоцкія страсці, аддаўшы целы свае на пост, і на трыванне, і на ўкленчванне, і на зямныя паклоны, – гэтыя жанчыны векапомныя на зямлі і імёны іх на нябёсах напісаныя. А гэтая слава – прах і прысак, як дым разыходзіцца, як пара водная знікае”. Адчуўшы Божае пакліканне, яна таемна ад родзічаў угаварыла ігуменню пастрыгчы яе ў манашкі. Бацька, даведаўшыся, што зрабіла яго любая дачка, быў у вялікай роспачы, але мусіў змірыцца.

Спачатку Еўфрасіння жыла ў мураванай келлі ў царкве Святой Сафіі, знаходзячыся ў паслушэнстве. Хутка ў яе з’явілася свая справа – яна занялася перапіскай кніг, якіх у царкве на той час катастрафічна не хапала. Перапіска кніг была справай цяжкой і лічылася не жаночай. Фактычна Еўфрасіння была першай жанчынай на Беларусі, якая за гэта ўзялася. Пасля смерці старога князя і паланення князёў полацкіх кіеўскімі Яраславічамі Полацк застаўся без князя. Месца жыхарства князёў полацкіх – Сяльцо – пуставала. Ёўфрасіння апынулася адзінай спадчынніцай гэтага паселішча. Епіскап Ілля па Божым знаку дазволіў маладой манахіні перабрацца туды. У Сяльцы была пабудаваная каменная царква Спаса, вакол якой утварыўся жаночы манастыр. Ён і сёння існуе на тым самым

месцы. Еўфрасіння стала ігуменняй гэтага манастыра. Атрымаўшы такое высокае служэнне, Еўфрасіння распачала актыўную дзейнасць. Манастыр не быў цёплым месцам, дзе можна было пазбегнуць палітычных прыгодаў таго часу, – гэта быў моцны цэнтр актыўнай хрысціянскай місіі. У сялібе быў зроблены скрыпторый. Адкрытая вучэльня пісьменства для гарадскіх дзяўчатаў (раней асобы жаночага полу не навучаліся пісьму). Манахіні бралі на сябе і клопат пра бедных. Еўфрасіння працавала разам са сваімі роднымі сёстрамі Гарыславай і Звеніславай, што прынялі пострыг пад яе ўплывам. Важным аспектам дзейнасці манастыра была місія прымірэння. У адсутнасць братоў ігумення Еўфрасіння выконвала дыпламатычныя функцыі. Захавалася дастаткова вялікая колькасць пергаментаў з яе афіцыйнай пячаткай. Яе рэлігійны статус дазваляў ёй аўтарытэтна і пры гэтым нейтральна ўдзельнічаць у княжацкіх перамовах. Шэраг аўтараў сведчаць, што ёй удавалася прыпыняць нават войны.

У сталым веку святая Еўфрасіння, пакінуўшы наступніцам усе справы, скіравалася ў паломніцтва ў Ерусалім. Менавіта там яна і спачыла. Пры жыцці ёй, як і прп. Феадосію, удалося сфармаваць трывалую суполку аднадумцаў, жанчын-манашак, гатовых да канца служыць Госпаду і навучаць гэтаму іншых. Спадчынай гэтай супольнасці стаўся моцны адукацыйны і місіянерскі цэнтр сярэднявечнага Полацку – Спаса-Еўфрасіннінскі манастыр.

У духоўных біяграфіях прп. Еўфрасінні і прп. Феадосія шмат паралеляў. Абое яны былі пакліканыя з самага юнацтва. Абое з дзяцінства палюбілі Хрыстовае Евангелле. У абаіх жыла глыбокая вера і жаданне прысвяціць сябе Госпаду да канца. Нават рамантычная мара абавязкова пабачыць Ерусалім у іх была агульнай. Толькі прп. Феадосі так яе і не спраўдзіў пры жыцці, хоць яшчэ дзіцем уцякаў з дому, каб дабрацца да Святой Зямлі. Абое асветнікі вялікае значэнне надавалі кніжнай навуцы і хрысціянскай місіі. Абаім падзвіжнікам удалося стварыць трывалую супольнасць, у якой было б магчымым навучанне і перадача вопыту наступным пакаленням. Абедзве супольнасці пасля далі пачатак вялікім і вельмі значным манастырам. Насамрэч, гэтыя двое светачаў роўнай моцы былі як бы знарок запаленыя Госпадам – адзін для братоў, а другая для сясцёр.

## *Пытанне 5. Калі ды з якой прычыны падзялілася хрысціянская царква?*

Адзін з найбольш трагічных момантаў у жыцці царквы – раскол паміж усходнім і заходнім хрысціянствам. Прычыны гэтага расколу называюцца розныя. За стагоддзі раздзялення назапасілася вялікая колькасць узаемных крыўдаў і грахоў. Склаліся і шматлікія багаслоўскія адрозненні. Цікавым момантам з'яўляецца тое, што ўсе

тэалагічныя прэтэнзіі былі распрацаваныя post factum, у той час як культурныя і палітычныя апынуліся ў момант расколу на першым плане.

На жаль, мы мусім прызнаць, што ў аснове раздзялення царквы ляжала канкурэнцыя паміж двума цывілізацыйнымі цэнтрамі хрысціянскага свету – Старым і Новым Рымам. Тое, што епіскапы гэтых гарадоў апекаваліся сталічнымі цэрквамі, стварала ілюзію іх адмысловай абранасці ў параўнанні з іншымі хрысціянскімі епіскапамі. Пазней рабіліся спробы апраўдаць гэтую абранасць апеляцыяй да аўтарытэту апосталаў. Заснаванне рымскай кафедры прыпісвалася апосталу Пятру, а канстанцінопальскай – Андрэю. “Першапакліканасць” сыноў Іёны ўспрымалася як права першынства, якое мусіла пераходзіць да пераемнікаў. Зрэшты, іншыя буйныя гарады Рымскай Імперыі – Александрыя, Антыяхія, Ерусалім – мелі не менш аўтарытэтных епіскапаў, што таксама выводзілі сваё рукапакладанне ад апосталаў. Гэтая сітуацыя захоўвалася, пакуль усе цэрквы існавалі ў межах цэльнай рымскай цывілізацыі. Аднак заваяванне Старога Рыму варварскімі каралямі прывяло да цывілізацыйнага разрыву паміж дзвюма часткамі хрысціянскага свету.

Імператар Рыма заўсёды быў найвышэйшай інстанцыяй, да якой апелявалі народы Еўропы. Пасля падзення Вечнага Горада заходняя Еўропа пазбавілася свайго “вярхоўнага суддзі”. Новыя, варварскія імператары яшчэ не набылі дастатковага аўтарытэту. Даказаўшы сваю вайсковую моц, яны яшчэ павінны былі даказаць праўдзівую высакароднасць. Імператар Новага Рыма, хоць і з’яўляўся сапраўдным высакародным рымскім імператарам, не меў магчымасцяў умешвацца ў справы Захаду. У гэтых умовах вайсковы аўтарытэт варварскіх цароў патрабаваў дапаўнення духоўным аўтарытэтам, які мог мець толькі епіскап Рыма. Прыняўшы на сябе адзін з найважнейшых тытулаў рымскага імператара – pantific maximus, – папа рымскі ўзяў на сябе нялёгкае бярэмя суддзі Захаду. На жаль, разрыў палітычнага адзінства Старога і Новага Рыма, якія сталі сталіцамі розных, але аднолькава амбітных дзяржаў, сказаўся і на зносінах хрысціянскіх епіскапій гэтых гарадоў. Разам з нарастаннем культурнага непаразумення “варварскага” Рыма і “цывілізаванага” Канстанцінопаля нарастала канкурэнцыя за першынство ў хрысціянскім свеце. Распальванне абстаноўкі доўжыўся некалькі стагоддзяў, пакуль нарэшце не выбухнула катастрофай. Прадвесцем расколу быў канфлікт, звязаны з умяшальніцтвам папы Мікалая I († 867) у справу пастаўлення канстанцінопальскага патрыярха. Гэты канфлікт доўжыўся больш за дзесяць гадоў і балюча сказаўся на служэнні салунскіх братоў у Маравіі, але міласцю Божай стасункі паміж Захадам і Усходам пасля гэтага былі адноўленыя.

Канчатковая кропка ў раздзяленні цэркваў была пастаўлена на два стагоддзі пазней – у 1054 г. Канфлікт разгарэўся з-за таго, што патрыярх канстанцінопальскі Міхаіл Кілуарый настояў на тым, каб лацінскія цэрквы, што дзейнічалі ў Канстанцінопалі, выконвалі мясцовыя звычаі. У першую чаргу гэта датычыла хлеба, з якім служыцца літургія. На ўсходзе было прынята служыць з квасным хлебам, а на захадзе – з праснакамі. У аднаго і другога меркавання былі свае аргументы, але паглыбленне цывілізацыйных адрозненняў павялічвала раздражненне, што ўсё больш апаноўвала ўсходніх і заходніх хрысціянаў. У адказ на адмову падпарадкавацца лацінскія цэрквы ў Канстанцінопалі былі зачыненыя ў 1053 г. Каталіцкія гісторыкі нават вінавацяць візантыйцаў у тым, што яны выкідвалі з храмаў Таямніцы, атрыманыя ў выніку прынясення “мёртвага” хлеба. Для перамоваў па гэтым пытанні папа Леў IX даслаў легатаў. На чале дэлегацыі стаяў кардынал Гумберт. Пасля безвыніковых перамоваў 16 ліпеня 1054 г. папскія легаты паклалі на алтар Сафіі булу пра пазбаўленне Міхаіла епіскапскага сану і адлучэнне яго ад царквы. Гэтае дзеянне супярэчыла старажытным канонам, якія забараняюць адначасова пазбаўляць чалавека сану і адлучаць ад царквы. Служыцелі храма Сафіі ўпрошвалі легатаў забраць булу, але тыя былі непахісныя. Выйшаўшы з храма, яны дэманстрацыйна абтрэслі з вопраткі пыл, пакінуўшы сваё рашенне ў сіле. Не стрываўшы гэтай абразы, нанесенай Канстанцінопальскай царкве, патрыярх Міхаіл падверг легатаў анафеме. Знешне гэты эпізод выглядаў як непаразуменне канкрэтнага патрыярха з канкрэтнымі легатамі. У гэты канфлікт яшчэ не былі ўцягнутыя іншыя патрыярхаты, і можна было чакаць, што праблема вырашыцца, як вырашаліся многія праблемы падобнага роду. Але, на жаль, смяротныя механізмы расколу на гэты раз былі запушчаныя надоўга.

Вестка пра раскол парадаксальна хутка сягнула Кіева. Гэта адбылося дзякуючы ўсё тым папскім легатам, што скіраваліся ў Рым акольным шляхам (якраз тым, што летапісцы прыпісвалі апосталу Андрэю). Яны мелі на мэце паведаміць пра адлучэнне Канстанцінопаля найбольшай колькасці епархій. Прычым зрабіць гэта трэба было хутчэй за грэкаў. Таму велізарная па тэрыторыі і прытым цесна звязаная з Царградам Кіеўская мітраполія ішла першым нумарам. Безумоўна, калі б на той момант мітрапаліцкую кафедру займаў грэк, папскіх легатаў не чакала б нічога добрага. Але святіцель Іларыён быў славянінам і ў амбіцыйныя разборкі Старога і Новага Рыма ўлазіць не спяшаўся. Папскія паслы былі прынятыя з вялікай пашанай і з мірам праводжаныя да межаў княства. Пры гэтым царква Русі не заняла аніякай вызначанай пазіцыі ў спрэчцы. Славяне не асабліва разумелі зместу канфлікту. Абодва Рымы былі для іх культурна аддаленымі. З аднаго боку, кіеўская мітраполія працягвала заставацца часткай канстанцінопальскага патрыярхату. З іншага – не спыняла зносінаў і з Рымскай царквой. Асабліва гэта датычыла

свецкіх валадароў. Напрыклад, праз дваццаць гадоў пасля вялікага расколу Ізяслаў[16] Яраслаўліч, скінуты са стальца кіеўскім веча, апеляваў у вырашэнні канфлікту да св. Грыгора VII – папы рымскага. Пры гэтым пасольства выражала намер перадаць рускую царкву пад ахову св. Пятра. Аднак цалкам верагодна, што на Русі папу ўспрымалі як свецкага валадара – ачольцу хрысціянскай рэспублікі. Папа сапраўды ўдзельнічаў у вяртанні Ізяслава на трон (1077). Гэты факт можна было б вынесці за дужкі як шараговую палітычную інтрыгу, калі б Ізяслаў і ягоны сын Яраполк не былі б кананізаваныя Праваслаўнай царквой – а гэта значыць, што царкоўнымі ўладамі на Русі змова з папам не лічылася злачынствам, як гэта часам спрабуюць паказаць. Рымская царква ў складаныя моманты таксама звярталася па дапамогу да Кіеўскай мітраполіі. Так, у 1089 г. Кіеў наведаў антыпапа Клімент III (праўда, яго напаткала няўдача, бо мітрапаліт на той час быў ужо грэчаскага паходжання і настроены антылацінскі). Абмен дыпламатычнымі місіямі працягваўся і пазней.

Для таго каб наш расповед пра зносіны Кіеўскай мітраполіі і Рымскай царквы не выглядаў залішне ідэалізаваным, варта адзначыць, што ліберальнае стаўленне да захаду было характэрна толькі для славянскага духавенства. Іерархі грэчаскага паходжання ў гэтым пытанні паслядоўна праводзілі лінію Канстанцінопаля. Такім чынам, ужо ў XI ст. з’явіліся творы, скіраваныя на выкрыццё “лацінскіх аблудаў”. У адрозненне ад візантыйскіх аналагаў яны носяць даволі эклектычны характар. У перамешку ідуць пункты, датычныя рытуальных, культурных, аскетычных і дагматычных адрозненняў паміж усходнім і заходнім хрысціянствам. Некалькі рэзкіх антылацінскіх выказванняў прыпісваюць прападобнаму Феадосію Пячэрскаму. Погляды такога роду ён мог атрымаць па спадчыне ад прападобнага Антонія ці з візантыйскага Афона. Антыкаталіцкія казані маглі быць якраз рэакцыяй на паводзіны Ізяслава, адносіны з якім у пячэрскіх манахаў былі далёка не адназначныя. Кіева-пячэрскі патэрык, напісаны пазней, увогуле паказвае напружанае стаўленне феадосіеўцаў да прадстаўнікоў як каталіцкіх, так і даўней-праваслаўных цэркваў (у прыватнасці, армянаў). Безумоўна, гэта сапраўды магло быць уласцівым кіева-пячэрскім манахам, але магло і прыпісацца ім у больш познія часы.

У Полацку да расколу таксама ставіліся па-рознаму. З аднаго боку, палачане заўсёды ўспрымалі сябе як частку Усходняй царквы. З іншага боку, у 1181 г. Полацак дазволіў манахам з Брэмена хрысціць падуладных яму латышоў і ліваў. Сур’ёзнае сутыкненне паміж полацкімі праваслаўнымі і рыма-каталікамі адбылося напрыканцы XIII ст. Тады полацкі князь, імя якога не захавалася, паспрабаваў перадаць полацкую епіскапскую кафедру ў юрысдыкцыю рыжскага арцыбіскупства. У выніку гэтага на землях вольнага

[16] Ізяслаў паходзіў з роду тураўскіх князёў.

горада з’явіліся заходнія царкоўнікі і лівонскія рыцары, якія паводзілі сябе нахабна і беспарадкава. Гэта выклікала абурэнне сярод палачанаў. У 1307 г. пры падтрымцы свайго вайсковага саюзніка літоўскага князя Віценя палачане выгналі чужынцаў, але адносіны з Заходняй царквой у полацкіх хрысціянаў былі надоўга сапсаваныя.

## *Пытанне 6. Хто такія Гасподнія псы і як яны патрапілі на Беларусь?*

Нягледзячы на тое, што ў XII ст. большая частка заходнееўрапейскіх краін была хрысціянскай, працэс хрысціянізацыі насельніцтва далёка не скончыўся. Свецкія валадары, каб замацаваць свой аўтарытэт, імкнуліся як мага хутчэй пакончыць з паганствам і гнастычнымі ерасямі на падкантрольных тэрыторыях. Аднак метады, якімі яны карысталіся пры гэтым, былі далёкімі ад евангельскага ідэалу. У выніку замест пропаведзі вучэння Хрыста язычнікам толькі павялічваліся шэрагі фармальных хрысціянаў. Такая сітуацыя назіралася ў XII ст. у паўднёвай Францыі, дзе ўлады гвалтоўна распаўсюджвалі рыма-каталіцкую веру.

Бачачы жахлівасць сітуацыі і адчуваючы боль за просты люд, святы Дамінік дэ Гусман (1170 – 1221), выкладчык універсітэта ў Паленсіі, вырашыў абвяшчаць Добрую Навіну іншым спосабам. Ён сам стаў бедняком і пачаў прапаведаваць у стылі апостала Паўла, як вандроўны прапаведнік-жабрак. Да харызматычнага святара далучыліся іншыя. У хуткім часе распачаўся цэлы духоўны рух вандроўных прапаведнікаў. Гэта было вельмі дарэчы, бо ў многіх храмах Еўропы даўно сціхла святарская пропаведзь. Казані прамаўлялі толькі біскупы і толькі на вялікія святы. Прадстаўнікі руху прапаведнікаў выпраўлялі сітуацыю. 22 снежня 1216 г. папа Ганорый III спецыяльнай булай зацвердзіў новы спосаб дабравешчання. Пасля спачыну святога Дамініка новы ордэн быў названы ў гонар свайго заснавальніка. Пры лацінскім напісанні гэтай назвы – Dominicanes – утвараецца каламбур: калі разбіць гэтае слова на два, атрымаецца Domeni canes (Гасподнія псы). Каламбур асабліва часта ўзгадвалі, калі ў веданне ордэна была перададзеная інквізіцыя, але гэта адбылося значна пазней.

Місіянерскі ордэн не мог не звярнуць сваю ўвагу на вялізныя абшары балцкіх земляў, населеных амаль выключна язычнікамі. Першыя дамініканскія прапаведнікі з’явіліся на тэрыторыі Беларусі ў 1250-я гг., пасля хрышчэння князя Міндоўга ў рыма-каталіцкую веру. Яны ажыццяўлялі хрышчэнне і евангелізацыю сярод балцкага насельніцтва, працягваючы справу святога Бруна. Аднак гэтая праца хутка скончылася, як і каталіцтва Міндоўга. Пасля дамініканскія настаўнікі яшчэ некалькі разоў запрашаліся вялікімі князямі Віценем і Гедымінам, а потым – панамі Гаштольдамі. У Наваградку і

Вільні былі збудаваныя невялікія даміліканскія кляштары, адкуль браты-прапаведнікі ажыццяўлялі місіянерскую працу сярод балцкіх язычнікаў.

## Тэма 5. Беларусь у перыяд ісіхастаў і саборнага руху (1376-1458)

### *Пытанне 1. Як былі ўтвораныя першыя каталіцкія дыяцэзы?*

Як ужо казалася, стаўшы каралём, Ягайла ажыццявіў масавыя хрышчэнні балцкага насельніцтва на беларускіх землях. Новая царква патрабавала ўтварэння мясцовай структуры. У 1387 г. было заснаванае віленскае біскуптва, якое атрымала ўхваленне ад папы ў 1388 г. На пачатку ў ім было ўсяго сем парафій, але да 1430 колькасць узрасла да дваццаці сямі. У параўнанні з амаль трыма тысячамі праваслаўных цэркваў гэта зусім няшмат. Такая сітуацыя звязаная з тым, што актыўных вернікаў Заходняй царквы было яшчэ вельмі мала. У юрысдыкцыю віленскага біскупства ўваходзіла большасць беларускіх рыма-каталікоў за выключэннем тых, што жылі ў берасцейскай ды пінскай землях. Апошнія належалі да ўладзімера-валынскага біскупства. У XV ст. віленскае біскупства было падпарадкавана гнезненскаму арцыбіскупству на тэрыторыі Польшчы, а ўладзімера-валынскае злучана з Луцкім.

### *Пытанне 2. Хто такія ісіхасты і як яны з’явіліся на Беларусі?*

У папярэдняй тэме мы разгледзелі рухі, асаблівасць якіх – яўленне царквы праз служэнне. Аднак хрысціянства зведала і іншыя рухі – містычныя, у цэнтры жыцця іх стаяла сузіранне, паглыбленне ведання Бога. Безумоўна, гэтыя дзве рэчы ўзаемадапаўняюць адна адну. Калі царква на нашых землях была ўжо шчодра асвечана працай місіянераў і крывёю пакутнікаў, міласэрны Бог адкрыў беларускім хрысціянам іншую глыбіню свайго аб’яўлення. Напрыканцы XIV ст. у кантэксце дзейнасці кіеўскага мітрапаліта Кіпрыяна Цымблака на Беларусі з’яўляецца рух ісіхастаў. Гэта, бясспрэчна, адзін з наймагутнейшых рухаў усходняй хрысціянскай царквы, ён у многім абумовіў яе аскетычную і малітоўную практыку. Найменне “ісіхазм” паходзіць ад панятку “ісіхія” – цішыня, няўзбуранасць. У раннюю візантыйскую эпоху ісіхастамі называліся пустэльнікі. Аднак пазней гэты тэрмін стаў абазначаць практыку ўнутранай малітоўнай дзеі, звязанай з глыбокім засяроджаннем і бесперапыннай малітвай. Подзвіг такога роду прыводзіць падзвіжніка ў асаблівы стан надзвычайнай блізкасці з Богам, радасці і прароцкага бачання Ягонай волі. Важная прыкмета прарока-ісіхаста – тое, што яму найперш адкрываюцца яго ўласныя грахі. Ісіхазм у вузкім сэнсе як духоўны рух з’яўляецца, па сутнасці, равеснікам

беларускага хрысціянства. Яго нараджэнне звязваюць з самым пачаткам XI ст. Аднак цяжка гаварыць пра істотны прарыў яго на тэрыторыю Беларусі да другой паловы XIV ст., калі ісіхазм перажывае моцны ўздым у асяроддзі афонскіх і баўгарскіх манастыроў. Заснавальнікам ісіхаскага руху традыцыйна лічаць Сімяона Новага Багаслова. Менавіта ён ясна сфармуляваў і развіў вучэнне пра Богасузіранне, хоць многія аспекты ісіхаскай практыкі зыходзяць каранямі ў сівую даўніну. Ідэйную сістэму свайго вучэння ісіхазм бярэ ў містыцы старажытнахрысціянскай Царквы. Галоўную задачу чалавека ісіхасты бачаць у маральным прасвятленні праз уваходжанне ў глыбіню сябе і духоўнае засяроджанне. Мэтай такой практыкі з'яўляецца глыбінная лучнасць з Богам, якую ісіхасты называлі "абожанне", альбо пазней – "збіранне Святога Духа". Малітоўнае задуменне ісхазму носіць назву "разумовай малітвы". У многіх падзвіжнікаў ісіхазму паглыбленне ў малітву было звязанае з бачаннем Боскага святла, ці нават варта сказаць – Бога як святла. Вучэнне ісіхастаў атаясамлівае гэтае святло з тым, якое бачылі апосталы падчас Перамянення Госпада на гары Фавор. Гэтае атаясамліванне выклікала ў XIV ст. вялізарныя спрэчкі. Аднак на гэты час бачанне Бога як святла не было навіною. Па сутнасці ісіхазм быў рухам ренесансным, рухам адраджэння раннехрысціянскага і раннеманаскага харызматызму[17]. Таму на саборы 1341 г. была падкрэслена еднасць ісіхазму з усёй манаскай традыцыяй. Перамога ісіхастаў над сваімі ідэйнымі супраціўнікамі і ўвогуле росквіт руху ў XIV ст. у многім абавязаны двум тэзаіменных падзвіжнікам Рыгору Сінаіту і Рыгору Паламе.

Першы з іх нарадзіўся ў 60-я гг. XIII ст. Яшчэ ў маладосці ён патрапіў у палон да турак, а вызваліўшыся, прыняў манаства ў манастыры св. Кацярыны на Сінаі (за што і завецца Сінаітам). Вяртаючыся з паломніцтва ў Ерусалім, прападобны затрымаўся на Крыце для знаёмства з пустэльнікам Арсеніем, які навучыў Рыгора "разумовай малітве". Пасля гэтага ён пасяліўся ў адным з манастыроў гары Афон, дзе праводзіў час у строгім падзвіжніцтве і сузіранні. Хутка ў Рыгора з'явіліся вучні. Тонкая чуйнасць да волі Божай і людскіх патрэбаў зрабілі яго надзвычай вядомым. Ён прымаў не толькі манахаў, але і міранаў. Святы Рыгор не лічыў ісіхаскае сузіранне справай адных толькі пустэльнікаў. Наадварот – ён прапаведаваў яго як норму хрысціянскага жыцця. Пазней прп. Рыгор перасяліўся ў Фракію, на мяжы з Баўгарыяй. Там да яго сталі збірацца вучні з Сербіі і Баўгарыі. Такім чынам, менавіта прп. Рыгор Сінаіт задаў імпульс распаўсюду ісіхаскага руху, які праз колькі дзесяцігоддзяў дайшоў да беларускіх земляў. Менавіта баўгарскія і сербскія вучні Рыгора былі найбольш паслядоўнымі місіянерамі руху, распаўсюджваючы ідэі ісіхазму на поўнач, у тым ліку на землі Беларусі.

---

[17] Тут важна не атаясамліваць харызматызм з экзальтаванасцю.

Аднак, нягледзячы на значнасць асобы Рыгора Сінаіта, найбольш вядомым збіральнікам і сістэматызатарам практыкі ісіхазму з’яўляецца Рыгор Палама. Ён быў на пакаленне малодшы за Рыгора Сінаіта. Таксама нарадзіўся ў Малай Азіі. У падлеткавым узросце атрымаў бліскучую адукацыю пры двары васілеўса. Двое з настаўнікаў, якія больш за ўсё на яго паўплывалі, былі майстрамі разумовай малітвы. Ад іх ён навучыўся гэтай містычнай працы. У дваццаць гадоў Палама паступіў у адзін з Афонскіх манастыроў. Праз дзесяць гадоў строгага падзвіжніцтва ён прыняў сан прасвітара, але працягваў весці пустэльніцкі лад жыцця разам з дванаццаццю братамі, якія збіраліся толькі для багаслужбы. Жыццеапісальнік сведчыць, што часта ён занурваўся ў глыбокую цішу і бязмоўнасць і плакаў пра нешта, а пасля пачынаў прарочыць, і словы яго ўражвалі ўсіх прысутных да глыбіні душы. Ужо будучы сталым аскетам, старцам, Палама быў вымушаны даваць адказ у сваім спадзяванні па прычыне абвінавачання з боку філосафаў, якія сцвярджалі, што подзвіг ісіхазму – гэта шлях самападману, а святло, бачанае аскетамі, як і іх аб’яўленні, – ілюзія. Аднак гэтыя абвінавачанні толькі прымусілі ісіхастаў на чале з Паламой больш зграбна сфармуляваць вучэнне і абгрунтаваць свой досвед традыцыяй царквы. Такім чынам зло абярнулася дабром, і цяпер мы маем магчымасць у некалькіх пунктах перадаць дакладна сфармуляванае вучэнне.

Багаслоўская пазіцыя ісіхастаў была ўхваленая ўсеправаслаўным саборам 1341 г. Дзякуючы гэтаму мы можам больш-менш акрэслена сфармуляваць ідэйную пазіцыю ісіхазму.

1. Першым пунктам філасофіі ісіхазму ў фармулёўцы Р. Паламы з’яўляецца адрозненне Божай сутнасці, якая застаецца неспазнавальнай, і Божай праявы (энэргіі), якая спазнаецца чалавекам (слова “энэргія” ў дадзеным выпадку трэба разумець не так, як яго разумеюць фізікі, і тым больш не так, як яго разумеюць сучасныя акультысты. Энэргія – гэта Бог так, як ён адкрываецца ў стасунках з чалавекам).

2. І сутнасць, і праявы з’яўляюцца прыналежнасцю аднаго і таго Бога і таму з’яўляюцца нястворанымі.

3. Слова “Боскасць”, “Боства” прыкладаецца як да сутнасці, так і да праяваў Бога. Але сутнасць пры гэтым, безумоўна, вышэйшая за праявы як прычына першасная за наступства.

4. Сутнасць Бога трансцэндэнтная ўсяму створанаму і таму недаступная для спазнання, у той час як праявы могуць быць спазнаныя і нават прынятыя чалавекам.

Гэтая багаслоўская платформа ісіхазму з’яўляецца для Праваслаўнай царквы дагматычнай.

Шэраг аўтараў лічыць, што прыхільнікам афонскага і фракійскага ісіхазму быў мітрапаліт кіеўскі Феагност. Аднак візантыйскі гісторык Грыгора сцвярджае, што Феагност быў ярым супраціўнікам вучэння Рыгора Паламы. Насцярожвае, праўда, факт, што сам Грыгора таксама адмоўна ставіўся да ісіхаскай практыкі. Аднак уплыў мітрапаліта Феагноста на беларускія землі быў мінімальны. Нягледзячы на тытул мітрапаліта кіеўскага, ён жыў у Маскве і не вёў справы заходняй часткі мітраполіі.

Яшчэ больш гэтая заўвага датычная наступніка мітрапаліта Феагноста – свяціцеля Аляксея. Пра яго адносіны да ісіхаскага руху вядома больш-менш дакладна. У 1353 – 1355 гг., будучы ў Канстанцінопалі, ён знаходзіўся пад непасрэдным духоўным кіраўніцтвам свяціцеля Філафея Кокіна. Той навучаў яго тварэнню малітвы на ўзор афонскіх ісіхастаў і пераконваў у праўдзівасці пастановаў паместных канстанцінопальскіх сабораў, якія зацвердзілі вучэнне Рыгора Паламы. Атрымаўшы ісіхаскую навуку, Аляксей скіраваўся ў Маскву ў сане мітрапаліта кіеўскага. Пазней свяціцель паспрабаваў заняць уласна кіеўскую кафедру ў самім Кіеве. Аднак Уладзімера-Суздальскае княства (будучае Маскоўскае) было на той час ворагам ВКЛ, і Альгерд успрыняў свяціцеля як варожага стаўленіка. На пад’ездзе да Кіева яго арыштавалі і заключылі ў цямніцу, дзе ён правёў два гады (1358 – 1360). Урэшце яму арганізавалі пабег і пераправілі ў Маскву. Пасля гэтага ў Канстанцінопалі прызналі, што мітраполія пераходзіць ва Ўладзімер (тэрытарыяльна мітрапаліт жыў у Маскве). Аднак гэта не скасоўвала Кіеўскай мітраполіі, якая па-ранейшаму лічылася старэйшай. У 1376 г. на яе добраслаўляюць баўгарскага ісіхаста Кіпрыяна Цымблака, верагодна, серба з паходжання. Менавіта з яго асобай, а таксама з асобай ягонага наступніка і родзіча Рыгора Цымблака мы будзем звязваць станаўленне ісіхаскага руху (у яго паламіцкай форме) на тэрыторыі ВКЛ, і ў тым ліку на беларускіх землях.

Свяціцель Кіпрыян выгодна адрозніваўся ад сучаснікаў тым, што аддаваў перавагу ўладкаванню царквы, а не ўдзелу ў двухсэнсоўных справах велікакняжацкай палітыкі. З Альгердам яго звязвала асабістае сяброўства і ўзаемапавага. І гэта дазваляла свяціцелю ажыццяўляць царкоўныя пераўтварэнне, не сустракаючы супраціву велікакняжацкай улады.

Своеасаблівым лозунгам руху ісіхастаў былі словы Госпада “шчаслівыя чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць”. Аднак пра чысціню сэрца простых хрысціянаў немагчыма было гаварыць без разумення імі Божай праўды, без умення адрозніваць грэх і цноту. Зрэшты, чысціня сэрца немагчымая без рашучага адсячэння заганаў. Аднак на беларускіх землях на той час звычайнымі былі двоевер’е і ненавучанасць у Законе Божым, што прыводзіла да пранікнення граху ў асяроддзе хрысціянаў. Межы царквы размываліся:

многія хрышчоныя працягвалі жыць як паганцы. Гэта зніжала давер да вернікаў і выклікала пагарду да Божых прыказанняў. Таму важным (мажліва, нават самым важным!) аспектам дзейнасці мітрапаліта Кіпрыяна была барацьба з грахом у царкве. Святіцель прыклаў усе намаганні, каб вывесці грэх за сакраментальныя межы царквы. Згодна з яго пастановамі, злодзеі і душагубцы адлучаліся ад прычасця і маглі атрымаць яго толькі пры смерці. Гэткае самае адлучэнне чакала тых, хто ўступаў у шлюб чацвёрты раз альбо жыў з жанчынай без шлюбу. Тройчыжанатыя адлучаліся ад прычасця на пяць гадоў. Істотны ўдар мітрапаліт Кіпрыян нанёс па распаўсюджаных у той час судовых двубоях. Яны ў беларускіх землях не лічыліся грахоўнымі, наадварот, спрэс выкарыстоўваліся для вышуку праўды. Свяцiцель рэзка адмаўляў меркаванне, што яны з'яўляюцца спосабам вызначэння Божай волі. Св. Кіпрыян падкрэсліваў, што ўдзел у смяротным паядынку з'яўляецца грахом. Забітага на двубоі забаранялася хаваць як хрысціяніна, а пераможца адлучаўся ад прычасця на васемнаццаць гадоў. Усе гэтыя рэчы не былі новымі. Царква ведала іх з даўніх часоў. Але хрысціянства на землях Беларусі, нягледзячы на трохсотгадовае перабыванне, яшчэ не да канца пранікла ў культуру народа і працы заставалася яшчэ шмат.

Дзейнасць мітрапаліта Кіпрыяна прыпала на неспакойны час. Барацьба паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Вялікім Княствам Маскоўскім за першынство ў праваслаўна-славянскім свеце прыводзіла да раздзяленняў Кіеўскай мітраполіі. Сам Кіпрыян доўгі час не прызнаваўся ў Маскве за законнага прадстаяльніка рускай царквы, нават быў абрабаваны і зняслаўлены маскоўскімі ўладамі. Заходняя царква, якая распаўсюджвала свой уплыў сярод балцкай арыстакратыі, таксама не была стабільнай. Барацьба еўрапейскіх манархаў за ўплыў на палітыку папы паставіла Рыма-каталіцкую царкву на мяжу расколу. І гэта не магло не паўплываць на духоўнае жыццё балцкай часткі беларускага насельніцтва. У такіх умовах сапраўды была патрэбная ісіхаская вытрымка і ўнутраная ціша, злучаная з непахіснасцю і вернасцю Божай волі.

Наступнікам Кіпрыяна на кіеўскай кафедры быў ягоны родзіч Рыгор Цымблак – таксама высакародны кніжнік з баўгарскага Тырнава. Рыгор у многім працягнуў справу Кіпрыяна. Абодва мітрапаліты-ісіхасты вялікую ўвагу надзялялі кніжнай асвеце. У сваёй дзейнасці ім давялося сутыкнуцца з рэзкім недахопам кніг не толькі ў вясковых, але і ў многіх гарадскіх храмах. Асабліва ў рэгіёнаў, закранутых татарскім нашэсцем, ва Украіне і Паўднёваўсходняй Беларусі. Паводле сведчання некаторых крыніцаў, у храмах магло не быць нават службоўніка з самымі неабходнымі службамі. Евангелле таксама не заўсёды было поўным. Часам выкарыстоўваліся апракасы – зборнікі ўрыўкаў на нядзелі і найбуйнейшыя святы.

Падчас мітрапаліцтва Цымблакаў актывізавалася праца па перапісцы кніг, а таксама лінгвістычная праца па перакладзе і выпраўленні старых перакладаў. Баўгарскае паходжанне мітрапалітаў абумовіла паўднёваславянскі ўплыў на гэтую працу – многія тэксты патрапляюць з Баўгарыі, у прыватнасці з Тырнава. Аднак не толькі... Падчас мітрапаліцтва Рыгора быў арганізаваны збор і перапіска мясцовых твораў. Дзякуючы гэтай працы сабраныя і захаваныя творы Кірылы Тураўскага, жыція беларускіх святых – Еўфрасінні Полацкай, Аўраамія Смаленскага, Марціна Тураўскага.

Натуральна, што мітрапаліты Кіпрыян і Рыгор спрыялі распаўсюджанню сярод беларускага манаства твораў асноўных настаўнікаў ісіхазму – Сімяона Новага Багаслова, Рыгора Сінаіта і Рыгора Паламы. Гэтыя кнігі, а таксама жывы прыклад настаўнікаў з Баўгарыі і Афона дазволілі ісіхіі замацавацца не толькі ў дагматычнай свядомасці, але і ў штодзённай практыцы манаства і прынесці свае плады.

Кіпрыянаўскае ўпарадкаванне і ісіхаскае абуджэнне прыйшло на нашу Бацькаўшчыну вельмі своечасова. У той час сіла старадаўніх духоўных рухаў моцна слабее. Манаства пачынае паспяхова падстройвацца пад феадальную структуру грамадства. З пячорных пустыняў манастыры ператвараюцца ў багатых земляўласнікаў, якія маюць палі і эканамічна залежных сялянаў. Хрысціянская духоўнасць слабее пад гнётам усеагульнага прызнання і дзяржаўнай падтрымкі. Манаскі чын становіцца для многіх не падставай для подзвігу, а гарантыяй дабрабытнай старасці альбо ціхамірнага жыцця. Насуперак гэтым трывожным тэндэнцыям развіццё ісіхаскага руху адкрывае манаскай духоўнасці новыя далягляды. Цвярозае сузіранне ў разумовай малітве на некаторы час спыніла разбуральныя тэндэнцыі ў царкве і адтэрмінавала крызіс праваслаўнага манаства на Беларусі. Гэткую самую ролю на ўсходнерускіх землях адыграў духоўны рух пустэльнікаў, заснаваны прападобным Сергіем Раданежскім. Падобна да першых настаўнікаў манаства – авы Антонія і авы Евагрыя – шукальнікі Хрыста сыходзяць ад пышнасці гарадскіх манастыроў у глухія лясы поўначы, жывуць руплівай працай і шчырай малітвай. Гэта была дзівосная і вельмі шматлікая з'ява, якая мела нават эканамічныя наступствы – засяленне дзікай поўначы. Ісіхазм і лясное пустэльніцтва былі вельмі духоўна блізкімі. Прадстаўнікі абодвух рухаў кантактавалі паміж сабой. Напрыклад, свяціцель Кіпрыян быў асабістым сябрам прападобнага Сергія Раданежскага і, будучы мітрапалітам, спрыяў развіццюляснога пустэльніцтва. Ісіхазм у сваёй паламіцкай форме, безумоўна, пранікаў у практыку лясных пустэльнікаў. Урэшце можна казаць пра зліццё гэтых рухаў ужо ў XV ст.

Насуперак недасведчанаму меркаванню, ісіхазм ніколі не быў сінонімам самазамкнёнасці і адвязанасці. Цвярозае сузіранне заўсёды звязана з прароцтвам і,

немінуча, дзейсным выкананнем волі Божай. Ісіхасты праяўлялі ўнутрыцаркоўную і знешнюю актыўнасць, аказвалі падтрымку іншым духоўным рухам. Для прыкладу, мітрапаліт Рыгор Цымблак, будучы назіральнікам на Канстанцкім саборы, спрабаваў выратаваць Яна Гуса.

Пра практыку ісіхазму на Беларусі мы маем вельмі сціплыя звесткі. Да нас не дайшлі творы беларускіх ісіхастаў. Аднак па колькасці розных спісаў і нават розных перакладаў твораў Сімяона Новага Багаслова, якія хадзілі ў асяроддзі беларускіх хрысціянаў, можна меркаваць пра важнасць ісіхаскага вучэння для нашых земляў. На той час перапіска кніг была справай складанай і наўрад перапісвалі б так руплівa тэксты, якія не мелі практычнага значэння. Справа перакладу ісіхаскіх тэкстаў на царкоўнаславянскую і на старабеларускую мовы працягвалася і пазней разгляданага перыяду – у XVI і XVII стст. Ісіхаская практыка істотны паўплывала не толькі на праваслаўную, але і на пазнейшую грэка-каталіцкую свядомасць.

### *Пытанне 3. Чаму вялікага князя цікавілі бенедыктынцы ўсходняга абраду?*

Надзвычай цікавай і самабытнай з’явай былі горныя манастыры манахаў-бенедыктынцаў, размешчаныя ў гарах Чэхіі і паўднёвай Польшчы. Належачы ва ўсім да Заходняй царквы, яны, тым не менш, строга прытрымліваліся многіх прынцыпаў, закладзеных святымі Кірылам і Мяфодзіем. Адным з найбольш заўважных элементаў кірыла-мяфодзіеўскай традыцыі ў практыцы ўсходніх бернардынцаў было служэнне на славянскай мове і паводле славянскага абраду, што ўзыходзіў да салунскіх братоў. Гэтая асаблівасць дазваляла мясцоваму насельніцтву больш поўна ўдзельнічаць у багаслужбе і адкрывала шляхі для літургічнай місіі і катэхезы. У адрозненне ад іншых рыма-каталікоў, жыхары гэтых рэгіёнаў маглі чуць Слова Божае не на лацінскай, а на роднай (ці блізкай да яе) мове. Такім чынам, мы назіраем прыклад манастыроў і сабраных вакол іх міранаў, якія юрысдыкцыйна належалі да Заходняй царквы, прытрымліваючыся пры гэтым усходняга абраду і ўсходняй духоўнасці. Перыферычнае становішча гэтых манастыроў абараняла іх ад празмернай цікавасці з боку праціўнікаў нацыянальных моваў у багаслужбе. Затое цікавасць да бернардынскай практыкі ўзнікла зусім з іншага боку.

Вялікі князь літоўскі (а пасля прыняцця каталіцтва ўжо і кароль польскі) Уладзіслаў Ягайла, апрача звыклай “руськай” ды царкоўна-славянскай мовы, іншых не ведаў і вучыць не намагаўся. Таму незразумелая багаслужба на лаціне выклікала ў яго непаразуменне і раздражненне. Не жадаючы мяняць звыклую і зразумелую багаслужбу на чужую і няўцямную, ён заснаваў у 1394 г. у Кракаве на Клепарскім прадмесці вялікі манастыр і царкву, запрасіўшы сюды бенедыктынцаў усходняга абраду. Сюды былі запрошаныя

бенедыктынцы, якія прадстаўлялі не толькі ўсходні абрад, але і пражскае духоўнае абуджэнне. Новы кракаўскі манастыр прытрымліваўся старых манаскіх звычаяў і ўсходняга абраду і праіснаваў ажно да XVII ст. Бенедыктынцы мелі адмысловую капліцу ў каралеўскім замку – Вавелі, – дзе ў багаслужбах удзельнічаў сам кароль. Цалкам верагодна, што погляды гусітаў і бенедыктынцаў усходняга абраду паўплывалі на каталіцтва, якое распаўсюджвалася на тэрыторыі Беларусі. Безумоўна, мы не маем прамых сведчанняў, што каталікі на беларускіх землях служылі на царкоўнаславянскай мове. Але мы можам выказваць меркаванні такога кшталту. На цікавыя і смелыя думкі нас штурхае рукапіс, датаваны канцом XV ст. “Кая мша чцець ся Матцэ Божыяй”, які ўяўляе тэкст багародзічнай імшы, перакладзены на старабеларускую мову.

### *Пытанне 4. Што такое саборны рух?*

У працэсе канкурэнцыі свецкіх і царкоўных уладаў у заходняй Еўропе аўтарытэт папы істотна падарваўся. Найбольш паказальным момантам было авіньёнскае паланенне, якое сталася вынікам барацьбы свецкіх феадалаў за ўплыў на рымскага пантыфіка. Аднак пасля вяртання папскай курыі ў Рым сітуацыя не стала прасцейшай. Працягвала ісці прыхаванае змаганне за “валоданне папам”. У выніку гэтага змагання ў Еўропе сфармавалася некалькі лагераў, кожны з якіх меў свайго папу. Колькасць рымскіх пантыфікаў даходзіла да чатырох, кожны з іх лічыў сябе папам, а канкурэнтаў антыпапамі. Антыпапства не было на той час з’явай новай. Яно перыядычна здаралася ў гісторыі, пачынаючы ажно з часоў мужоў апостальскіх. Аднак, у адрозненне ад старажытнасці, у канцы XIV ст. наяўнасць антыпапаў насіла выражаны палітычны характар. Барацьба паміж каралямі Захаду за “свайго” папу набывае небывалы размах і выражаецца, у тым ліку, у крывавых войнах. Гэтая эпоха ў тэкстах каталіцкіх гісторыкаў атрымала назву “вялікай схізмы”. У выніку расколу і ўзаемных анафем Заходняя Еўропа пазбавілася адзінага вярхоўнага суддзі. Для прымірэння варожых краін, прыналежных да розных аскепкаў некалі адзінага Рыма-каталіцкага касцёла, быў патрэбны нейкі больш высокі аўтарытэт, слушны як для папы, так і для каралёў. Такім аўтарытэтам маглі б паслужыць сусветныя саборы.

Менавіта ў гэтых умовах узнікае саборны рух. У адрозненне ад большасці духоўных рухаў, ён ахапіў фактычна толькі вышэйшае духавенства і самых уплывовых феадалаў Еўропы. Аднак наступствы сабораў закранулі хрысціянаў усіх краін.

Найбольш актыўную палітыку, скіраваную на рэфармаванне царквы, абмежаванне ўлады папы і павышэнне значэння нацыянальных цэркваў праводзіла французскае духавенства. Яно збольшага належала да каталікоў галіканскага абраду. Галіканцаў

падтрымлівалі і некаторыя іерархі з іншых краінаў. У 1409 г. у Пізе быў скліканы першы сабор. На яго сабралася частка каталіцкіх кардыналаў, аднак ніводзін з двух тагачасных папаў гэты сабор не блаславіў. На ім была прамоўлена неабходнасць рэгулярнага збірання сабораў, якія былі б найвышэйшым аўтарытэтам для Рыма-каталіцкай царквы. Гэтыя саборы прапаноўвалася тытулаваць сусветнымі. У Каталіцкай царкве такая тытулатура прынятая да нашага часу (хоць іншыя хрысціянскія канфесіі з ёй не згодныя). Прынцып верхавенства сабораў быў падцверджаны на саборы ў Канстанцы (1414 – 1418) і Базэлі (1431 – 1449). Гэта магло б скіраваць Рыма-каталіцкую царкву па іншым шляху развіцця. Аднак папу Яўгену IV удалося выкарыстаць “зброю” прадстаўнікоў саборнага руху супраць іх саміх. У 1438 г. ён сабраў сваіх прыхільнікаў у Фларэнцыі. Гэты сабор быў скліканы ў піку Базэльскаму. Папу Яўгену ўдалося дамагчыся асуджэння саборнага руху. Канчатковая перамога папскай улады была зацверджана пры Піі II, які ў 1460 г. сваёй булай забараніў усялякую апеляцыю да сабораў.

З самага пачатку саборнага руху ён сустрэў шчырую падтрымку з боку найвышэйшага духавенства і князёў Вялікага Княства Літоўскага. Прычым гэта датычыла не толькі нешматлікага яшчэ каталіцкага святарства, але і праваслаўнага. Іерархі Усходняй царквы (у тым ліку, сам мітрапаліт кіеўскі Рыгор Цымблак) прымалі чынны ўдзел у працы Канстанцкага сабору. Сярод іншых на ім абмяркоўвалася пытанне злучэння праваслаўнай і Рыма-каталіцкай царквы, але яно не атрымала далейшага ходу.

### ***Пытанне 5. Як распачалося супрацьстаянне паміж праваслаўнымі і рыма-каталікамі?***

Нягледзячы на тое, што некаторыя княжацкія роды (у прыватнасці, Гаштольды) даўно скіроўвалі погляд у бок рыма-каталіцкага хрысціянства, пазіцыі праваслаўя на Беларускіх землях заставаліся непахіснымі. Першы спрабаваў узяць гэтую цвярдыню вялікі князь Ягайла. Праз два гады пасля прыняцця каталіцтва і заключэння Крэўскай уніі (1385 г.) ён выдае прывілей, у якім абвяшчае рыма-каталіцкую веру паноўнай рэлігіяй на тэрыторыі ВКЛ, забараняе будаўніцтва новых праваслаўных храмаў, рамонт старых, а ў выпадку шлюбу паміж сужэнцамі рознай веры патрабуе прымушаць (нават цялеснымі пакараннямі) сужэнца некаталіка да прыняцця каталіцтва. Аднак гэты прывілей меў значэнне пераважна для балтаў-язычнікаў, якія былі ў тэрміновым парадку ахрышчаныя Ягайлам у каталіцтва. Валадары праваслаўных славянскіх земляў не асабліва спяшаліся выконваць патрабаванні вялікага князя. Да таго ж хутка ўплыў Ягайлы на Вялікае Княства Літоўскае звёўся да нуля пасля захопу велікакняжацкага стальца яго стрыечным братам Вітаўтам у 1405 г. Аднак у 1413 г. у Перамышлі Ягайла спрабаваў калі не абмежаваць, то, прынамсі, абразіць праваслаўных, ператвараючы праваслаўны храм у каталіцкі, што

суправаджалася выкідваннем целаў пахаваных у гэтым храме. Пасля смерці Вітаўта Вялікага ў 1430 г. у ВКЛ пачынаецца грамадзянская вайна паміж каталіцкай “літоўскай” і праваслаўнай “руськай” феадальнымі партыямі. Нягледзячы на тое, што гэтую вайну ніяк нельга назваць рэлігійнай (хоць бы з тае прычыны, што лідэрам руськай партыі быў каталік Швідрыгайла), гэта адзін з першых трывожных удараў звона, што папярэджваў пра нетрываласць старадаўняга міжрэлігійнага міру. Магчыма, адна з прычынаў такой сітуацыі ў тым, што ў выніку манархічнай палітыкі Вітаўта ВКЛ, якое раней мела канфедэратыўны характар, падпала пад унітарызацыю. Як наступства – пачынаецца перасячэнне раней не скрыжаваных інтарэсаў.

## *Пытанне 6. Навошта была заключана Фларэнтыйская унія і чаму з ёй не пагадзіліся на Беларусі?*

Каталіцкая царква на тэрыторыі ВКЛ падтрымлівала Базэльскі сабор і папу Фелікса V, якія паслядоўна працягвалі традыцыю саборнага руху. Аднак апанент Фелікса – папа Яўген IV – не здаваўся. Ён меркаваў не саступаць ані саборнаму руху, ані свайму канкурэнту. У гэтай справе ён атрымаў, на першы погляд, нечаканую падтрымку з усходу. Васілеўс Новага Рыма Іаан VIII Палеалог і канстанцінопальскі патрыярх Іосіф II выказалі гатоўнасць на саступкі ў дагматычных спрэчках у абмен на вайсковую дапамогу заходніх дзяржаў у барацьбе з турэцкай пагрозай. Пераход Праваслаўнай царквы пад уладу папы Яўгена быў выгодны для яго, бо істотна ўзмацніў бы ягоны ўплыў у Еўропе. Таму для абмеркавання прапановы візантыйцаў з падачы Яўгена ў 1438 г. быў скліканы сабор. Яго праца распачалася ў горадзе Ферары і працягнулася ў Фларэнцыі.

Дэлегацыю праваслаўнай Кіеўскай мітраполіі на Ферара-Фларэнтыйскі сабор узначальваў мітрапаліт Ісідор, пастаўлены Іосіфам II пасля гвалтоўнай смерці мітрапаліта Герасіма. 5 ліпеня 1439 г. была падпісаная унія. На наступны дзень яе ўрачыста абвесцілі ў кафедральным саборы Фларэнцыі.

Аднак прыхільнікаў аб’яднання чакала моцнае расчараванне. У Вялікім Княстве Літоўскім радаснага настрою новаспечанага папскага легата Ісідора амаль ніхто не падзяляў. Як ні дзіўна, справе уніі найперш запярэчылі каталікі. Зрэшты, гэта было заканамерна. Мітрапаліт Ісідор зрабіўся легатам “не таго” папы, бо Ферара-Фларэнтыйскі сабор быў сабраны ў піку Базэльскаму, які падтрымлівалі беларускія каталікі. Другая прычына насіла эканамічны і палітычны характар. У выніку прызнання уніі праваслаўныя епіскапы ўраўноўваліся ў правах з каталіцкімі, а значыць іх юрысдыкцыі не маглі перасякацца. Тады за каталіцкімі біскупствамі засталіся б невялікія і збольшага бедныя тэрыторыі Балтыі, у той час як асноўныя абсягі ВКЛ аказаліся б у юрысдыкцыі праваслаўных. Страчваць прыбыткі ніхто не хацеў. Усходняе духавенства таксама

адмоўна паставілася да уніі. Саступкі ў дагматыцы і падпарадкаванне папу рымскаму не выклікалі энтузіязму. У выніку гэтага мітрапаліт Ісідор у хуткім часе апынуўся ў становішчы выгнанца, не прынятага ані ў Маскве, ані ў ВКЛ.

Да пытання Фларэнтыйскай уніі вярнуліся толькі ў 1458 г. Алесь Белы піша наконт гэтага: "Фларэнтыйская унія падтрымлівалася Казімірам IV, які сам, паводле некаторых звестак, быў у маленстве хрышчоны і па праваслаўным, і па каталіцкім абрадах. У 1470-я гг. ён арганізоўваў звароты лаяльных да уніі мітрапалітаў кіеўскіх Грыгорыя Балгарына і Місаіла да папы Сікста IV аб гатоўнасці працягнуць справу уніі. Да пачатку XVI ст. кіеўскія мітрапаліты, як правіла, са смаленскіх епіскапаў (глядзіце Іосіф І), фармальна лічылі Фларэнтыйскую унію сапраўднай на тэрыторыі Польшчы і ВКЛ. Аднак гэта фактычна ніяк не адбівалася на жыцці ніжэйшага духавенства і вернікаў, хаця, напрыклад, зрабіла магчымым выпуск папам адмысловых індульгенцый, збор ад якіх мусіў пайсці на адбудову Кіева, разбуранага ў 1482 г. крымскім ханам Менглі-Гірэем".

## Тэма 6. Беларусь у перыяд брацтваў (1458-1648)

### *Пытанне 1. Што такое праваслаўная рэфармацыя?*

XVI і часткова XVII стст. часта называюць эпохай Рэфармацыі. У вузкім сэнсе гэты панятак звязваецца з дзейнасцю айцоў-рэфарматараў і ўзнікненнем евангелічных ды анабаптысцкіх цэркваў, якія выйшлі з еўхарыстычнага адзінства з традыцыйнымі цэрквамі. Аднак тэрмін "рэфармацыя" можна ўжываць і ў больш шырокім сэнсе. Рэч у тым, што ўжо з XV ст. у нетрах саміх традыцыйных канфесіяў узнікалі і актыўна развіваліся магутныя рэфармацыйныя рухі, якія не гублялі сувязі з канфесійнай арганізацыяй, але прыводзілі да адраджэння, а таксама да культурнага і духоўнага абнаўлення царквы. Такія рухі вядомыя ў Каталіцкім касцёле (гусіты, брацкія рухі, трыенскае рэфармаванне касцёла) і ў Праваслаўнай царкве ("заволжскі" рух у Расеі і гарадскі брацкі рух на Беларусі).

Рэфармацыйны рух XV – XVII стст. унутры Праваслаўнай царквы ў адрозненне ад пратэстанскай Рэфармацыі не закранаў дагматычнага і сакраменталагічнага вучэння Праваслаўнай царквы і насіў кампенсаторны характар, гэта значыць супрацьстаяў заняпаду царкоўнага жыцця. Прычын для заняпаду было шмат. Сур'ёзнай праблемай сталася неадпаведнасць адукацыі духавенства патрабаванням часу. Не менш важным пытаннем быў маральны ўзровень кліру – на царкоўныя пасады часта трапляли людзі малацаркоўныя і распусныя. Не малую ролю ў гэтым адыгрывала права караля і вялікага князя надаваць сан епіскапа як узнагароду за службу. Здараліся выпадкі, калі на адну і тую кафедру прызначаліся некалькі прэтэндэнтаў, кожны з якіх імкнуўся завалодаць царкоўнымі даходамі. Гэта прывяло да таго, што ў многіх епархіях адсутнічала духоўная

апека і клопат пра маральнасць святарства, бо і сам “нарачоны” епіскап мог не адрозніваццa асаблівай царкоўнасцю. Істотнай перашкодай на шляху выпраўлення сітуацыі быў падрыў саборнасці. Ён выражаўся ў саслоўным цэнзе на прыняцце духоўнага сану. Нават простым манахам, не тое што святаром ці епіскапам, мог стаць толькі шляхціц. Шляхта ж са свайго боку з пагардай ставілася да прадстаўнікоў іншых грамадскіх станаў, і гэта спрыяла ўсё большаму аддаленню кліру ад народа і страце адказнасці царкоўнай супольнасці за свой прэсвітэрыюм.

Для збавення Праваслаўнай царквы на тэрыторыі Беларусі Гасподзь даслаў два моцныя адраджэнскія рухі – гарадскі брацкі рух і рух “несцяжацеляў. Першы з іх сфармаваўся на землях Вялікага Княства Літоўскага, а другі, больш позні, быў імпартаваны з Масковіі.

## *Пытанне 2. Як развіваўся праваслаўны брацкі рух?*

Прынцыповае адрозненне гарадскога брацкага руху ад усіх разгледжаных намі раней у тым, што ён ад пачатку нарадзіўся не як манаскі, а як свецкі рух. Па сутнасці, ён стаў жывым выражэннем пакаяння міранаў у адмаўленні ад царкоўнай адказнасці. Самі праваслаўныя братчыкі бачылі сваю мэту ў вяртанні да ўладкавання царквы па “вобразе святых апосталаў”. Пра гэта гаворыцца ў граматах і статутах многіх праваслаўных царкоўных брацтваў. Менавіта гарадскія царкоўныя брацтвы сталі асновай адраджэння Праваслаўнай царквы на Беларусі. Яны ж выступілі і фактарам ажыўлення сувязяў паміж кліра‌м і светам, прыняцця простымі членамі царквы адказнасці за маральную чысціню як лаікаў, так і святарства, а таксама за іх вернасць Праваслаўю. Брацкі рух таксама браў на сябе частку абавязкаў, з якімі магла не спраўляцца аслабленая фармалізацыяй царкоўная іерархія. Праз гэта адбываўся зрух у бок роўнага размеркавання цяжару духоўнай адказнасці паміж усімі супольнікамі царквы. Гарадскі брацкі рух суправаджаўся абуджэннем як у галіне штодзённага жыцця царквы, так і ў галіне багаслоўскай думкі. Нараджаліся новыя формы царкоўнага ўладкавання (сістэма брацтваў) і аб’ядноўвалі ў сабе прадстаўнікоў розных пластоў насельніцтва.

Можна назваць шэраг фактараў, якія спрыялі развіццю гарадскога брацкага руху.

1. Хуткі рост гарадоў, развіццё кустарнай вытворчасці і гандлю. У злучэнні з самакіраваннем гарадоў паводле прынцыпу магдэбургскага права гэты фактар прывёў да фармавання шматлікага эканамічна моцнага і грамадзянскі актыўнага класу мяшчанаў, якія змаглі разам са шляхтай скласці аснову брацкага руху. Немалую ролю тут адыграла структурызацыя гарадскога рамесніцтва паводле сіндыкатнага, альбо цэхавага, прынцыпу. Злучэнне сіндыкатаў з царкоўнымі элементамі прывяло да з’яўлення асаблівага кшталту царкоўных брацтваў, сфармаваных паводле прафесійнай прыкметы, – своеасаблівых

монаканфесійных цэхаў. У цэлым само з'яўленне царкоўных брацтваў было звязана з магдэбургскімі гарадамі, і ў першую чаргу з самымі старажытнымі з іх – Львовам (брацтва ўзнікла ў 1439 г.) і Вільняй (брацтва ўзнікла ў 1458 г.).

2. Умовы, апісаныя ў першым пункце, цягнулі за сабой неабходнасць адукацыі. Жыхарам гарадоў аказвалася надзённа патрэбным атрыманне хоць бы пачатковай адукацыі. Гэта істотна павышала інтарэс да асветніцкай дзейнасці брацтваў.

3. Фармаванне княжацкай алігархіі, якое адбылося напрыканцы XV ст. Аслабленне манархіі прывяло да пераходу рэальнай улады ў рукі найбагацейшых княжацкіх родаў. У іх палітычныя інтарэсы уваходзіла засцярога ўсходнеславянскіх земляў ад польскага ўплыву, што рабіла Праваслаўе выгодным не толькі з духоўнага, але і з палітычнага пункту гледжання. Прыналежныя да магнацкай вярхушкі роды Астрожскіх, Алелькавічаў, Хадкевічаў доўгі час, нягледзячы на палітыку дынастыі Ягелонаў і шэрагу наступных вялікіх князёў, былі істотнай апорай Праваслаўнай царквы на Беларусі і Украіне.

4. Грамадзянскія правы шляхты і мяшчанства магдэбургскіх гарадоў. У 1520-я гг. шляхта і мяшчанства канчаткова заваёўваюць кантроль над лакальнай і генеральнай уладай. Памкненне людзей, што валодалі грамадзянскімі правамі да ўтрымання ўлады распаўсюджвалася і на царкоўнае жыццё, што прывяло да ўзмацненню кантролю супольнасці над дзейнасцю кліру.

5. Падзенне Канстанцінопаля і становішча патрыярха пад асманскім панаваннем прывяло да таго, што патрыярхіі давялося скарэктаваць палітыку ў адносінах да ўсходнеславянскіх цэркваў і дабраславіць шэраг дзеянняў, скіраваных на замацаванне праваслаўя ў гэтай апошняй цытадэлі ўсходняга хрысціянства. Адным з такіх дзеянняў было прызнанне за некаторымі праваслаўнымі царкоўнымі брацтвамі фактычнай незалежнасці ад звязанага свецкім патранатам епіскапату. Гэтая незалежнасць дасягалася праз наданне галоўнаму храму брацтва статусу стаўрапігіі (крыжаўстанаўлення). Гэта азначала, што паводле права брацтва падпарадкоўвалася сусветнаму патрыярху, але фактычна падпарадкоўвалася толькі брацкаму сходу і Паданню Царквы ("в делах Церкви подчинялось только братскому сходу и Преданию Церкви").

6. Адраджэнне. У XV ст. у Вялікае Княства Літоўскае прыходзіць заходнееўрапейскі Рэнесанс: "Поля многочисленных войн вспыхивают огнями пороховой артиллерии, а в городских стенах вспыхивают светильники пытливого разума и высвобождающегося творчества. Среди старинных деревянных построек вырастают жемчужины ренессансной архитектуры, в шляхетских, боярских и мещанских домах всё чаще звучит ещё неуверенный, но возвышенный строй силлабической поэзии, книжная наука охватывает всё больше слоёв населения... Высвобожденного человека Возрождения уже не

удовлетворяет внешняя форма христианских ритуалов, его интересует естественное содержание, самый смысл Христового учения. Теперь он алчет воспринимать Божье Слово не только через традицию и сердце, но и разумом”.

7. Рэфармацыя. Фактарам, што прывёў да актывізацыі дзейнасці царкоўных брацтваў, прычым як праваслаўных, так і каталіцкіх, варта назваць Рэфармацыю. Нягледзячы на тое, што праваслаўныя брацтвы дыстанцыяваліся ад пратэстантызму і ўступалі з ім у палеміку, рэфармацыйныя ідэі пранізвалі ўсю дзейнасць брацтваў. Гэта было і павышэнне значэння хрысціянскага сходу ў вядзенні прыходскіх і епархіяльных спраў, і актыўнае перакладніцтва, і развіццё біблістыкі, і зварот да ўзораў царкоўнага ўладкавання апостальскага веку. У граматах на заснаванне брацтваў вернікі часам дакаралі сябе за тое, што позна звярнуліся да гэтага прыкладу (апостальскага ўладкавання), “поздно восхотели прозреть к свету благоразумия, пробудившись от долговременного нерадения и лености и мрачной суеты мирской”. Абвяшчаць, што гэтыя ідэі былі пазычаныя ў пратэстантаў, было б недаравальным перабольшаннем, але каэвалюцыя з пратэстантызмам, палеміка і дыялог з ім прыводзілі да пастаяннай падтрымкі адраджэнскіх тэндэнцый і актыўнай місіянерскай пазіцыі Праваслаўнай царквы і ў першую чаргу брацтваў.

8. Агульнаеўрапейскі брацкі рух. У гэты час у Еўропе актыўна развіваецца ўзніклы яшчэ ў XII ст. гарадскі брацкі рух. З Нямеччыны ён пранікае ў Польшчу, а пасля і ў Вялікае Княства Літоўскае. Аднак было б памылкова звязваць узнікненне праваслаўных брацтваў выключна з заходнім брацкім рухам, як гэта робіць, напрыклад, А. Карташоў. І ўсё ж узаемныя ўплывы былі, пра што мы пагаворым далей. Рэнесанс і далейшая Рэфармацыя прыводзяць да ажыўлення заходняга брацкага руху. Святочныя пакаяльныя шэсці з характэрнымі востраверхімі каптурамі робяцца абавязковым атрыбутам тагачасных гарадоў у розных кутках Еўропы.

У развіцці рэфармацыйнага руху варта адзначыць некалькі выбухаў актыўнасці, якія вылучаліся не толькі колькасным ростам руху, але і яго структурызацыяй і паляпшэннем уладкавання. Супастаўленне гэтых выбухаў з актыўнасцю каталіцкіх духоўных і палітычных рухаў прыводзіць да думкі, што гэта адказ на ўзмацненне каталіцкай контрмісіі, накіраванай на праваслаўнае насельніцтва. Часам праваслаўныя пазычалі ў супраціўных каталіцкіх арганізацый сістэму іх уладкавання. Аднак для справядлівасці трэба зазначыць, што пагроза з боку Рыма была далёка не адзінай падставай развіцця руху. Таксама з’яўляецца важным той факт, што кожны перыяд актывізацыі ўзнімаў рух на новы ўзровень, і кожны наступны “выбух” рабіўся магчымым на базе папярэдніх дасягненняў.

Першы з выбухаў актыўнасці руху прыпадае на 1439 г., калі было заснаванае першае буйное ПЦБ на ўсходнеславянскіх тэрыторыях – Львоўскае. Гэтая падзея адбываецца пасля падпісання Крэўскай уніі (1385 г.), заснавання трыбуналу святой інквізіцыі і супадае з заключэннем Фларэнтыйскай уніі, якая адыграла неадназначную ролю ў гісторыі хрысціянства на беларускіх і ўкраінскіх землях. Львоўскае брацтва як тып арганізацыі вернікаў адрознівалася тым, што складалася як з мяшчанаў, так і са шляхты – гэта значыць з усіх саслоўяў, прадстаўленых у горадзе. Ва ўмовах саслоўнай манархіі гэта было, бадай, адзінай магчымасцю пераступіць праз стратыфікацыйныя межы. У фундацыйнай грамаце братчыкі засведчылі, што маюць на мэце адраджэнне набожнасці па вобразе святых апосталаў і абарону праваслаўнай хрысціянскай веры. Статут брацтва рэгламентаваў строгае выкананне ўсімі супольнікамі брацтва Божых запаведзяў, дысцыплінаванасць падчас брацкіх сходаў, падтрымку храмаў і рэгулярны ўдзел у таемствах. За парушэнне статуту братчыкаў чакалі штрафы, а за цяжкія грахі (блуд, п’янства і інш.) – цялесныя пакаранні і выгнанне з брацтва. Усе без выключэння братчыкі мужчынскага полу прымалі ўдзел у кіраванні брацтвам. Пры гэтым прадстаўнікі святарскага звання не мелі пераваг перад простымі міранамі, а шляхцічы – перад людзьмі падатковага стану. Для вырашэння пытанняў брацтва рэгулярна збіраўся брацкі сход. Прадстаўнічыя функцыі ажыццяўлялі розныя спраўцы, якія абіраліся на год у колькасці чатырох чалавек. У клопат Львоўскага брацтва ўваходзіла таксама падтрымка нямоглых, удоваў, сіротаў (асабліва дзяцей спачылых братчыкаў), а таксама навучанне падлеткаў пісьму, Святому Пісанню і багаслужбе. Сталых трохступенчатых школ на той час яшчэ не было, але асветніцкае служэнне ажыццяўлялася пры храмах і манастырах.

Трэба адзначыць, што Львоўскае ПЦБ было далёка не першай арганізацыяй брацкага тыпу на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Наяўнасць “царкоўных братчын” у Полацку ўзгадваецца ў Іпацьеўскім летапісе ўжо пад 1134 і 1159 гг. (Агіенка, 1993). Магчыма гэта былі колы асабліва шчырых хрысціянаў, а магчыма, супольнасці вернікаў, якія ажыццяўлялі пабудову і клопат пра пэўны храм (своеасаблівае калектыўнае ктытарства). Так ці інакш гэтыя братчыны вельмі мала апісаныя ў крыніцах і нам цяжка меркаваць пра іх характар. Львоўскае брацтва адкрывае гісторыю гарадскіх брацтваў новага часу, стаўшы пачаткам рэальнага і вельмі плённага духоўнага руху.

Вынікам другога выбуху актыўнасці брацкага руху стала стварэнне ў 1558 г. Віленскага праваслаўнага брацтва пры храме Святога Духа. Яно было першым гарадскім царкоўным брацтвам на этнічных землях беларусаў. Фундацыйная грамата і статут былі ў многім запазычаныя ў Львоўскага брацтва, таму з гэтага часу мы можам гаварыць пра фармаванне своеасаблівай Львоўска-Віленскай брацкай традыцыі. Гэтаксама і браты з

тэрыторыі Украіны, віленскія праваслаўныя братчыкі стараліся трымацца шчырай набожнасці, а межы сваёй супольнасці абаранялі ад граху. Знешнім стымулам для ўтварэння брацтва было ўскладненне становішча праваслаўя на беларускіх землях. Каталіцкія эліты спрабавалі навязаць усходнім хрысціянам прыняцце Фларэнтыйскай уніі. Перыядычна парушалася роўнасць у правах праваслаўных і каталіцкіх баяраў. Каталіцкая царква займала прывілеяванае становішча.

Утварэнне брацтва супадае па часе з канчатковым разыходжаннем Літоўскай і Маскоўскай мітраполій. Літоўская пры гэтым заставалася ў еднасці з канстанцінопальскім патрыярхам, у той час як Маскоўская самачынна адкладалася ад яго. Гэтаму спрыяў захоп сталіцы Візантыі асманамі. Шалі цывілізацыйнага лідэрства надоўга схіліліся ў бок Заходняй Еўропы. Перад праваслаўнымі Беларусі стаяла задача ачышчэння і абароны сваёй веры.

Наступны, трэці, выбух актыўнасці брацкага руху прыходзіцца на 1510 – 1511 гг. У гэты час узмацняюцца рэспубліканскія запросы шляхты, якая паслядоўна адваёўвае сабе правы на ўдзел у кіраванні дзяржавай у якасці роўных паміж сабою грамадзянаў. Нястачы ў царкоўным жыцці непакояць найбольш свядомых прадстаўнікоў паноўнага класу. Апека гетамана К. І. Астрожскага дазваляе праваслаўным ВКЛ сабраць памесны сабор, на якім былі пастаўленыя пытанні кіравання царквой і, галоўнае, маральнага аблічча чалавека. Колькасць гарадскіх царкоўных брацтваў у гэты час дапаўняецца буйным Магілёўскім брацтвам, якое аказалася пазней самым трывалым.

Чацвёрты выбух актыўнасці, безумоўна, можна лічыць адказам на каталіцкую контррэфармацыю, скіраваную супраць іншых канфесій. Аднак контррэфармацыя была не толькі крыніцай пагрозы, на якую трэба было рэагаваць. Яна была яшчэ і крыніцай новых ідэй, выклікаў і пытанняў. У шматканфесійным Вялікім Княстве ўсе разумелі неабходнасць хоць бы знешняга міжрэлігійнага міру. Таму прадстаўнікі контррэфармацыі ў сваёй антыпратэстанцкай і антыправаслаўнай місіі не маглі абапірацца на прамы гвалт. У XVI ст. рабілася стаўка на культурніцкую і адукацыйную моц. Ордэн езуітаў, які стаў сапраўдным стрыжнем контррэфармацыі, разварочвае адукацыйную дзейнасць на ўсёй тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. У многіх буйных гарадах узнікаюць езуіцкія калегіюмы – навучальныя ўстановы новага для Беларусі тыпу. У адрозненне ад больш старажытных праваслаўных школак у калегіюмах адукацыя строга падзяляецца на тры ступені – пачатковую, сярэднюю і вышэйшую. На першую ступень прымаліся прадстаўнікі розных канфесій, а для працягнення адукацыі было неабходна прымаць заходняе хрысціянства. Адукацыйная дзейнасць езуітаў і падкантрольных ім свецкіх

кангрыгацый прыводзіць да шматлікіх пераходаў пратэстанцкай шляхты ў каталіцтва, што істотна падрывае Рэфармацыю і пазбаўляе яе найбольш уплывовых апекуноў.

Праваслаўе, яшчэ адзін аб'ект празелітычнай дзейнасці прадстаўнікоў контррэфармацыі, было значна глыбей укарэненым і шматлікім, чым пратэстанцкія лучнасці. Таму праваслаўным удалося кансалідавацца і ўмацавацца для абароны сваіх пазіцый. У 1586 г. канстанцінопальскі патрыярх Іякім, наведаўшы землі ВКЛ, зацвердзіў новы статут Львоўскага брацтва і рэкамендаваў яго за ўзор для іншых брацтваў. Праз два гады аналагічны статут прымае Віленскае брацтва (1588), а пасля тое самае робяць Берасцейскае і Гарадоцкае брацтвы (1591), Мінскае (1592) і Бельскае (1594). Такім чынам умацоўваецца сістэма гарадскіх царкоўных брацтваў, якія былі падобныя па ўладкаванні і падтрымлівалі сувязі адно з адным. Акрамя таго, у 1588 г. патрыярх Іярэмія падчас візіту ў ВКЛ дае храмам Віленскага і Львоўскага брацтваў статус патрыяршых стаўрапігій, а самім брацтвам статус стаўрапігіяльных.

Гэта фактычна выводзіла дадзеныя брацтвы з-пад улады мясцовага епіскапа, даючы свабоду дзеянняў не меншую, а часам і большую, чым тая, што была ў каталіцкіх кангрэгацый. У рамках свайго асабовага складу на тэрыторыі брацкіх храмаў і манастыроў гарадскія брацтвы з гэтага часу маюць царкоўную ўладу, цалкам кантралююць пастаўленне і служэнне кліру, а таксама валодаюць правам пакарання хрысціянаў, якія не належна сябе паводзяць. Пры гэтым забарона, накладзеная брацтвам, не магла быць адмененая мясцовым епіскапам. Такім чынам, у гарадах Вялікага Княства Літоўскага фармуецца сістэма царкоўнага ўладкавання, паралельная ці, нават можна сказаць, альтэрнатыўная епархіяльнай, якая, зрэшты, падпарадкоўвалася мітрапаліту кіеўскаму, аднак пакідала за сабой права ацэньваць на прадмет вернасці Праваслаўю. Брацтвы распачынаюць актыўную адукацыйную дзейнасць, якая ажыццяўляецца праз шматлікія брацкія школы, уладкаваныя на ўзор езуіцкіх калегіюмаў. Брацкія таксама давалі трохступенную адукацыю. Першая брацкая школа такога тыпу была заснаваная ў 1584 г. Аднак яшчэ на чатыры гады раней у Астрозе, пры падтрымцы князя Канстанціна Васіля Астрожскага была створаная праваслаўная акадэмія, якая ўяўляла з сябе згуртаванне адукаваных тэолагаў.

Пяты выбух актыўнасці руху быў звязаны з новым ходам контррэфармацыі – "базіліянскай" контррэфармацыяй, якая актывізавалася ў 1620-я гг. Берасцейская царкоўная унія была ў некаторым сэнсе клерыкалісцкім адказам на ўмацаванне брацтваў. Акрамя таго, распаўсюд уніі падтрымліваў кароль і вялікі князь Жыгімонт Ваза, які імкнуўся ўмацаваць каралеўскую ўладу і аслабіць мясцовае самакіраванне. Новая хваля празелітычных захадаў на адрас праваслаўнага насельніцтва была звязана з тым, што на

змену раней малаактыўнай уніяцкай іерархіі прыйшлі маладыя, добра падрыхтаваныя людзі, якія сталі актыўна спрыяць падпарадкаванню праваслаўнага насельніцтва уніі. Аднак адмова прадстаўнікоў уніяцкай іерархіі (у першую чаргу, полацкага біскупа Ясафата Кунцэвіча) атрымаць добраславенне ў ерусалімскага патрыярха, што наведаў землі ВКЛ у 1620 г., выклікала бунт з боку праваслаўнага мяшчанства і шляхты. Магілёў, які меў уплывовае праваслаўнае брацтва, увогуле адмовіўся пускаць уніяцкага ўладыку ў горад. Полацк і Віцебск знаходзіліся ў больш складаным становішы, бо яшчэ не мелі брацтваў. Аднак у адказ на дзейнасць Ясафата Кунцэвіча мяшчане і шляхта гэтых гарадоў адказалі стварэннем нефармальных супольнасцяў, якія здзяйснялі багаслужбы ў дамах. У некаторых дакументах сцвярджаецца, што яны здзяйснялі такім чынам нават Еўхарыстыю. Праверыць апошняе няма ніякай мажлівасці, бо такія сцверджанні маглі быць выказаныя праціўнікамі з мэтай падкрэсліць некананічнасць гэтых сходаў. Калі ерусалімскі патрыярх рукапаклаў для праваслаўных асобнага полацкага свяціцеля – Мілеція Сматрыцкага, на бок бунтарных праваслаўных перайшла частка духавенства.

У 1633 г. гэтыя нефармальныя супольнасці аб’ядналіся і пераўтварыліся ў Епіфанскае брацтва. Пры ім упершыню было створана асобнае маладзёвае брацтва, якое запазычыла статут у каталіцкіх брацтваў з кангрэгацыі Дзевы Марыі. Парадаксальным момантам у гэтым запазычанні з’яўляецца тое, што кожны, хто ўступаў у гэтае брацтва, мусіў засведчыць сваю веру ў беззаганнае зачацце Багародзіцы. Верагодна, што праваслаўныя разумелі гэта інакш, чым каталікі. І ўсё ж гэты факт застаецца прыкладам надзвычай моцнага ўзаемаўплыву хрысціянскіх канфесій нават у агні непрымірэнчага супрацьстаяння.

Такім чынам, брацкая традыцыя ў двух сваіх варыянтах – львоўска-віленскім і полацка-віцебскім – пакрывае ўсю тэрыторыю ВКЛ.

Пад уплывам трох фактараў – хрысціянскага Адраджэння, грамадзянскіх вольнасцяў і памкненняў шляхты да іх пашырэння, а таксама лацінскай адукацыі ў спалучэнні з лацінскай пагрозай – фармуецца унікальны тып эклесіялогіі і царкоўнага ўладкавання, які некаторыя гісторыкі назавуць “праваслаўнай рэфармацыяй”.

У гэтым руху варта вылучыць некалькі складнікаў, якія ў рознай ступені звязаныя паміж сабой:

1. Алігархі праваслаўнага веравызнання (князі і буйная шляхта).

2. Нефармальныя кампенсаторныя аб’яднанні праваслаўных (узнікалі пераважна ва ўсходніх частках Вялікага Княства Літоўскага, дзе ў сувязі з перыядычнай акупацыяй войскамі Маскоўскай дзяржавы не было ўстойлівай традыцыі гарадскіх брацтваў).

3. Запарожская Сеч, якая знаходзілася на ўкраінскім Дзікім Полі і ўяўляла з сябе своеасаблівае вайсковае брацтва па абароне праваслаўя. Менавіта запарожскія казакі забяспечвалі прыезд усходніх патрыярхаў. Да таго ж яны былі небяспечным сілавым фактарам, для стрымлівання якога ўлады Рэчы Паспалітай мусілі пастаянна пераглядаць сваю палітыку адносна праваслаўя[18].

4. Праваслаўныя царкоўныя брацтвы.

5. Манастыры, якія знаходзіліся пад абаронай брацтваў (так званыя брацкія манастыры).

Спрошчаная сістэма ўзаемаадносінаў паміж пералічанымі складнікамі выглядае наступным чынам. Праваслаўныя магнаты бралі на сябе адказнасць за палітычнае прававое становішча Праваслаўнай царквы, абаранялі яе на соймах і ў Радзе, ажыццяўлялі аўтарытэтнае дыпламатычнае ліставанне, заступніцтва і фінансавую падтрымку як асобным прыходам і манастырам, так і брацтвам і “падшэфным” ім манастырам ды навучальным установам, пры гэтым самі князі маглі быць членамі брацтваў альбо не быць імі ў залежнасці ад жадання і палітычнай выгоды. Паводле старажытнага звычаю, такія абаронцы царквы называліся ктытары. Некаторыя прадстаўнікі роду Астрожскіх атрымлівалі нават званне “вялікіх ктытараў” – тытул, годны візантыйскіх васілеўсаў.

Праваслаўныя царкоўныя брацтвы і падшэфныя ім манастыры (зазвычай, размешчаныя на землях гарадоў, вылучаных з-пад улады магістрату) складалі асноўнае цела руху, а заснаваныя імі навучальныя ўстановы – яго інтэлектуальную моц. Пад навучальнымі ўстановамі разумеюцца пераважна брацкія школы (першая з іх адчыненая ў 1584 г.) і школы пры брацкіх манастырах. Таксама трэба ўзгадаць, што ў 1580 г. пад апекай князя Канстанціна Васіля Астрожскага была заснаваная праваслаўная Астрожская духоўная акадэмія, у якой выкладалі як мясцовыя, так і грэчаскія выкладчыкі, у тым ліку і будучы канстанцінопальскі патрыярх Кірыл Лукарыс.

Асветніцкая дзейнасць руху была немагчымая без развіцця кніжнай справы. З гэтай прычыны брацтвы мелі свае друкарні ды скрыпторыі, якія змяшчаліся пераважна ў брацкіх манастырах. Ужо самая першая друкарня на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, дзе працаваў Ф. Скарына, мела падтрымку ад праваслаўных братчыкаў Вільні. Як ужо гаварылася раней, для праваслаўна-брацкага руху характэрны пафас вяртання да ўзору хрысціянства апостальскага веку, да евангельскага маральнага, містычнага і эклесіялагічнага ідэалу. Пра гэта сведчаць як устаноўчыя граматы брацтваў, так і сам вобраз іх жыцця. Рэалізацыя гэтых мэтаў вымагала ад кожнага ўдзельніка руху добрага

[18] Здараліся, праўда, і канфлікты паміж рознымі групоўкамі руху. Так, Канстанцін Васіль Астрожскі ўдзельнічаў у баявых дзеяннях супраць загонаў казацкага атамана Севярына Налівайкі.

ведання Святога Пісьма. Акрамя таго, Біблія актыўна выкарыстоўвалася ў міжканфесійнай палеміцы. Для гэтага неабходна было працаваць над перакладам і выданнем Святога Пісьма.

Адносна перакладчыцкай дзейнасці руху трэба адзначыць, што пасля пэўнага выбуху ў канцы XV ст. другая палова XVI ст. адзначана імкненнем прапагандаваць царкоўна-славянскую і грэчаскую мовы, якія хутка гублялі свае пазіцыі. Магчыма, гэта звязана з жаданнем адмежавацца ад хуткага распаўсюджвання рэфарматарскіх ідэй і лацінскай навуковасці, захоўваючы свае старажытныя традыцыі.

Вяртанне да працы над стварэннем і выданнем друкаваных перакладаў Святога Пісьма на народную мову назіралася ў апошнія гады XVI і на пачатку XVII ст. У 1596 г. выдаецца першы праваслаўны друкаваны пераклад Евангелля і Псалтыра ў Вільні. Тым не менш, па словах Катлярчука, які спасылаецца на Карскага, з часоў XVI і XVII стст. захавалася мноства рукапісных перакладаў Евангелля і Псалтыра (якраз у той час фармуецца папулярны дагэтуль спосаб сумеснага выдання гэтых дзвюх кніг), зробленых у праваслаўным асяроддзі. Пры гэтым многія – не звычайныя копіі, а новыя пераклады.

Да нашых часоў рукапісныя беларускія Евангеллі вывучаны вельмі блага, раскіданы па розных кнігасховішчах Расіі і Украіны. Аднак і з тых, якія даследаваны, відаць, што яны выкарыстоўваліся ў царкоўнай службе (нататкі на палях і паметкі перапісчыка для прасвітараў). Гэта азначае, што ў той час у храмах гучала пісанне на роднай мове альбо, прынамсі, уладальнікі кніг сачылі за чытаннем па сваіх беларускіх перакладах. Не надта гучным рэхам багацця, пра якое кажа прафесар Карскі, можна лічыць рукапіс Перасопніцкага Евангелля, створанага пад заказ княжны Анастасіі Гальшанскай у 1556 – 1561 гг. пад Луцкам. Гэты тэкст таксама, па словах украінскага даследчыка П. Жыцецкага, можна назваць старабеларускім, хоць ён паслужыў асновай для стварэння шэрагу стараўкраінскіх перакладаў (напрыклад, Жытомірскае Евангелле).

Беларускі ўхіл простай мовы ў гэтым тэксце выкліканы, хутчэй за ўсё, тым, што заказчык належаў да беларускага магнацкага роду Гальшанскіх. Зрэшты, розніца паміж стараўкраінскай і старабеларускай пісьмовымі мовамі ў той час не была дастаткова вялікай і ўяўляла, найхутчэй, варыянты адной і той самай “простай” мовы. Яшчэ адзін вядомы нам рукапіс створаны ў вёсцы Харошаў пад Астрогам у 1581 г. шляхцічам Валянцінам Негалеўскім.

Паралельна са стварэннем Астрожскім Біблії на царкоўна-славянскай мове ён перакладае Евангелле з польскай на беларускую. Згодна з А. Катлярчуком, у 1569 г. у Заблудаве вялікі гетман літоўскі Георгі Хадкевіч марыў выдаць Евангелле па-беларуску, але пагроза памылак спыніла яго намер. Сам гетман піша, што меўся “прэлажыці на

простую мову і меў есмі о том папячэнне вялікае. І совешча, і людзі мудрыя, у том Пісьме учоныя, іжэ прэкладаннем з даўніх пасловіц на новыя памылка чыніць ся не малая”. Цэнтры, дзе рабіліся пераклады і рыхтаваліся іх друкаваныя выданні, звычайна належалі брацтвам і тэрытарыяльна размяшчаліся ў брацкіх манастырах. Асноўнымі такімі цэнтрамі былі Віленскае брацтва Святога Духа з манастыром у Іўі (зараз – Вевіе, Літва), заснаваным князем Багданам Агінскім і Магілёўскае брацтва з манастыром у Куцейне пад Воршай (заснаваны князем Багданам Статкевічам). Катлярчук паведамляе, што “в Вільне і Евьі работают такіе веліколепные лінгвісты, как іеродіакон Віталій, архімандріт Леонтій (Карповіч). В Могілёве – епіскоп Сільвестр (Косов), архімандріт Варлаам (Пловка), печатнік Спірідон Соболь”. Тут мы бачым характэрнае ўзаемадзеянне розных частак руху за ўмацаванне праваслаўя. Заможны фундатар засноўвае манастыр, які потым знаходзіцца пад апекай ПЦБ і ў якім знаходзіцца цэнтр кніжнасці і навукі. Важна адзначыць, што ў XVI і XVII стст. не рэдкія былі перавыданні Новазапаветных кніг, дзе царкоўна-славянская і беларуская мова ішлі паралельна. Гэты спосаб выдання сустракаецца яшчэ раней у пратэстанта В. Цяпінскага (у 1580 г.). Сярод праваслаўных выданняў да гэтага тыпу належаць выданні Новага Запавету і Псалтыра 1611, 1641 гг. у Іўі, 1596, 1623 гг. у Вільні, выданне Апостала ў Магілёве (1633, 1638 гг.), у Куцейне ў 1632 г. і іншыя. Такая форма кнігі наводзіць на думку, што яна прызначаная для хатняга альбо келейнага чытання. Аднак па словах Катлярчука, на некаторых экзэмплярах гэтых кніг ёсць паметкі, якія сведчаць, што ўладальнік выкарыстоўваў іх у багаслужбе альбо для падрыхтоўкі да богаслужэння. Аднак, безумоўна, былі і выданні Новазапаветных тэкстаў, якія арыентаваліся адмыслова на богаслужэбнае выкарыстанне і казані ў царкоўным сходзе.

Адным з найбольш буйных і распаўсюджаных лекцыйна-навучальных перакладаў было выданне Апрокаса “Евангелле учицельное альбо Казаня на каждую нядзелю и свята урочысци... нова з кгрэцкага и словенскага языка на руский перэложэныя. Працэю и стараннем инакаў абщога жыция манастыра брацкага виленскага Сошествия Святаго и Жывотворящего Духа. Выдрукаваны ў Еўе, року 1616” – гэта велізарны фаліянт на 1000 старонак тэксту. Дадзеная кніга, нягледзячы на свае вялікія “напрастольныя” памеры і багатае афармленне, была адной з прац праваслаўных перакладчыкаў, якія найбольш шырока распаўсюджваліся і доўга выкарыстоўваліся.

Трэба згадаць таксама два царкоўнаславянскія тэксты, што сталі плёнам руху: зборнік біблійных тэкстаў на царкоўнаславянскай мове, сабраны ў 1502 – 1507 гг. у Вільні і Супраслі Мацеем Дзясятым, і найбольш аўтарытэтнае выданне – Астрожская Біблія, якую ў Астрозе пільна і крытычна звяралі з арыгіналамі, у чым прымалі ўдзел як мясцовыя, так і грэчаскія навукоўцы.

### *Пытанне 3. Чаму лютэранства не стала папулярным на Беларусі?*

Жыхары Вялікага Княства Літоўскага ў большасці належалі да ўсходнееўрапейскай – “візантыйскай” – цывілізацыі. Аднак гэта не замінала ім падтрымліваць шчыльныя кантакты з Заходняй Еўропай. Гэтыя кантакты адбываліся на ўсіх сацыяльных узроўнях. Знаць імкнулася парадніцца з уплывовымі сем’ямі заходняй Аўстрыі і Нямеччыны, рамеснікі скіроўваліся на своеасаблівыя “стажыроўкі” ў самыя аддаленыя гарады. Крызіс некалі магутнай грэчаскай адукацыі вымушаў студэнтаў шукаць навучання ў заходнееўрапейскіх універсітэтах. Натуральна, што культурныя, рэлігійныя і прававыя навінкі, народжаныя рэнесансным Захадам, хутка патраплялі на нашы землі. Гэта адбылося і з царкоўнай Рэфармацыяй. Некаторыя гісторыкі і папулярызатары гісторыі схільныя лічыць пачаткам Рэфармацыі з’яўленне на Беларусі прадстаўнікоў гусіцкага руху. Гэтая думка не пазбаўленая падставаў, пра якія мы пагаворым далей. Але ўсё ж гусіцкі рух не стаў уласна беларускім рухам, хоць і меў тут пэўныя ўплывы. Таму слушна датаваць пачатак Рэфармацыі на Беларусі першай паловай XVI ст.

Першым рэфармацыйным рухам, які патрапіў на Беларусь, было лютэранства. Яго прыход адбыўся, відавочна, пасля 1517 г., калі Марцін Лютэр распачаў актыўную дзейнасць па рэфармаванні царквы, але не пазней за 1535 г., калі вялікі князь Жыгімонт выдаў дакумент, звязаны з распаўсюдам лютэранства. Лютэранскія прапаведнікі з’явіліся ў нямецкіх раёнах беларускіх гарадоў. Магчыма, новае вучэнне мела шанец выйсці за межы гэтых раёнаў, калі б адразу ж не патрапіла пад пільную ўвагу ўладаў ВКЛ. У 1535 г. вялікі князь Жыгімонт выдаў у Вільні дэкрэт, якім прадпісваў кожнага прадстаўніка мясцовага насельніцтва, што навернецца ў лютэранства, караць як за знявагу каралеўскай маестаты. Гэта азначала смяротны прысуд. На такую рызыку дзеля новай веры ніхто не вырашыўся. З гэтай прычыны вучэнне Марціна Лютэра на тэрыторыі Беларусі засталося справай выключна нямецкамоўнага насельніцтва.

### *Пытанне 4. Хто такія евангелікі-рэфармісты?*

Рух евангелікаў-рэфармістаў запачаткаваны французскім прапаведнікам Жанам Кальвінам. Ён распачаў публічную дзейнасць пазней за Марціна Лютэра. У адрозненне ад нямецкага рэфарматара, якога цікавіла найперш пытанне апраўдання грэшнага чалавека, Жан Кальвін паставіў у цэнтр багаслоўскага задумення адносіны Бога да свету. Гэта дазволіла яму сфармуляваць цэнтральны прынцып сваёй філасофіі – прынцып абсалютнага суверэнітэту Бога. Безумоўна, гэта не было прынцыпова новай ідэяй. Усе хрысціяне гэта так ці інакш разумелі. Аднак у духоўнай практыцы Каталіцкай царквы, якую аспрэчваў Ж. Кальвін, дзеянне Божае было як бы “звязанае” самадастатковасцю

таемстваў і царкоўных пастановаў. З пункту гледжання рэфарматара, Бог цалкам вольны абіраць і прадугледжваць людзей да збавення. Пры гэтым Яму зусім не патрэбная дапамога саміх людзей. Такім чынам, Ж. Кальвін адмаўляў як распаўсюджанае на захадзе вучэнне пра апраўданне справамі, так і вучэнне айцоў-аскетаў пра супрацоўніцтва (сінергію) чалавека і Бога. Гэта зближае яго з віклівіянамі і блаж. Аўгустынам. Новае вучэнне не прызнавала за чалавекам магчымасці пакаяцца з уласнай волі – пакаянне лічылася выключным дарункам, дадзеным не кожнаму. З гэтага вынікаў моцны акцэнт на старазапаветную этыку. Кальвіністы настойвалі нават на вяртанні строгіх пакаранняў за парушэнне запаведзяў, у тым ліку пакарання смерцю за забойства, пералюб, хулу і ерась. Абапіраючыся на магістрат Жэневы, Ж. Кальвін здолеў выгнаць альбо вынішчыць у гэтым горадзе праціўнікаў Рэфармацыі. Царква, заснаваная ім, стала называцца евангелічнай і рэфармаванай. Папа рымскі быў абвешчаны антыхрыстам, што прысвойвае сабе правы Хрыста. За крыніцу веры евангелікі-рэфармісты прызнавалі Божае аб'яўленне, якое даецца трыма спосабамі – праз прыроду, праз гісторыю і праз Біблію. Нікеа-Канстанцінопальскі сімвал веры і іншыя творы старажытных хрысціянаў прызнаваліся за ўдалыя спробы тлумачэння Святога Пісьма.

Рух евангелікаў-рэфармістаў меў досыць вялікі поспех у многіх краінах Еўропы. Не стала выключэннем і ВКЛ. Патрапіўшы ў гатовым выглядзе да двара караля і вялікага князя, новы рух пачаў з шалёнай хуткасцю распаўсюджвацца сярод земляўласніцкіх элітаў. Сам вялікі князь Жыгімонт Аўгуст сімпатызаваў кальвінізму, хоць як кароль Польшчы мусіў заставацца каталікам. Ды нават і без яго асобы рэфармацыйнае вучэнне захоплівала ўсё больш і больш прадстаўнікоў уплывовых пластоў насельніцтва. Некаторыя гісторыкі нават асмельваюцца гаварыць, што ВКЛ ператварылася ў пратэстанцкую дзяржаву. Насамрэч гэта істотнае перабольшанне, бо кальвіністы ніколі не складалі большасці насельніцтва і не мелі асаблівых прывілей. Аднак надзвычай высокі інтарэс да кальвінізму з боку буйной беларускай шляхты відавочна меў месца. Па словах мітр. Макарыя многія каталіцкія духоўныя асобы пакідалі свае касцёлы і ўступалі ў шлюб. Кіеўскі біскуп Мікалай Пац адкрыта прапаведаваў пратэстанцкае вучэнне, застаючыся пры гэтым на сваёй кафедры, чым выклікаў засмучэнне папы рымскага.

Поспех кальвінізму, верагодна, звязаны з шэрагам спрыяльных умоваў, якія склаліся на нашых землях у першай палове XVI ст.

Першай умовай варта назваць рэнесансную культуру, што нараджала ў самых розных пластах грамадства ўсё больш і больш цікаўных людзей, якія жадаюць дабрацца да сутнасці і першакрыніцы хрысціянства. Катастрафічная неадукаванасць вялікай часткі праваслаўнага духавенства і недаступнасць лацінскай схаластыкі вымушалі многіх

мысляроў адштурхнуць і тое, і другое, шукаючы ў рэфарматарстве пажаданай свабоды думкі.

Другой умовай варта назваць нарастанне супярэчнасцяў паміж праваслаўнымі і каталіцкімі групамі насельніцтва, што ўносіла элементы няўстойлівасці ў палітычна-эканамічную і маральную сітуацыю ў краіне, прыводзячы да шматлікіх канфліктаў. Гэта вымушала частку буйной шляхты спадзявацца на нейкі трэці шлях, які падараваў бы мір.

Аказвалі ўплыў і пастаянныя войны з Масковіяй: яны падрывалі гаспадарку ўсходніх, пераважна праваслаўных, тэрыторый, што яшчэ больш аслабляла праваслаўе на беларускіх землях.

Спагадлівае стаўленне караля Жыгімонта дазволіла кальвінізму ў параўнанні з лютэранствам досыць хутка замацавацца ў ВКЛ. Нельга, безумоўна, скідваць з рахункаў і надзвычайную моц самога руху, яго глыбокі этычны пафас – натхненне, якое дазваляла Рэфармацыі скараць краіну за краінай.

Патрапіўшы ў такія ўмовы, евангелічная Рэфармацыя вызваліла патэнцыял думкі, дазволіўшы шэрагу адважных (часам нават нахабных) сцвержанняў, датычных як тэалогіі, так і сацыяльных вучэнняў, выбрацца на публіку. Разам з каталіцкім тамізмам пратэстанцкая думка стварыла ўмовы для фармавання на тэрыторыі ВКЛ дыскурсіўнай філасофіі агульнаеўрапейскага ўзору. Аднак разнастайнасць духоўных і філасофскіх пошукаў урэшце прывяла да расколу руху па прычыне ерасяў.

Для вырашэння гэтай праблемы быў праведзены шэраг кальвінскіх сабораў, у выніку чаго ад евангеліка-рэфармісцкага брацтва аддзяліліся носьбіты антытрынітарных і занадта радыкальных сацыялістычных вучэнняў. Апошнія ў 1570-я гг. стварылі лучнасць “літоўскіх братоў”.

Для некаторых твораў пратэстанцкіх аўтараў характэрны вельмі моцны патрыятычны пафас.

Прадстаўнікі руху вялі перакладніцкую і вучыцельную дзейнасць. Найбольш вядомымі групамі пратэстанцкіх кніжнікаў былі навуковыя гурткі, сабраныя ў Нясвіжы Мікалаем Радзівілам Чорным. У гэтым горадзе з 1562 да 1571 г. існавала друкарня. Навуковых гурткоў было два. Першы ўключаў у сябе каля 20 еўрапейскіх тэолагаў з розных краін свету. Сярод іх былі таксама Ф. Станкар і Дж. Б’яндарта (у некаторых тэкстах – Бландарт), яны адыгралі пэўную ролю ў беларускім хрысціянстве. Мэтай гурток ставіў падрыхтоўку і выданне поўнага збору біблійных кніг на польскай мове. Прычына, па якой Мікалай Радзівіл Чорны замовіў працу менавіта па-польску, дагэтуль не вызначана, хоць існуе шмат розных гіпотэз. Работа была скончана ў 1563 г. і выдрукавана ў горадзе Берасці, за што і атрымала назву Берасцейскай Бібліі.

Другі навуковы гурток улючаў у сябе некалькіх кальвінскіх прапаведнікаў – казнадзеяў, – найбольш вядомыя сярод іх С. Будны, К. Крышкоўскі і В. Амельяновіч-Цяпінскі. За час працы ў Нясвіжы быў створаны першы друкаваны Катэхізіс, што стала падставай для развіцця потым кніжнай традыцыі. Насамрэч гэта вялікі парадокс той эпохі. Само слова “катэхізіс” ў перакладзе з грэчаскай азначае “вуснае настаўленне”, настаўленне голасам. Так у старажытнай царкве называлі падрыхтоўку да пакаяння і хрышчэння. Аднак у XVI ст. Катэхізісам называецца кніга, напісаная ў выглядзе пытанняў і адказаў, у якой выкладзена дактрына пэўнай канфесіі. Твор С. Буднага, што дакладна называўся “Катэхізіс, навука старадаўняя, от святога пісання для людзей простых языка рускага, во пытаннях і адказах сабраная”, распачынае гэтую традыцыю. Як відаць з назвы, ён складзены на старабеларускай мове. На жаль, многія прадстаўнікі нясвіжскіх навуковых гурткоў – Дж. Б’яндарта, С. Будны, К. Крышкоўскі, верагодна, В. Цяпінскі – у сваіх тэалагічных шуканнях сышлі на шлях антытрынітарных ерасяў. Гарачы прыхільнік траічнай веры Мікалай Радзівіл Чорны спыніў падтрымку ўсіх, хто не трымаўся класічнага кальвінізму.

Акрамя нясвіжцаў на ніве біблістыкі працавалі іншыя рэфармацкія тэолагі – Сымон Зак, Марцін Чаховіц, Ян Л. Немыслоўскі, Тамаш Фальконіўс. Апошні, дарэчы, надрукаваў у Берасці дзве кнігі каментараў да новазапаветных тэкстаў, якія паўплывалі на ўсю экзэгетычную традыцыю ВКЛ.

Рух евангелікаў-рэфармістаў ніколі не быў шматлікім, але пры гэтым аказаў вялікі ўплыў на тэалогію і біблістыку ВКЛ. Пратэстанцкія матывы адчуваліся нават у працах вельмі аўтарытэтных праваслаўных багасловаў – у прыватнасці ў Кірылы Лукарыса і ягонага кола.

### *Пытанне 5. Што такое Таварыства Езуса?*

У сярэдзіне XVI ст. на фоне распаўсюду Рэфармацыі ўзнік вельмі цікавы ордэн каталіцкіх законнікаў, які атрымаў назву Таварыства Езуса. Яго заснавальнікам стаў Ігнацы Лаёла – чалавек з вельмі адметнай духоўнай біяграфіяй. Будучы гішпанскім рыцарам, ён узначальваў абарону горада Паплоны, калі яго штурмавалі аб’яднаныя войскі французаў і наварцаў. Нягледзячы на тое, што яго ногі былі перабіты ядром, малады капітан праявіў такую адвагу, што пасля сваёй перамогі французы з пашанай перанеслі яго на насілках у родавы замак Лаёлаў. Тут ён доўгі час праляжаў у пакутах паміж жыццём і смерцю, толькі Божым цудам затрымаўшыся на гэтым свеце. Калі хвароба пачала адступаць, Ігнацы запатрабаваў для чытання рыцарскія раманы. Аднак ізноў жа Божым цудам ва ўсім замку не аказалася ніякіх кніг, акрамя “Жыццеапісання Ісуса Хрыста” і аднаго тома жыцій святых. Паглыбіўшыся ў нязвыклае чытанне, Ігнацы адкрыў

для сябе гераізм, якога раней не ведаў. Гэта дазволіла яму зрабіць крок да глыбокага пакаяння. Скіраваўшыся ў святыню Монтсэрат, ён даў абет цноты і ахвяраваў сваю багатую вопратку жабракам, змяніў яе на зрэбіну. Напярэдадні Дабравешчання Ігнацы здзейсніў падрабязную споведзь за ўсё жыццё і стаў на начную варту перад вобразам Дзевы Марыі – такі абрад папярэднічаў высвячэнню ў рыцары. На золку ён перадаў сваю зброю як ахвяру на ўпрыгажэнне капліцы. Адгэтуль ён лічыў сябе высвечаным у рыцары Беззаганнай. Пасяліўшыся ў пячоры, Ігнацы аддаўся малітве і служэнню хворым. Здараліся ў яго і духоўныя крызісы, але прага чысціні і еднасці з Богам перамагала. Аднойчы па дарозе ў царкву ён адчуў моцнае натхненне, якое апісаў гэтак: “Досыць сказаць, што я атрымаў вялікае святло разумення, так што, калі скласці ўсю дапамогу, на працягу ўсяго жыцця атрыманую ад Бога, і ўсе набытыя мною веды, то мне падаецца, што гэта было б меней за тое, што я прыдбаў у гэтым адзіным выпадку. Мне падалося, што я стаў іншым чалавекам...”.

У наступным годзе Ігнацы здзейсніў паломніцтва ў Святую Зямлю. Вярнуўшыся ў Венецыю, ён зразумеў, што не можа паўнавартасна несці місію, не атрымаўшы належнага навучання. Вывучыўшы лаціну, ён скіраваўся ў Алькальскі універсітэт. Будучы студэнтам, ён актыўна ажыццяўляў катэхізацыю сярод простых людзей. За гэта Ігнацыя арыштавалі, пасля доўгага разгляду справы яму забаранілі вучыць і прапаведаваць. Для сканчэння адукацыі будучы заснавальнік ордэна скіраваўся ў Парыж. За час вучобы ў розных тамтэйшых школаў вакол Ігнацыя сабралася групоўка паплечнікаў. 15 жніўня 1534 г. яны разам прынеслі манаскія абеты, а праз шэсць гадоў папа Павал III зацвердзіў статут новага ордэна – таварыства Езуса. З цягам часу новы ордэн разросся і ператварыўся ў моцную арганізацыю з вайсковай дысцыплінай, падпарадкаваную непасрэдна папу рымскаму. Духоўную аснову ордэна складала *тэалогія прысутнасці* – неабходнасць для чалавека адчуваць пастаянную прысутнасць Хрыста і набліжаць Ягонае валадарства. Для паглыблення ў Божую прысутнасць выкарыстоўваліся чатырохтыднёвыя духоўныя практыкаванні, распрацаваныя Ігнацыем Лаёлам. Таварыства Езуса было адной з найбольш паспяховых місіянерскіх арганізацый, якая дасягнула вялікай колькасці навяртанняў на ўсіх кантынентах. Насуперак папулярнаму меркаванню, многія з гэтых навяртанняў былі шчырымі і вынікалі з палымянай пропаведзі езуітаў.

Езуіты прынеслі на Беларусь вышэйшую адукацыю і паслужылі станаўленню многіх гуманітарных і натуральных навук. Аднак, з іншага боку, праяўлялі агрэсію адносна іншых хрысціянскіх канфесій.

### *Пытанне 6. Што такое контррэфармацыя?*

Распаўсюд Рэфармацыі ў Еўропе ўнёс чарговы разлад у баланс сіл паміж свецкай і духоўнай уладай. Рэфармацыйныя, асабліва кальвінісцкія, ідэі выклікалі сімпатыю ў многіх еўрапейскіх манархаў. Аднак сутыкненне паміж каталіцкімі і пратэстанцкімі партыямі прыводзіла да разбуральных наступстваў. Каб спыніць беспарадкі, каталіцкія каралі вымусілі папскую курыю зноўку звярнуцца да вопыту саборнага руху і склікаць сабор. Зрэшты, на гэтым настойвалі і многія каталіцкія багасловы, якія жадалі вывесці каталіцтва з крызісу, у якім яно апынулася.

Доўгачаканы сабор распачаў працу ў 1545 г. у горадзе Трыдэнтум (зараз Трыента), адкуль і атрымаў назву. Прадстаўнікі шэрагу каралеўскіх двароў, якія прыбылі на сабор, настойвалі на прыняцці ідэй Рэфармацыі, аднак кансерватыўная партыя на чале з папам аказалася больш моцнай. Ідэі Рэфармацыі былі адкінутыя і прызнаныя ерэтычнымі. І ўсё ж рэфармаванне касцёла адбылося. Толькі не ў пратэстанцкім, а ў сваім уласным рыма-каталіцкім рэчышчы. Па-першае, прынялі шэраг мер па паляпшэнні дысцыплінарнага ўзроўню мясцовага духавенства. Дзеля гэтага былі ўдакладнены царкоўныя правілы, адхіленне ад якіх успрымалася як ерась. Па-другое, прынялі меры па паляпшэнні адукацыйнага ўзроўню каталікоў (у першую чаргу духавенства). На загад айцоў сабору пачалі ствараецца новыя навучальныя ўстановы. Апошнія сталі ледзьве не самай магутнай зброяй у руках нованароджанага трыдэнцкага руху. Па-трэцяе, для кансалідацыі касцёла ў розных рэгіёнах ствараліся адмысловыя кангрэгацыі, падначаленыя непасрэдна папу і непадуладныя мясцовым епіскапам. Быў прыняты шэраг мераў для павышэння актыўнасці простых міранаў на карысць царквы. Усталяваны парадак стварэння брацтваў і асветніцкіх таварыстваў. Акрамя ўсяго, была праведзена ўніфікацыя літургічных тэкстаў і веравучэння. Па выніках сабору быў выдадзены “Катэхізіс”, у якім выкладалася дактрына касцёла.

Рух, які распачаўся з Трыдэнцкага сабору, атрымаў у гісторыі назву контррэфармацыі. Часта ён успрымаецца выключна як рэакцыйны выпад супраць пратэстантызму. У гэтым ёсць доля ісціны. Безумоўна, ідэі контррэфармацыі былі ў найвышэйшай ступені клерыкалістычныя. З гэтай прычыны антыклерыкальны пратэстантызм быў для яе галоўным ворагам. І ўсё-ткі новы рух таксама яўляў сабой духоўнае абнаўленне царквы. Гэта дало яму магчымасць нарадзіць магутную культуру са сваім мастацтвам і сваёй духоўнасцю, культуру, якая аказала ўплыў на ўсе хрысціянскія канфесіі.

Сэрцам контррэфармацыі стала новаўтвораная рэгула Таварыства Езуса, якая грунтавалася на містычным вучэнні яе заснавальніка св. Ігнація Лаёлы, так званай тэалогіі

прысутнасці. Асаблівасцю новай рэгулы была яе надзвычайная аддадзенасць папу рымскаму ў спалучэнні з місіянерскай харызмай. Яе прадстаўнікі, акрамя звычайных трох манаскіх абетаў, давалі яшчэ адзін, што часцей за ўсё выражаўся ў поўнай аддадзенасці пантыфіку.

Першыя езуіты прыбылі на Беларусь у 1569 г. Іх туды запрасіў віленскі біскуп Валяр'ян Пратасевіч. Прычынай было тое, што амаль усе яго ўплывовыя парафіяне перайшлі ў кальвінізм. Зазвычай менавіта з гэтага года адлічваюць гісторыю контррэфармацыі на Беларусі.

Першае, чым заняліся езуіты на нашай Бацькаўшчыне, – гэта наладжванне сістэмы адукацыі. Аснову яе складалі так званыя калегіюмы (ад лацінскага collegium – сябрына). Гэта былі навучальныя ўстановы, якія давалі класічную гуманітарную адукацыю еўрапейскага ўзроўню. Працэс навучання падзяляўся на тры ступені – пачатковую, сярэднюю і вышэйшую. На першую ступень, дзе вывучалі лацінскую мову, знаёміліся з найбольш простымі творамі Цыцэрона і Вергілія, прымалі прадстаўнікоў розных саслоўяў любога хрысціянскага веравызнання. Навучанне было прынцыпова бясплатнае, і гэта прываблівала дзяцей дробнай шляхты і гараджанаў. Другая ступень называлася гуманітарным класам, альбо класам паэзіі. На ёй вывучалася антычная літаратура, творы старажытных філосафаў. Шмат увагі аддавалася рыторыцы, уменню весці дыспут. Своеасаблівым новаўвядзеннем езуітаў быў школьны тэатр, у якім мусілі ўдзельнічаць усе студэнты другой ступені. Тэатральныя пастаноўкі рабіліся вельмі старанна і паказваліся на шырокую публіку. Акрамя місіянерскай і катэхізічнай функцыі, якую забяспечваў рэлігійны змест спектакляў, тэатр спрыяў пастаноўцы голасу, уменню ўзаемадзейнічаць з аўдыторыяй і іншым майстэрствам, неабходным для прапаведніка[19]. Трэцяя ступень – філасофска-тэалагічная – мелася не ва ўсіх калегіюмах і прызначалася толькі для членаў ордэна, што рыхталіся прыняць святарскі сан.

Нягледзячы на "грэка-рымскую" аснову школьнай праграмы, уся яна была прасякнута хрысціянскім зместам у яго рыма-каталіцкай інтэрпрэтацыі. Ужо на другую ступень навучання прымалі толькі рыма-каталікоў. Магчымасць атрымаць паўнавартасную адукацыю часта станавілася стымулам для прыняцця каталіцтва. Асабліва гэта датычыла пратэстанцкай моладзі, якая не заўсёды магла навучацца ва універсітэтах сваёй канфесіі – яны знаходзіліся далёка за межамі Беларусі. На жаль, здабыткі еўрапейскай адукацыі сталі не толькі прыладай хрысціянскай асветы, але і зброяй жорсткай контрмісіі, скіраванай супраць прадстаўнікоў іншых хрысціянскіх

[19] Фактычна, менавіта ў езуіцкіх калегіюмах быў пакладзены пачатак тэатральнаму мастацтву як такому. Менавіта адсюль пайшоў на нашай бацькаўшчыне тэатр гульнявы і тэатр лялечны – знакамітыя беларускія батлейкі.

веравызнанняў. Фактычна, дзякуючы адукацыйнай і прапаведніцкай моцы прадстаўнікам контррэфармацыі ўдалося звесці да мінімуму ўплыў пратэстанцкіх рухаў. Складаней было з праваслаўем, за якім стаяла не толькі сіла глыбокіх каранёў, але і немалы асветніцкі патэнцыял. Брацкія школы мелі не толькі сталую педагагічную традыцыю, але і здольнасць хутка пераймаць і засвойваць адукацыйныя навінкі, што прыходзілі з захаду. Таму ўзровень брацкіх школ не саступаў узроўню езуіцкіх калегіюмаў. Між тым ахопленае брацкім (фактычна – антыклерыкальным) рухам праваслаўе таксама ўспрымалася прадстаўнікамі контррэфармацыі як праціўнік, якога неабходна ўтаймаваць і падпарадкаваць.

Для гэтага ў нетрах контррэфармацыі быў распрацаваны праект па адраджэнні Фларэнтыйскай уніі. Адным з яго найбольш гарачых натхняльнікаў з’яўляецца выбітны езуіцкі прапаведнік Пётра Скарга. Праект рэалізаваўся на Берасцейскім саборы 1596 г. Паводле пастановаў сабора, праваслаўная царква на тэрыторыі Рэчы Паспалітай уступала ў лакальную унію з рыма-каталіцкай царквой, прымаючы лацінскую дагматыку і пераходзячы пад кіраўніцтва папы рымскага. Пры гэтым праваслаўным дазвалялася захаваць візантыйскі абрад, царкоўнаславянскую мову багаслужбы і магчымасць шлюбу для белага духавенства. Аднак увядзенне уніі выклікала супраціўленне шэрагу праваслаўных брацтваў, а таксама міранаў і духавенства, не належных ані да якіх рухаў. Гэта стварыла перадумовы жорсткага супрацьстаяння, якое праявіцца ў наступны перыяд гісторыі.

Сярод станоўчых момантаў дзеяння прадстаўнікоў контррэфармацыі варта назваць таксама фармаванне на тэрыторыі Беларусі культуры ў стылі барока. Нашая Бацькаўшчына зрабілася адным з цэнтраў фармавання гэтага папулярнага ва ўсёй Еўропе стылю архітэктуры, жывапісу і музыкі. Барока было паклікана паказаць прысутнасць Валадарства Божага на зямлі. З гэтым звязаная своеасаблівая “воблачная” форма будынкаў, духоўны рэалізм у жывапісе і скульптуры. Цікава, што задуманае як культурны веснік каталіцкага наступу на Беларусі барока не стала чыста лацінскім стылем. Ім карысталіся тут і праваслаўныя. На падставе зліцца “рускага” адгалінавання ў візантыйскай іканаграфіі і барочнага жывапісу сфармавалася самабытная школа іканапісу, якая атрымала назву “беларускай школы”.

## *Пытанне 7. Як былі ўладкаваныя каталіцкія брацтвы і чым яны адрозніваліся ад праваслаўных?*

Першыя гарадскія каталіцкія брацтвы на тэрыторыі Беларусі ўзніклі ў Вільні ў XV ст. За ўзор узятыя аналагічныя аб’яднанні ў польскіх гарадах, якія ў сваю чаргу арыентаваліся на нямецкія гарадскія брацтвы. Спярша гэта былі выключна малітоўныя

супольнасці, звязаныя зборам ахвяраванняў на замову памінання падчас імшы – так званыя пахавальныя, альбо “мшарэнавыя”, брацтвы. Аднак з цягам часу кампетэнцыя гарадскіх каталіцкіх брацтваў пашыралася: дыяканія, духоўная і матэрыяльная ўзаемападтрымка, удзел у жыцці касцёла. Першапачаткова брацтвы ўтвараліся пры галоўных храмах горада, аднак з цягам часу яны сталі ўзнікаць ледзьве не ў кожнай парафіі. У адрозненне ад праваслаўных брацтваў, каталіцкія строга падпарадкоўваліся мясцоваму епіскапу. Менавіта ён прызначаў кіраўніцтва брацтва, якое складалася з рэктара, дырэктара і мадэратара. Пасаду рэктара часта займаў пробашч парафіі, да якой належала брацтва. Дырэктар мог быць выбарным, а мадэратар выконваў функцыі непасрэднага прадстаўніка епіскапа. Пад строгім наглядам іерархіі знаходзілася дзейнасць і грашовыя сродкі брацтва. Пасля Трыдэнцкага сабору гарадскія брацтвы былі захопленыя контррэфармацыйным рухам і строга ўбудаваныя ў сістэму кіравання касцёлам. Прыём у брацтва суправаджаўся пэўным рытуалам і запісам у брацкую кнігу. Братчыкі рэгулярна збіраліся на сесіі, дзе адбывалася рэвізія дзейнасці брацтва. Як і ў выпадку праваслаўных брацтваў, каталіцкія братчыкі строга сачылі за маральнасцю. Пад страхам цялесных пакаранняў забараняліся блуд, п’янства і іншыя праявы распусты.

Брацтвы ажыццяўлялі асветніцкую дзейнасць праз распаўсюджанне, тлумачэнне і завучванне рэлігійных тэкстаў. Школьніцтва ў рыма-каталіцкай царкве было прэрагатывай манаскіх і законніцкіх ордэнаў. Важным момантам дзейнасці каталіцкіх брацтваў была сацыяльная дыяканія – уладкаванне прытулкаў, шпіталяў, выплата матэрыяльнай дапамогі сем’ям спачылых братчыкаў.

У больш позні перыяд назіраюцца выпадкі аб’яднання каталіцкіх брацтваў у саюзы – так званыя арцыбрацтвы.

## *Пытанне 8. Што было вырашана на Берасцейскім саборы 1596 г.?*

Як ужо было сказана, адным з праектаў контррэфармацыі было адраджэнне Фларэнтыйскай уніі. Падставы для гэтага былі ў самой Праваслаўнай царкве на землях ВКЛ.

Па-першае, многімі адукаванымі людзьмі ўсур’ёз абдумвалася ідэя аб’яднання ўсіх хрысціянскіх канфесій. Такое пытанне калісьці ставіў яшчэ вялікі князь Вітаўт. Былі прыхільнікі ў такога праекту і сярод прадстаўнікоў брацкага руху. Напрыклад, князь Васіль Канстанцінавіч Астрожскі выказваў у сваіх лістах прапанову склікання восьмага сусветнага сабору. На яго думку, на яго маглі б сабрацца праваслаўныя, каталікі і пратэстанты, дасягнуць дагматычнага адзінства і аднавіць еўхарыстычную еднасць, пры

тым што кожная царква магла б захаваць сваю абраднасць і сістэму кіравання. Гэты утапічны на той час праект быў блізкі некаторым іерархам праваслаўнай царквы.

Па-другое, царкоўная іерархія была незадаволена самакіраваннем брацтваў, якія фактычна абмяжоўвалі ўладу кіроўнага архірэя, не кажучы ўжо пра ўладу настаяцеляў брацкіх храмаў. Развіццё гэтага антыклерыкальнага руху выклікала сур'ёзны непакой у епіскапату.

Па-трэцяе, многія праваслаўныя былі незадаволеныя тым, што ўсходнія патрыярхі, знаходзячыся пад турэцкім панаваннем, пастаянна прасілі грошай на расплату з асманскімі заваёўнікамі. З улікам усіх пералічаных абставінаў перспектыва уніі з багатай, прывілеяванай і клерыкалістычна настроенай рыма-каталіцкай царквой прываблівала многіх усходніх епіскапаў на землях Рэчы Паспалітай.

Праект новай уніі быў адобраны ў Рыме ў канцы 1595 г. Фактычна ён паўтараў умовы Фларэнтыйскай: Праваслаўная царква на землях Рэчы Паспалітай пераходзіла пад кіраванне папам рымскім і прымала каталіцкі бок у дагматычных спрэчках. Пры гэтым захоўвалася ўсходняя абраднасць і духоўнасць.

Аднак з ратыфікацыяй уніі на бацькаўшчыне ўзніклі пэўныя складанасці. Для прыняцця папскіх умоваў быў скліканы сінод у Берасці, які амаль адразу раскалоўся на дзве партыі. Прадстаўнікоў брацкага руху і некаторых епіскапаў не задавальнялі нераўнапраўныя ўмовы уніі. Праз гэта шэраг уплывовых прыхільнікаў уніі зрабіліся яе праціўнікамі. Сярод іх быў князь В. К. Астрожскі, епіскапы Г. Балабан і М. Капысценскі. Непрыняццю уніі спрыялі экзарх канстанцінопальскага патрыярха Нікіфар і экзарх александрыйскага патрыярха Кірыл Лукарыс.

Такім чынам, Берасцейскі сабор фактычна раскалоўся на два супрацьлеглыя па настроі саборы, якія пачалі збірацца ў розных памяшканнях. Першы з іх – уніяцкі – зацвердзіў унію і пазбавіў сану яе праціўнікаў, другі – антыуніяцкі – адкінуў унію і пазбавіў сану яе прыхільнікаў. Кароль Жыгімонт ІІІ Ваза, гарачы прыхільнік контррэфармацыі, зацвердзіў акт уніі і рэкамендаваў усім праваслаўным Рэчы Паспалітай прыняць яе. Аднак некалькі рэгіёнаў засталіся вернымі праваслаўю – жыхары Слуцкага княства, а таксама Пінск і Магілёў з ваколіцамі. У некаторых рэгіёнах прыняцце уніі адбылося чыста фармальна і не паўплывала на жыццё хрысціянаў.

### ***Пытанне 9. Як узніклі уніяцкія брацтвы і чым яны займаліся?***

Першыя уніяцкія брацтвы ўзніклі праз пераход праваслаўных брацтваў у юрысдыкцыю грэка-каталіцкай царквы, утворанай па рашэнні Берасцейскага сабору. У гэтым выпадку яны гублялі частку самастойнасці і пераходзілі ў падпарадкаванне

мясцоваму уніяцкаму епіскапу. Ва ўсім астатнім кожнае брацтва трымалася сваіх звычаяў, ажыццяўляючы асветніцкую дзейнасць праз брацкія школы і сацыяльнае служэнне праз выплату пенсій нямоглым братчыкам, уладкаванне прытулкаў і святочных абедаў для жабракоў.

Пазней пачалі ўтварацца ўласна грэка-каталіцкія брацтвы пры новапабудаваных цэрквах. Характар іх дзейнасці заставаўся тым самым, а статуты маглі пераймацца як у каталіцкіх, так і ў праваслаўных брацтваў.

У пэўныя перыяды гісторыі уніяцкія гарадскія брацтвы былі асноўным спосабам рэалізацыі царкоўнасці міранаў у беларускіх гарадах. Збіранне царквы і ўсталяванне набожнасці – у гэтым заключалася іх асноўная роля. Аднак наступствам Берасцейскай уніі быў пераход брацтваў пад клерыкальны кантроль.

# Тэма 7 Беларусь у часы радыкальнай контррэфармацыі (1648-1793)

## *Пытанне 1. Што прывяло да гібелі Рэч Паспалітую?*

Канец XVI – першая палова XVII ст. лічацца росквітам вайсковай магутнасці Рэчы Паспалітай. У 1605 г. былі разбітыя шведы. У 1609 – 1618 гг. адбывалася інтэрвенцыя ў Масковію з мэтай усталявання там свайго ўраду. У 1610 г. войскі Рэчы Паспалітай увайшлі ў Маскву. Каралевіч Уладзіслаў быў абраны маскоўскімі баярамі на царскі трон. Да ВКЛ далучыліся значныя тэрыторыі. Канцлер ВКЛ разлічваў на ўваходжанне Масковіі як трэцяга члена канфедэратыўнай дзяржавы ў Рэч Паспалітую. Гэта магло б знізіць уплыў Польшчы. Аднак таго не сталася.

Між тым расла прыгонніцкая эксплуатацыя сялянаў. Вайсковыя выдаткі пагаршалі сітуацыю, а маральная разбэшчанасць шляхты ўсё часцей прыводзіла да беспрэцэдэнтных акцый гвалту. Звычайнымі былі разбойніцкія напады на вёскі іншых гаспадароў. Такія паходы маглі пакідаць ад вёсак голыя папялішчы. Прыгонныя дзяўчаты і кабеты цярпелі ад распусты паноў. Для падпарадкавання сялянаў выкарыстоўваліся самыя вычварныя катаванні. Натуральна, што даведзеныя да адчаю земляробы падымалі бунты.

Незадаволенасць расла і сярод гарадской галоты. У 1606 г. жыхары Магілёва ўзброеным чынам скінулі старую гарадскую раду і выбралі новы магістрат. Большасць яго членаў былі беднякамі, некаторыя нават не ўмелі пісаць і не ведалі заканадаўства. У 1615 г. мяшчане Мазыра паўсталі супраць старасты, які інтрыгаваў, каб пазбавіць горад магдэбургскага права.

Звычайнымі сталіся хваляванні ўкраінскай і палескай вольніцы. Іх выклікалі наступ контррэфармацыі і прыгнёт з боку Польшчы. Ужо ў 1594 – 1596 гг. Севярын Налівайка

ўварваўся на тэрыторыю Беларусі, захапіўшы Слуцак і Магілёў. У 1648 – 1651 гг. казакі распачалі поўнамаштабную антыфеадальную вайну, якая суправаджалася помстай не толькі шляхце, але і каталіцкаму духавенству. Летам 1648 г. казацкія атрады праніклі на поўдзень Беларусі. Украінскіх казакаў (так званых чаркасаў) падтрымалі вольныя палешукі, а таксама многія сяляне і гараджане пераважна праваслаўнага веравызнання. Паўстанцы рабавалі панскія маёнткі, жорстка распраўляліся з каталікамі і яўрэямі. Аднак у 1651 г. казакаў разбіла войска пад кіраўніцтвам Я. Радзівіла.

У 1654 г., скарыстаўшыся беспарадкамі, у межы ВКЛ увайшлі расейскія войскі. У вайне 1654 – 1667 гг. ваенныя дзеянні адбываліся на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Акрамя расейскіх войскаў, тут дзейнічалі казацкія атрады, якія, праўда, хутка аддзяліліся ад расейцаў, утварыўшы самастойную беларускую казацкую рэспубліку.

Ужо 31 ліпеня 1665 г. царская армія захапіла Вільню. У вулічных баях загінула дзесяць тысячаў гараджанаў. У вёсках расейскія войскі забіралі харч і коней. Сялян прымушалі прадаваць хлеб па нізкіх цэнах, расплочваліся манетамі, вага і сплаў якіх не адпавядалі наміналу. Мужчын забіралі ў войска. З захопленых гарадоў вывозіліся палонныя – асабліва рамеснікі. Яшчэ адным разбуральным фактарам было тое, што большасць сваіх і акупацыйных войскаў складалася з наймітаў-чужаземцаў, якія жорстка і безгаспадарліва паводзілі сябе на Беларусі. Сярод насельніцтва панавалі голад і эпідэміі. Не з лепшага боку паказвала сябе шляхта, якая, карыстаючыся нестабільнасцю дзяржаўнай мяжы, рабіла наезды на сваіх суайчыннікаў, што патрапілі пад акупацыю, і ваеннапалонных ператварала ў халопаў.

Адкінутыя на паўночны захад войскі ВКЛ былі вымушаныя заключыць пагадненне са шведамі. Апошнія, спрабуючы ўвайсці ў валоданне землямі Вялікага Княства, сутыкнуліся з Расеяй. Дзякуючы гэтай вайне паміж акупацыйнымі войскамі Польшча і ВКЛ здолелі сабраць сілы і прагнаць і тых, і іншых акупантаў. Аднак большая частка тэрыторыі ВКЛ была знясілена вайной. Некаторыя раёны абязлюдзелі. Таму мір заключаўся на невыгодных умовах. Рэч Паспалітая страціла Смаленскія землі і Левабярэжную Украіну разам з Кіевам. Да таго ж Расея пакідала за сабой права ўмешвацца ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай. Бяздумныя грашовыя рэформы і ўзмацненне прыгонніцкага прыгнёту толькі пагоршылі эканамічнае становішча. У ВКЛ магнацкія групоўкі пачалі грамадзянскую вайну за ўладу. У заняпад прыйшла асвета. Не толькі сярод простага насельніцтва, але і сярод магнатаў сустракаліся непісьменныя. У 1696 г. усё справаводства ў ВКЛ было пераведзена на польскую мову. Беларуская, такім чынам, пераставала быць актавай. У краіне панавалі распуста, гвалт і абыякавасць да лёсу айчыны і хрысціянства.

У 1700 – 1721 гг. Рэч Паспалітая ўступіла ў Паўночную вайну, якая вялася на яе тэрыторыі. Пагаршэнне эканамічнага стану выклікала сялянскія хваляванні. Самае моцнае з іх адбылося ў 1743 – 1744 гг. у Крычаўскім старостве. Сяляне нападалі на шляхецкія маёнткі, дамы купцоў і ліхвяроў, палілі судовыя і даўгавыя кнігі. Паўстанне было жорстка задушана, палонныя пакараныя самымі неміласэрнымі катаваннямі.

На фоне перманентнага эканамічнага заняпаду магнаты павялічвалі раскошу свайго побыту. На ўсё гэта патрабаваліся сродкі. Рэч Паспалітая ператваралася ў самую бязлітасную прыгонніцкую краіну ў Еўропе. Спробы асветніцтва сярод сялянаў успрымаліся як злачынствы. Шляхта нават у афіцыйных дакументах не саромелася сцвярджаць, што сялянскі род павінен трымацца ў тузе, нястачы і непісьменнасці. Натуральна, што гэта прывяло спярша да духоўнай, а пасля і да палітычнай гібелі краіны. На сойме 1793 г. ВКЛ было скасавана як незалежны суб’ект у Рэчы Паспалітай. Для ўсіх жыхароў дзяржавы ўводзілася агульная этнічная назва – палякі, а каталіцтва рабілася адзіным афіцыйным веравызнаннем.

## *Пытанне 2. Якія навучальныя ўстановы з’явіліся ў кальвіністаў?*

У папярэдніх тэмах мы гаварылі пра тое, як развівалася школьніцтва ў праваслаўнай і рыма-каталіцкай царкве. Аднак па-за нашай увагай засталіся пратэстанцкія школы. Прадстаўнікам евангеліка-рэфармацкай царквы не ўдалося стварыць на землях ВКЛ вышэйшых навучальных установаў. Універсітэцкую адукацыю беларускім кальвіністам даводзілася атрымліваць у пратэстанцкіх універсітэтах Заходняй Еўропы, найбліжэйшы з якіх знаходзіўся ў Кёнігсбергу.

Аднак яшчэ ў XVI ст. у Вільні была заснавана кальвінская школа, якая давала адукацыю гімназічнага ўзроўню. Яе фундатарам быў Мікалай Радзівіл Чорны, ён спрыяў яе адкрыццю ў 1555 г. Навучанне доўжылася 5 гадоў. Акрамя кальвінскай тэалогіі, вывучаліся мовы, паэтыка, юрыспрудэнцыя і матэматыка. Узначальваў школу рэктар, якога прызначаў сінод Літоўскай правінцыі.

Якасць адукацыі віленскай школы была настолькі высокая, што ў 1588 г. рабіліся спробы пераўтварэння яе ў акадэмію. Аднак гэта выклікала жахлівае супраціўленне езуітаў і караля Рэчы Паспалітай.

Яшчэ адной значнай навучальнай установай евангеліка-рэфармацкай царквы была слуцкая гімназія, адкрытая ў 1617 г. Навучанне ў ёй вялося на польскай і лацінскай мовах. Акрамя навуковых прадметаў, прысутнічала фізічнае выхаванне, яно складалася з дзвюх дысцыплін – гімнастыкі і фехтавання. У слуцкую гімназію прымаліся дзеці ўсіх саслоўяў і

розных хрысціянскіх веравызнанняў, аднак збольшага ў ёй навучаліся дзеці кальвінскай шляхты.

Нягледзячы на малалікасць сваёй канфесіі, кальвіністам удалося адчыніць яшчэ шэраг агульнаадукацыйных школ і зрабіць унёсак у развіццё асветы на Беларусі.

## *Пытанне 3. Як хрысціяне забівалі хрысціянаў за веру хрысціянскую?*

XVII ст. па ўсёй Еўропе адзначылася войнамі паміж прадстаўнікамі розных хрысціянскіх канфесій. На жаль, Рэч Паспалітая ў гэтым сэнсе не стала выключэннем. На тэрыторыі Беларусі таксама мелі месца ўзброеныя міжканфесійныя сутыкненні, якія часам набывалі масавы характар.

Першымі ахвярамі міжхрысціянскай разні сталі пратэстанты. Пагром евангелічна-рэфармацкага збору ў Вільні адбыўся ўжо ў 1591 г. Арганізацыю гэтай варварскай акцыі прыпісваюць езуітам. Пагромы з боку каталікоў паўтараліся ў 1611, 1639, 1682 гг. Пры гэтым у 1611 быў цалкам спалены архіў евангелічна-рэфармацкага сіноду. Праваслаўныя ў гэтай барацьбе падтрымлівалі пратэстантаў. Захаваліся нават творы, напісаныя праваслаўнымі аўтарамі ў абарону пратэстантызму і пратэстанцкімі аўтарамі ў абарону праваслаўя.

Сур’ёзнае сутыкненне паміж праваслаўнымі і каталікамі адбылося падчас вайны Севярына Налівайкі. Аднак гэты канфлікт не быў чыста рэлігійным – ён меў выражаную сацыяльную афарбоўку.

Здараліся дзяржаўныя рэпрэсіі супраць праваслаўных брацтваў. Каля сотні вернікаў былі прысуджаныя да смерці за спробу не дапусціць полацкага уніяцкага епіскапа Ясафата Кунцэвіча ў горад Магілёў. У некаторых дакументах полацкі ўладыка вінаваціцца ў спрычыненні да выкідання з магілаў целаў спачылых праўваслаўных. Яго настойлівыя захады па ўсталяванні сваёй улады выклікалі абурэнне сярод жыхароў Віцебска і Полацка. У выніку віцебскага паўстання Ясафата Кунцэвіча забілі. Па прысудзе трыбуналу за гэтае забойства былі пакараныя смерцю 19 праваслаўных вернікаў і яшчэ 72 удзельнікі паўстання прысуджаныя да смерці завочна.

У 1648 г. быў расстраляны па фальшывым абвінавачанні праваслаўны прапаведнік Афанасі Філіповіч. У тым самым годзе праваслаўныя казакі забілі езуіцкага прапаведніка Ігнацыя Баболю. І гэта толькі найбольш вядомыя выпадкі забойстваў святароў іншых канфесій.

Акрамя вышэй пералічаных крывавых эпізодаў, звычайнымі былі бойкі паміж жыхарамі праваслаўных і каталіцкіх кварталаў гарадоў, сутыкненні праваслаўных і каталіцкіх хросных хадоў на вялікія святы.

Ганебным момантам сталася тое, што ў некаторых канфесійных навучальных установах заахвочваліся хуліганскія напады на студэнтаў іншай веры. Адным з найбольш скандальных выпадкаў быў напад навучэнцаў езуіцкай акадэміі на віленскую кальвінскую школу, які адбыўся ў 1611 г. У выніку пагрому будынак школы згарэў. Многія вучні ды настаўнікі пацярпелі ад фанатызму каталіцкіх студэнтаў.

Прычына такога становішча – агрэсіўная контрмісія каталіцкай царквы, скіраваная супраць праваслаўных і пратэстантаў. Тыя ў сваю чаргу пры супраціве таксама адказвалі не заўсёды хрысціянскімі метадамі.

На пачатку XVIII ст. рыма-каталіцкая царква апынаецца глыбока ўцягнутай у барацьбу паміж рознымі магнацкімі групоўкамі. Назіраецца канфлікт паміж езуітамі і мясцовым духавенствам. Палітычная барацьба паміж некаторымі ордэнамі даходзіць да забароны духоўных дзяцей адно аднаго ў камуніі. Распрацоўваюцца планы паступовага вынішчэння грэка-каталіцкай царквы і перавод усіх каталікоў на лацінскі абрад.

### *Пытанне 4. Хто такія “паповічы”?*

Апошняя фаза контррэфармацыйнага праекту супала па часе з працэсам пераўтварэння сярэднявечных народнасцяў у сучасныя нацыі. Менавіта ў гэты час адбываецца фармаванне польскай нацыянальнай самасвядомасці і польскага нацыяналізму. Гэты нацыяналізм носіць “пашыральны” характар, прэтэндуючы на асіміляцыю беларусаў ды ўкраінцаў. Рыма-каталіцкая царква аказваецца ўцягнутай у працэс паланізацыі Беларусі. Уніяцкая царква, якая, нягледзячы на ўсё, заставалася аплотам усходняй традыцыі, была істотнай перашкодай на гэтым шляху. Тут захоўвалася багаслужба на царкоўнаславянскай мове, а казані прамаўляліся па-беларуску і па-ўкраінску. Такім чынам, інструмент, скіраваны на акаталічванне праваслаўных, аказаўся з цягам часу фарпостам усходняй духовасці і беларускай самасвядомасці ўнутры каталіцкага касцёла. Для вырашэння гэтай праблемы рабіліся шматлікія спробы (і праз унутранае ўздзеянне, і праз знешняе абмежаванне) лацінізацыі і паланізацыі уніяцтва. Асабліва моцная хваля лацінізацыі паднялася пасля роспуску ордэна езуітаў, які адбыўся ў 1773 г. Былыя сябры “таварыства Езуса” знайшлі прытулак у базіліянскіх манастырах. Тут яны стараліся заводзіць звыклыя лацінскія звычаі і польскую мову. Хутка, па словах Н. Гайдука, “базіліянскія манастыры сталі бастыёнамі каталіцтва ды ідэалогіі перавагі польскага народу над іншымі. Такога кшталту працэсы не абяцалі уніяцкай царкве доўгага жыцця. Разумеючы гэта, уніяцкая эліта спрабавала папярэдзіць катастрофу”. Прадстаўнікі адукаваных грэка-каталіцкіх колаў – маладыя святары, студэнты духовых школ, універсітэцкія і школьныя выкладчыкі – пачыналі асэнсоўваць сваю прыналежнасць да беларускага этнасу і, разам з тым, неабходнасць захавання веры продкаў. Асноўную масу

новага духоўнага руху складалі таленавітыя, але бедныя дзеці правінцыйных святароў. З гэтай нагоды новы рух атрымаў спярша пагардлівую, а пасля гістарычна замацаваную назву "паповічы". Сацыяльнае паходжанне набліжала іх да апошніх носьбітаў аўтэнтычнай беларускай культуры – сялянаў. Спрабуючы ачысціць грэцкі абрад ад навязаных яму лацінізмаў, яны адначасова прыходзілі да ўсведамлення самастойнай бытнасці і духоўнай культуры беларускага народу. Рух паповічаў спрыяў адраджэнню пропаведзі, зразумелай простаму народу, у тым ліку сялянам, якія былі часта пазбаўленыя рэальнага хрысціянскага навучання. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай многія прадстаўнікі руху паповічаў далучыліся са сваімі прыходамі да праваслаўнай царквы.

## *Пытанне 5. Што вырашалі на праваслаўнай кангрэгацыі?*

Пасля трынаццацігадовай вайны (1654 – 1667) становішча праваслаўнай царквы рэзка пагоршылася. Мала таго, што менавіта праваслаўныя вобласці Рэчы Паспалітай больш за ўсё пацярпелі падчас баявых дзеянняў, – на ўсходніх хрысціянаў быў яшчэ накладзены абавязак падвойнага ўнёску выплаты кантрыбуцыі краінам-пераможцам. Пагроза галоднай смерці вымушала многіх праваслаўных гараджанаў і нават цэлыя брацтвы пераходзіць у унію. Акрамя таго, ганенні на праваслаўнае насельніцтва набылі агульнадзяржаўны маштаб. З афіцыйных дакументаў пачалі знікаць паняткі "руськая вера", "кгрэцкая вера", якімі раней называлася праваслаўе. Замест іх усходняе хрысціянства атрымлівае абразлівыя мянушкі "схізма", "сабачая вера", "дызуніцтва" і ўспрымаецца як секта, небяспечная для дзяржавы. Сейм 1667 г. пастанавіў перавесці праваслаўнае святарства ў падатковы стан. Гэта, па сутнасці, азначала, што яно пераставала ўспрымацца як законнае святарства. Праз два гады сейм забараніў некаталікам займаць любыя дзяржаўныя пасады, а праваслаўнай царкве – валодаць маёмасцю, у тым ліку і храмавымі землямі. Людзі, якія вярталіся ў праваслаўе з уніяцтва, пазбаўляліся аховы закону.

Можна задацца пытаннем: чаму праваслаўныя хрысціяне не выкарыстоўвалі правы залатой вольнасці для абароны сваёй веры? Рэч у тым, што на працягу XVII ст. у каталіцтва перайшлі найбольш уплывовыя магнацкія роды. Большая частка простай шляхты таксама была каталіцкай альбо, радзей, уніяцкай. Такім чынам, у праваслаўнага шляхціца амаль не было магчымасці стаць дэпутатам на сейме. Ды, зрэшты, дэпутат не быў вольны ў рашэннях, а мусіў прытрымлівацца канстытуцыі, напісанай павятовым сеймікам. Гэта ўсё не пакідала магчымасці праваслаўным хрысціянам абараняцца прававым шляхам. Таму наступы каталіцкага ўраду на вольнасці праваслаўных вернікаў працягваліся.

Асабліва дыскрымінацыйнымі былі пастановы сейма 1676 г., які забараніў усходнім хрысціянам выязджаць пад страхам смерці і канфіскацыі маёмасці за межы Рэчы Паспалітай. Гэтае рашэнне выклікалася тым, што цэнтры праваслаўных патрыярхатаў знаходзіліся на тэрыторыі дзяржаў, што варагавалі з Рэччу Паспалітай. Канстанцінопаль, Антыяхія і Ерусалім былі занятыя Асманскай Імперыяй, а Масква была сталіцай Расеі. Праз гэта ўсе праваслаўныя ўспрымаліся як патэнцыйныя шпіёны. Гэты ж сейм прыпыніў дзейнасць грамат усіх стаўрапігіяльных брацтваў. Яны перадаваліся ў падпарадкаванне мясцовым епіскапам і падлягалі іх суду. Аднак і сам епіскапат быў амаль адсутны. Падпісваючы дамову з Расеяй у 1686 г., Рэч Паспалітая была вымушана перадаць праваслаўных вернікаў на сваёй тэрыторыі ў юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярхату. Канстанцінопальскі патрыярхат пярэчыць гэтаму не мог, бо фінансава залежаў ад Расеі. Паводле той дамовы вернікам на беларускіх і ўкраінскіх землях абяцалася пяць епархій. Аднак па факце была створана толькі адна – магілёўская, яна атрымала назву Беларускай. Пры гэтым пастаўленне на яе епіскапа кожны раз суправаджалася напружанай палітычнай барацьбой, якая часам доўжылася на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. Рэч у тым, што кароль Рэчы Паспалітай адмаўляўся зацвярджаць епіскапаў, выбраных праваслаўнымі вернікамі. Тыя ў сваю чаргу адмаўляліся прымаць прэтэндэнтаў, якім кароль выдаваў прывілеі. Гэта было звязана з тым, што прэтэндэнты часта мелі намер перавесці апошнюю праваслаўную епархію на унію. Супраціўляцца праваслаўным дазваляў той факт, што мітрапаліт кіеўскі, які мусіў рукапакласці епіскапа, знаходзіўся ў Левабярэжнай Украіне, занятай Расеяй. Гэтая барацьба прыводзіла да таго, што вялікія перыяды кіраванне епархіяй ажыццяўлялі намеснікі без епіскапскага высвячэння. Аднак беларуская кафедра адзначылася і шэрагам яркіх святцеляў. Найбольш вядомы з іх – Георгі Каніскі, яму ўдалося захоўваць царкву і жыццё праваслаўных вернікаў у самы неспакойны перыяд – перыяд падзелаў Рэчы Паспалітай, калі звычайнымі былі пагромы і забойствы з боку каталікоў.

Навязванне уніі выклікала пастаянныя бунты з боку правабярэжнага казацтва. Бунты часта пераццякалі ў маштабныя войны. Польская Карона праводзіла карныя экспедыцыі супраць казакаў. Тыя адказвалі падобным чынам, вынішчаючы без разбору асобаў каталіцкага веравызнання.

Для вырашэння праблемы чатырохгадовы сейм, нягледзячы на пратэсты лацінскага епіскапату, распарадзіўся наконт засцеражэння правоў праваслаўных. Пры гэтым праваслаўныя мусілі вярнуцца пад юрысдыкцыю канстанцінопальскага патрыярха. Гэтаму паспрыяў хаўрус, заключаны паміж асманамі і барскімі канфедэратамі Рэчы Паспалітай. Дзеля стварэння будучай сістэмы царкоўнага кіравання ў 1791 г. была сабрана

праваслаўная кангрэгацыя ў горадзе Пінску. Туды з'ехаліся па два прадстаўнікі ад кожнага манастыра і царкоўнага брацтва. Патрэбна было стварыць кансісторыю, што абавязвалася прысягнуць на вернасць каралю і Рэчы Паспалітай і толькі пасля гэтага ўступіць у кіраванне царквой. У працы кангрэгацыі ўдзельнічалі 103 дэлегаты, сярод якіх больш за палову складалі міране. Не было аніводнага праваслаўнага епіскапа і прадстаўніцтва іншых праваслаўных цэркваў. Затое па незразумелых прычынах на кангрэгацыю прыехала вялікая колькасць уніяцкай і каталіцкай шляхты, а дзяржаўны камісар безапеляцыйна распараджаўся на сходах. Для таго каб спакойна абмеркаваць усё, праваслаўныя папрасілі адтэрміноўкі на два тыдні. За гэты час няпрошаня госці збольшага раз'ехаліся. У выніку кангрэгацыя прыняла пастанову пра стварэнне беларускай царквы на чале з мітрапалітам і трыма епіскапамі. Аднак гэтым планам не выпала збыцца – праз чатыры гады Рэч Паспалітая спыніла існаванне.

# Тэма 8. Беларусь у часы старцаў і евангельскіх хрысціянаў (1793-1918)

## *Пытанне 1. Чаму Беларусь была самым неспакойным рэгіёнам Расейскай імперыі?*

Расейская імперыя была апошняй краінай, у якой у XIX ст. яшчэ заставалася прыгоннае права. Гэта не спрыяла эканамічнаму развіццю, стрымліваючы велізарныя масы рабочай сілы і вытворчасць. Аднак цар Аляксандр II быў схільны да рэформаў у гэтай галіне. У 1857 г. распачалася падрыхтоўка па адмене прыгоннай залежнасці. Аднак для супакаення памешчыкаў наданне асабістай свабоды сялянам не суправаджалася перадачай ім уласнасці. Уся зямля заставалася ў руках памешчыкаў, а сяляне былі вымушаныя яе выкупаць альбо браць у арэнду. Таму адмена ў 1861 г. прыгоннага права выклікала сацыяльныя праблемы на вёсцы, якія пагаршаліся рэзкім ростам насельніцтва. З'явілася вялікая колькасць беззямельных сялянаў.

Сялянскае пытанне адлюстравалася ў незалежніцкім руху колішняй Рэчы Паспалітай. Калі паўстанне 1830 г. было выключна шляхецкім і паводле ідэалогіі чыста польскім, то на пачатку 1860-х гг. назіраецца падзяленне рэвалюцыянераў на дзве партыі – "белых" і "чырвоных". Белыя былі прадстаўлены амаль выключна шляхтай каталіцкага веравызнання з польскай самасвядомасцю. Гэтая партыя мела на мэце адраджэнне Рэчы Паспалітай як польскай дзяржавы. Партыя чырвоных складалася пераважна з дробнай шляхты, разначыннай інтэлігенцыі і нават сялянаў. Мэтай яе былі ў першую чаргу сацыяльныя пераўтварэнні – скасаванне прывілеяваных саслоўяў, вырашэнне зямельнага пытання і іншых эканамічных праблем. Чырвоныя паставілі таксама пытанне наконт

правоў беларускай нацыі і неабходнасці стварэння беларускай аўтаноміі. Летам 1862 г. чырвоныя стварылі ў Вільні "Літоўскі правінцыйны камітэт", які заняўся падрыхтоўкай паўстання на Беларусі. Камітэт узначаліў К. В. Каліноўскі. Ён жа стаўся і выдаўцом першай беларускай газеты "Мужыцкая праўда", што выходзіла лацінкаю і кірыліцай, каб яе маглі чытаць як праваслаўныя, так і каталікі (бо сяляне калі і былі пісьменнымі, то валодалі толькі адной азбукай).

Паўстанне на Беларусі распачалося першага лютага 1863 г. Асноўную сілу чырвоных склалі дробная шляхта і сяляне. Удзельнічалі ў паўстанні таксама і студэнты. На Беларусі таксама дзейнічалі і атрады белых. Апошнія адрозніваліся агрэсіўным стаўленнем да праваслаўнага духавенства. Многія беларускія святары былі забітыя падчас паўстання. Аднак спрэчкі паміж паўстанцкімі партыямі і дрэнная падрыхтоўка паўстання прывялі да яго паразы ў 1864 г. Для навядзення імперскага парадку ў рэгіёне віленскі генерал-губернатар М. Мураўёў атрымаў надзвычайныя паўнамоцтвы, стаўшы фактычна дыктатарам краю. У яго задачу ўваходзіла канчатковае вырашэнне "польскага пытання" і інтэграцыя беларускай народнасці ў склад адзінай рускай нацыі. Для падрыву інтэлектуальнай моцы непакорнага краю М. Мураўёў зачыніў астатнюю на Беларусі вышэйшую навучальную ўстанову – Горацкі земляробчы інстытут. Адначасова з гэтым каталікі істотна абмяжоўваліся ў правах. Многія касцёлы, асабліва пабудаваныя для падрыхтоўкі паўстання, былі аднятыя і ператвораныя ў праваслаўныя цэрквы. Адбылася і спроба забароны друку на беларускай мове, выкладання на ёй. Аднак у гэтым сэнсе М. Мураўёў сустрэў супраціўленне патрыётаў краю, лаяльна настроеных да Расеі, – так званых заднарусістаў. На фоне таго, што генерал-губернатар актыўна спрыяў стварэнню сістэмы царкоўнапрыходскіх школ на вёсцы, пратэст быў цалкам лагічным – немагчыма было выкладаць сялянскім дзецям на незразумелай для іх расейскай мове. Аднак беларуская справа істотна абмежавалася. Каб супакоіць сялянства, М. Мураўёву давялося задаволіць шэраг патрабаванняў, якія раней выстаўлялі чырвоныя паўстанцы. Сяляне вызваляліся ад неабходнасці выкупаць свае надзелы і выводзіліся са стану часовазалежных. Было прынята колькі ліберальных рэформаў у галіне земскага кіравання і судовай справы. Аднак гэтыя рэформы доўгі час тармазіліся кансерватызмам на месцах.

У другой палове XIX ст. актыўна развіваліся палітычныя рэвалюцыйныя рухі. Стварылася беларуская народніцкая група "Гоман", якая выдавала нелегальны часопіс з такой самай назвай. Як усе народнікі, сябры "Гоману" далучыліся да тэрарыстычнай дзейнасці. Найбольш гучным іх тэрактам было забойства Аляксандра II, ажыццёўленае І. Грынявіцкім.

З 1896 г. на Беларусі пачынаецца дзейнасць марксістаў. У 1903 г. адбываецца стварэнне Беларускай сацыялістычнай грамады. Працэс стварэння палітычных партый значна паскорыўся падчас буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1905 – 1906 г.

### *Пытанне 2. Хто такі обер-пракурор і што такое “всеподаннейший отчёт”?*

Захоп беларускіх земляў Расейскай імперыяй многімі праваслаўнымі і нават часткай уніятаў успрымаўся як вызваленне. Гэта было цалкам зразумела пасля жорсткіх ганенняў з боку рыма-каталіцкай шляхты. Аднак жаданай свабоды Праваслаўная царква так і не атрымала. Расея была адной з тых краін, дзе свецкім уладам удалося дасягнуць надзвычайнага кантролю над царквой. Праваслаўнае духавенства было фактычна ўбудавана ў складаную сістэму імперскай бюракратыі. Патрыярх не выбіраўся з часоў Пятра І. Фармальна, праваслаўная эклесіялогія гэта дазваляе, бо патрыярх – гэта проста найбольш паважаны з епіскапаў, а не асобны чын святарства. Аднак па факце, пазбаўленае патрыярха як палітычнай фігуры, духавенства рабілася безгалосым перад свецкай уладай. Згодна з законамі Расейскай імперыі, “император, яко христианский государь, есть верховный защитник и хранитель догматов господствующей веры, блюститель правоверия и всякого в церкви святой благочиния”. На практыцы гэта азначала амаль неабмежаваную палітычную ўладу імператара над праваслаўным духавенствам.

Кіраванне справамі царквы ажыццяўляла калегія епіскапаў, што мела назву “сінод”. За працай сіноду сачыў спецыяльна прызначаны чыноўнік, які зваўся обер-пракурор святейшага сіноду. Ён меў паўнамоцтвы міністра і ўзначальваў “ведамства праваслаўнага веравызнання”. Гэты чыноўнік рэгулярна здаваў іператару справаздачу пад назвай “всеподданнейший отчёт”.

Такі спосаб кіравання прыводзіў да таго, што свецкая ўлада пастаянна выкарыстоўвала царкву ў сваіх мэтах. Здаралася, ганенням падвяргаліся праваслаўныя, якія спрабавалі прапаведаваць Евангелле і пры гэтым не ішлі за бюракратычным нормам. Прыкладам можа служыць місіянер мітрапаліт Макарый (Глухараў), старац Серафім Сароўскі і многія іншыя.

Такім чынам, праваслаўныя вернікі Беларусі з-пад гнёту польскага каталіцкага фанатызму патрапілі пад гнёт расейскай бюракратычнай машыны.

***Пытанне 3. Хто такія старцы і які духоўны рух склаўся вакол іх?***

Святы старац для хрысціянскага ўсходу заўсёды быў асобай надзвычайнай. У многім для ўсходніх хрысціянаў старцы былі больш значным арганізавальным пачаткам, чым нават епіскапы.

Аднак у гэтай тэме мы будзем гаварыць пра спецыфічную з’яву, якая разраслася ў рускай праваслаўнай царкве напрыканцы XVIII ст., захапіўшы і Беларусь. Гэта было своеасаблівае адраджэнне ісіхаскага руху, якое закранула міранаў і манахаў.

Гэтае адраджэнне выцякала з дзвюх крыніц.

Першая крыніца звязаная з этнічнымі землямі беларусаў. Пераследы манаства ў Расейскай імперыі (якія распачаў Пётр І) і незадаволенасць фармалізацыяй царквы прымушалі многіх хрысціянаў, якія жадалі радыкальнага жыцця па Евангеллі, сыходзіць у маланаселеныя раёны. Для гэтага добра падыходзілі ввелізарныя лясы на межах Смаленшчыны і Браншчыны. Менавіта там – на зусім дзікіх землях – вырастаюць невялічкія “пустэлькі” тых, што жадалі жыць у брацтве і еднасці з Госпадам, прымаючы звычаі даўніх ісіхастаў. Гэта не былі раскольнікі. Яны заставаліся ў еднасці з Праваслаўнай царквой, адначасова змагаючыся з яе недахопамі.

Другой крыніцай вялікага адраджэння быў рух, запачаткаваны ўкраінскім манахам Паісіем Велічкоўскім (1722 – 1794). Расчараваўшыся ў акадэмічнай схаластыцы, ён скіраваўся на пошукі сапраўднага духоўнага бацькі. Дзеля гэтага наведаў малдаўскія і румынскія манастыры, а таксама Афон. Аднак пошукі яго сталіся беспаспяховымі. Між тым на працягу жыцця яму адкрылася, што Гасподзь дае сябе спазнаць у агульным жыцці аднамысных хрысціянаў з узаемным паслушэнствам пад кіраўніцтвам Евангелля і духоўнай традыцыі, адлюстраванай у тэкстах святых айцоў. У гэтым сэнсе Паісі быў аднамысны з грэцкім духоўным рухам калівадаў, да якога належалі прападобны Нікадзім Святагорац і свяціцель Макары Карынфскі. Таму невыпадкова, што Паісі са сваімі вучнямі і паплечнікамі пераклаў на славянскую мову галоўны зборнік калівадаў – Φιλοκαλια, з назвай “Добротолюбіе”. Гэтая кніга ўяўляе з сябе досыць змястоўную падборку твораў айцоў-аскетаў самага рознага часу. Адкрываюць збор тэксты святога Антонія Вялікага – заснавальніка манаства.

Вучні прападобнага Паісія з’яўляюцца на тэрыторыі Расейскай імперыі за панаваннем Аляксандра І. У хуткім часе ісіхаскі досвед паісіянцаў і вопыт смаленскіх (дакладней сказаць, яраслаўскіх) пустынналюбцаў зліўся ў адну плынь.

На сутыкненні гэтых дзвюх блізкіх традыцый з’яўляецца цэлая плеяда манастырскіх старцаў, якія спалучаюць у сабе строгае падзвіжніцтва, перабыванне на вышэйшых

ступенях духоўнай лесвіцы з актыўным выхадам у свет. Гэты выхад выяўляўся ў адкрытых стасунках з простымі міранамі. Як і ў часы прападобнага Феадосія, старцы робяцца духоўнымі памочнікамі, дарадцамі і настаўнікамі. Часта гэта вырашалася і ў прароцкіх аб'яўленнях. Аднак больш важна: старцы бяруць на сябе нялёгкую працу сталай духоўнай асветы, навучання жыццю па Евангеллі. І Гасподзь дае ў іх рукі многіх вучняў са свецкага асяроддзя.

Старцам удалося распаўсюдзіць паісіеўскі ідэал супольнага, кінавійнага жыцця ў подзвігу на міранаў, што паслужыла пераадоленню раздваення хрысціянскага ідэалу на міранскі і манаскі. Пад прамым кіраўніцтвам ці апасродкаваным уплывам старцаў узнік цэлы спектр рознага роду манаскіх і міранскіх супольнасцяў, якія намагаліся жыць разам паводле Божага Дабравесця. Некаторыя супольнасці, брацтвы, заснаваныя старцамі XIX і пачатку XX стст. датрывалі да сёння. Праўда, амаль усе яны знаходзяцца за межамі Беларусі.

На пачатку XIX ст. праваслаўная царква мела патрэбу ў адраджэнні, падобным да таго, якое распачалі старцы. Няправільна зразуметыя ідэі эпохі Асветніцтва прывялі да нечуванага разбэшчання ў элітах. Просты народ таксама страчваў спрадвечныя арыентыры. Старцы сталі маякамі, якія далі магчымасць усім ахвотнікам знайсці правільны шлях, а супольнасці, заснаваныя старцамі, спрыялі рэалізацыі праўдзівай царкоўнасці.

У другой палове XIX ст. старцаўскі рух зрабіў новы крок. Духоўна-асветніцкае служэнне старцаў паспрыяла таму, што пераемнікі настаўніцтва з'явіліся не толькі сярод манастырскага духавенства і схімы. Ужо напрыканцы XIX – на пачатку XX ст. мы бачым цэлую плеяду выдатных старцаў з белага святарства. Тут варта адзначыць імя беларуса Яна Гашкевіча, святара з вёскі Карма. Усё яго жыццё было прысвечана клопату пра духоўнае з'яднанне прыходу і выхаванне прыхаджанаў у духу евангельскай традыцыі.

Белае старчацтва сустрэла насцярожаныя і нават варожыя адносіны з боку некаторых прыхільнікаў манаскага старчацтва. Аднак кананізацыя Іаана Кранштацкага і Аляксея Мячова ў Расеі, Іаана Кармянскага на Беларусі ды Іёны Атаманскага на Украіне засведчыла агульнацаркоўнае прыняцце служэння белых старцаў.

Старчацкае служэнне, як і жыццё створаных старцамі супольнасцяў, працягвалася ў самыя гарачыя часы наступнага перыяду – перыяду мучанікаў і вызнаўцаў. І многім старцам, і іх вучням давялося прыняць крыж сведчання сваёй веры перад ворагамі хрысціянства.

### *Пытанне 4. Што стала з уніяцкай царквой за расейскім панаваннем?*

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай Уніяцкая царква апынулася ў няпэўным становішчы. З аднаго боку, палітыка Кацярыны II была скіраваная на найхутчэйшы пераход уніятаў у Праваслаўе. З іншага боку, дзейнасць базыльянаў скіроўвалася на лацінізацыю уніятаў згодна са старым езуіцкім курсам “на скасаванне русчызны”. Пры гэтым уніяцтва страціла дзяржаўную падтрымку, на якую звыклася разлічваць, і колькасна істотна парадзела: адразу ж пасля далучэння да Расеі ў Праваслаўе перайшло больш за тры мільёны беларусаў і ўкраінцаў. У такой сітуацыі лёс уніі фактычна быў прадвызначаны. Даводзілася выбіраць. Альбо захаваць усходнюю духоўнасць і перайсці ў Праваслаўе (такой лініі прытрымлівалася пераважна белае духавенства, прадстаўнікі руху паповічаў, а таксама манахі-студыты), альбо паступова зліцца з Рыма-каталіцкай царквой (такую палітыку праводзілі базыльяне і езуіты, што прынялі ўсходні абрад). Улады імперыі не мелі паслядоўнай пазіцыі адносна уніяцтва. Яны то спрыялі пераходу уніятаў у Праваслаўе, то нечакана падтрымлівалі пракаталіцкую партыю. За цараваннем Паўла I, які падтрымліваў добрыя адносіны з Рыма-каталіцкай царквой, многія уніяты былі пераведзеныя ў лацінскі абрад. Гэта выклікала незадаволенасць шэрагу уніяцкіх іерархаў, што даражылі ўсходняй духоўнасцю. Аднак пераход у Праваслаўе тармазіўся перспектывай сінадальнага кіравання. Пасля паўстання 1830 г., калі ўлады ўзялі курс на ўзмацненне рускага ўплыву на былых польскіх тэрыторыях, склаліся больш спрыяльныя ўмовы для дзейнасці праправаслаўнай партыі, якую ўзначальваў мітрапаліт Юзаф Сямашка. У 1839 г. у Полацку адбыўся сабор уніяцкага духавенства, унію скасавалі, а рэшта уніятаў далучылася да Праваслаўнай царквы.

### *Пытанне 5. Хто такія кнiганошы і якое служэнне яны неслі?*

У другой палове XIX ст. пасля доўгіх спрэчак выйшла афіцыйна прызнанае Праваслаўнай царквой выданне Біблii на расейскай мове. Гэты пераклад быў не першым, але дагэтуль застаецца самым распаўсюджаным як у Расеі, так і ў Беларусі. Як толькі быў выдадзены першы наклад Новага Запавету, Гасподзь абраў сабе натхнёных служыцеляў, гатовых распаўсюджваць збавіцельную кнігу ў народзе. Гэтыя добраахвотнікі атрымалі досыць банальную назву – кніганошы. Так зваліся вандроўныя гандляры кнігамі. Адным з першых евангельскіх кніганошаў стаў О. Б. Форхгамер. Ён ужо меў досвед распаўсюду лонданскага і лейбцыгскага выдання Новага Запавету на нямецкай і расейскай мове сярод лютаранаў і малаканаў украінскіх і волжскіх стэпаў. О. Б. Форхгамер пачаў разносіць Новы Запавет у Пецярбургу і ваколіцах. Хутка, натхнёныя яго прыкладам, да справы

далучыліся гісторык Н. А. Астаф'еў і музыка Н. І. Земба. Яны адразу ж зарганізавалі збор сродкаў. 8 красавіка 1863 г. было ўтворана нефармальнае таварыства.

Брацтва кнiганошаў нiколi не было шматлiкiм, але ў яго прымалiся толькi людзi, гатовыя служыць з поўнай самааддачай. І гэтыя нешматлiкiя людзi за трыццаць гадоў iснавання таварыства распаўсюдзiлi па вёсках Расеi, Беларусi i Украiны больш за паўтара мiльёна асобнiкаў Святога Пiсьма – поўных Бiблiй, Псалтыроў, Новых Запаветаў i асобных Евангелляў. Прычым распаўсюд часам адбываўся ў самых нечаканых месцах – корчмах, шынках, на святочных кiрмашах. Служэнне кнiганошаў падрыхтавала глебу i пасеяла першыя зкрнi будучага рэлiгiйнага абуджэння.

## *Пытанне 6. Што такое штунда і як на Беларусі з'явіліся баптысты?*

З'яўленне так званых вызваленых евангельскiх цэркваў на Беларусi адбылося на дваццаць гадоў пазней, чым на Украiне i ў паўднёвай Расеi. Там першыя супольнасцi евангельскiх хрысцiянаў пачалi ўзнiкаць пад уплывам нямецкiх каланiстаў, запрошаных царскай уладай для цывiлiзаванага абжывання стэпаў. Большая частка гэтых каланiстаў належала да радыкальнай рэфармацыйнай плынi менанiтаў, якая перасьледавалася нават у пратэстанцкай Галандыi. Прычынай гэтых перасьледаў было разыходжанне менанiтаў з рэфарматамi ў поглядах на дзяржаўную ўладу. Для менанiтаў было прынцыповым аддзяленне царквы ад дзяржавы i адмова хрысцiянаў ад удзелу ў вайне. Недахоп увагi да царкоўнай асветы з боку праваслаўных пастыраў вымушаў найбольш актыўных вясковых хрысцiянаў шукаць самастойнага навучання веры. З выхадам сiнадальнага перакладу i дзякуючы служэнню таварыства кнiганошаў Евангелле на расейскай мове стала даступным для пiсьменных сялянаў. Некаторыя актыўныя хрысцiяне на вёсцы, заклапочаныя бяздзейнасцю духавенства, пачалi арганiзоўваць для землякоў бiблiйныя гадзiны – супольнае чытанне i разбор Святога Пiсьма. Гэтая форма багаслужбы была запазычана ў нямецкiх менанiтаў, i таму за ёй засталася германскамоўная назва – штунда (па-нямецку – гадзiна). На першых часах удзел у штундах не азначаў разрыву з Праваслаўем. Тым больш што некаторыя вучнi старцаў уладкоўвалi сходы падобнага кшталту – так званыя бяседы. Аднак моцны ўплыў менанiцтва прывёў некаторыя штундыскiя супольнасцi да прыняцця "дарослага" хрышчэння па веры ад нямецкiх братоў. Такiм чынам, прынятае ў дзяцiнстве праваслаўнае хрышчэнне адмаўлялася. Гэта быў вiдавочны сакраментальны разрыў з Праваслаўнай царквой. Паглыбленню расколу спрыялi непаразуменнi з землякамi, не прыналежнымi да евангелiчнага руху.

На Беларусь евангелiчнае абуджэнне прыйшло разам з сялянамi, якiя ездзiлi на заработкi ў паўднёвую Украiну, пераважна ў Адэсу i навакольную губерню. На гэтых

землях адбылося спецыфічнае развіццё евангелічнага руху, заснаванага лордам Рэздакам і палкоўнікам В. А. Пашковым. У афіцыйных дакументах гэты рух насіў назву адпаведна – “рэздакісты” альбо “пашкоўцы”. Першыя пашкоўскія супольнасці ўзніклі на Гомельшчыне ў 1879 г. Гісторыя захавала нам імя ініцыятара – прапаведніка з сяла Усохі Гомельскага павету. Гэта быў Д. П. Семянцоў – просты селянін, што навярнуўся пад уплывам адэскіх хрысціянаў у евангелізм. Вярнуўшыся на Бацькаўшчыну, ён адважыўся напісаць ліст В. А. Пашкову з просьбай даслаць яму Біблії і Евангеллі для арганізацыі навучання веры. Адказ быў станоўчым. Аднак нечаканая пасылка са сталіцы зацікавіла вясковага старасту. Пытанні, зададзеныя старастам, вымусілі Семянцова скінуць рэшткі нерашучасці і распачаць пропаведзь. Першымі, хто далучыўся да евангелічнага руху, быў той самы староста Аўсей Ляшкоў і яго брат Яўхім. Аднак новыя прапаведнікі не сустрэлі асаблівага разумення з боку землякоў і мясцовых уладаў. За адступленне ад Праваслаўя іх заключылі ў турму на 7 месяцаў. Тым не менш гэта не спыніла распаўсюду новага вучэння. Ужо к 1882 г. у вёсцы Мікалаеўцы сфармавалася супольнасць, якая налічвала 29, а яшчэ праз тры гады – 95 братоў і сёстраў. Сход евангельскіх хрысціянаў Гомельшчыны грунтаваўся на баптысцкіх прынцыпах з шэрагам мясцовых асаблівасцяў, характэрных для пашкоўцаў і менанітаў. Брацтва баптыстаў, якое ў гэты час пачало ўплываць на ўкраінскіх і беларускіх евангелістаў, сфармавалася ў ангельскай дыяспары ў Галандыі яшчэ ў 1609 г. Тэалогія баптызму палягала на стыку кальвінскіх і арменіянскіх ідэй. Традыцыйна для ўсіх пратэстантаў баптысты вызнаюць Біблію адзіным беззаганным аўтарытэтам у пытаннях веры. Асаблівасцю брацтва з’яўляецца прызнанне неабходнасці хрышчэння толькі дарослых людзей і толькі па іх асабістай веры, а таксама адасабленне царквы ад дзяржавы. Мясцовай асаблівасцю беларускіх баптыстаў была поўная адмова ад ужывання алкаголю (ідэя В. А. Пашкова) і шэраг праваслаўных уплываў, датычных правілаў паводзінаў у зборы, эстэтыцы ў адзенні і гэтак далей. Цікава, што супольнасці, заснаваныя “паўднёвай” “гомельскай” місіяй евангельскіх хрысціянаў доўгі час не далучаліся да брацтва баптыстаў, захоўваючы назву “евангелісты”. Некаторыя асобныя цэрквы (у прыватнасці, у Асіповічах) захоўваюць гэтую назву і да гэтага часу. На працягу 1880-х гг. евангелісцкая місія распаўсюджвалася па Гомельскім павеце і ў 1888 г. перайшла межы Мінскай губерні. Найбольш вядомымі прапаведнікамі таго часу былі Л. Д. Прыймачэнка, А. Л. Еўсцяненка (дарэчы, на першых парах – жорсткі праціўнік новага руху), Е. І. Чарткова, якая, будучы ў Пецярбургу, увайшла ў супольнасць В. А. Пашкова.

Вядома, у евангелісцкага руху таго часу былі і адмоўныя бакі. Самае праблематычнае тое, што новы рух насіў празелітычны характар, які суправаджаўся перахрышчваннем ужо хрышчаных братоў і сёстраў. Такім чынам ён супрацьпастаўляўся

традыцыйнай царкве. Аднак на фоне адсутнасці належнага навучання веры і пасіўнасці вясковага духавенства пратэстанцкая пропаведзь сапраўды прыносіла рэальнае святло Евангелля душам, цалкам гэтага пазбаўленым. Пры гэтым пераадольваліся застарэлыя заганы беларусаў – п’янства, забабоннасць, схільнасць да праклёнаў. Місія евангельскіх хрысціянаў сталася сапраўдным духоўным абуджэннем для гомельскага Палесся. Цікава, што гэтае абуджэнне зрэзаніравала таксама і ў Праваслаўнай царкве. Занепакоеныя распаўсюдам “сектанцтва”, царкоўныя ўлады былі вымушаныя больш пільна клапаціцца пра ўладкаванне пачатковай адукацыі і рэлігійнай асветы. Былі створаны нават спецыяльныя місіянерскія брацтвы, якія арганізоўвалі публічныя багаслоўскія чытанні для міранаў.

Акрамя гомельскай евангелісцкай місіі, у 1883 г. распачынаецца баптысцкая місія ў раёне Полацку. Ініцыятарамі яе сталі Фядот Сімчанка і Сцяпан Сямёнаў.

Вялікія праблемы для распаўсюду духоўных рухаў у цэлым стварала палітыка обер-пракурора свяцейшага сіноду К. П. Пабеданосцава, які арганізаваў сапраўдныя ганенні на ўсіх удзельнікаў евангельскага абуджэння. Прычым гэтыя ганенні былі аднолькава скіраваныя як супраць баптыстаў і штундыстаў, так і супраць чыста праваслаўных бяседнікаў, якіх улады падазравалі ў “хлыстоўстве”. Пабеданосцаўскія ганенні закранулі таксама пэўную колькасць прадстаўнікоў старчацкага руху.

На пачатку XX ст. у раёне Берасця распачалася місія, якая зыходзіла ад польскага баптызму. Найбольш яркім прадстаўніком яе быў бадай што самы вядомы беларускі пастар Лука Дзекуць-Малей. Яму было таксама дадзена стаць першым перакладчыкам Новага Запавету на сучасную беларускую мову (кніга выйшла ў 1931 г.). Дагэтуль місіянерскі пераклад брата Лукі застаецца адным з найлепшых – дакладных і лёгкачытэльных – беларускіх перакладаў Святога Пісьма.

### *Пытанне 7. Што такое перадсаборны рух?*

Сведчанні, яўленыя філасофскай думкай рускіх рэлігійных філосафаў і практыкай старчацтва, не маглі не кантраставаць з вартым жалю станам Праваслаўнай царквы як структуры. “Царква ў паралічы”, – пісаў вядомы расейскі літаратар беларускага паходжання Ф. М. Дастаеўскі. Гэта сапраўды адпавядала рэчаіснасці і не магло не турбаваць найбольш здаровыя сілы ў царкве. На пачатку XX ст. сярод вышэйшага епіскапату і акадэмічнай прафесуры распачынаецца рух, які пазней атрымае назву “перадсаборны”. Асноўнай ідэяй было адраджэнне царквы на падставе кананічнасці і саборнасці. Перш за ўсё гэта датычыла паўстання кананічнага царкоўнага кіраўніцтва, якое магло быць адноўлена толькі на памесным саборы. На гэтым саборы прапаноўвалася абмеркаваць шэраг мераў па адраджэнні іншых бакоў жыцця царквы. Ядром

перадсаборнага руху сталі прадстаўнікі акадэмічных колаў, асабліва з вучоных манахаў. Пасля рэвалюцыі 1905 г. кансерватыўны обер-пракурор К. Пабеданосцаў быў вымушаны пад ціскам ураду і грамадскасці правесці апытанне сярод мясцовых епіскапаў па пытанні рэформаў. Архіерэі з задавальненнем удзельнічалі ў апытанні, бо амаль кожны з іх ужо меў разуменне неабходнасці рэфармавання царквы. У выніку апытання асобныя прапановы склаліся ў план царкоўных пераўтварэнняў. К. Пабеданосцаў, не жадаючы ўдзельнічаць у рэформах і расчараваўшыся ў сваёй працы, падаў у адстаўку. Фактычны лідар перадсаборнага руху мітрапаліт Антоні (Уладкоўскі) змог пачаць працу над зместам саборнага абмеркавання. Дзеля гэтага быў створаны орган, названы спачатку “перадсаборная прысутнасць” (1906), а пазней – “перадсаборная нарада” (1912). Аднак ва ўмовах знешняй стабілізацыі грамадства пасля рэвалюцыі 1905 г. імператар не даў згоды на правядзенне сабору і паўнавартаснай царкоўнай рэформы. З гэтай прычыны сабор здолеў сабрацца толькі пасля падзення расейскай манархіі. Ён праходзіў у 1917 – 1918 гг. і атрымаў у гісторыі назву Вялікі маскоўскі сабор. Пастановы яго датычылі рэформы багаслужбы, кіравання царквой. Павышалася ступень удзелу простых міранаў у жыцці царквы. Падчас сабору быў абраны патрыярх. Ім стаў свяціцель Ціхан (Белавін). Абранне патрыярха азначыла сабою сканчэнне тэрміну “прыгоннай” залежнасці царквы ад дзяржавы. Цікава, што ў адказ на запыт ураду Беларускай Народнай Рэспублікі беларускім святарам было дазволена служыць і прапаведаваць на роднай мове. Сабор і патрыярх таксама далі блаславенне на пераклад Святога Пісьма на беларускую мову.

Па аб’ёме царкоўных рэформаў Вялікі маскоўскі сабор нагадваў другі ватыканскі сабор Рыма-каталіцкай царквы. Аднак, на жаль, большасці рэформаў так і не было наканавана збыцца. Іх выкананню перашкодзілі савецкія ганенні і шматлікія расколы ў самой Рускай праваслаўнай царкве.

# Тэма 9. Беларусь у часы вялікай мартэрыі (1918-1991)

## *Пытанне 1. Як адбыліся першыя крокі беларускай незалежнасці?*

У 1914 г. Расейская імперыя ўступіла ў кровапралітную Першую сусветную вайну. Прычынай яе стала жаданне Нямеччыны, Аўстравенгрыі і Італіі пашырыць свае ўладанні. Дзеля гэтага яны заключылі Троесны саюз, да якога потым далучылася яшчэ Асманская імперыя. Старыя імперыі, якія валодалі большай часткай свету, – Ангельшчына, Францыя і Расея – абаранялі свае заваяванні. У вайне была зацікаўлена багатая шляхта і буйная буржуазія, дробныя ж прадпрымальнікі і просты народ атрымаў ад вайны толькі пакуты. Баявыя дзеянні вяліся ў тым ліку і на тэрыторыі Беларусі. У краі было аб’яўлена ваенна-

паліцэйскае становішча, забаронена дзейнасць палітычных партый і ўведзена цэнзура друку. Першая сусветная вайна адрознівалася нечуванай жорсткасцю. Выкарыстоўваліся новыя віды зброі, у тым ліку хімічная. Разбурэнне эканомікі прывяло да актывізацыі рэвалюцыйнага руху. Ён аказаўся фатальным для царскай улады.

Падзенне расейскай манархіі адбылося ў лютым 1917 г. у выніку Лютаўскай рэвалюцыі. На тэрыторыі Беларусі ў ліпені – жніўні адбыліся першыя ўсеагульныя і свабодныя выбары ў гарадскія і земскія думы, куды патрапілі прадстаўнікі як агульнарасейскіх партый (бальшавікі, эсэры, кадэты), так і ўласне беларускіх аб’яднанняў (БСГ, Беларускі нацыянальны камітэт і інш.). Праўда, беларускія партыі набралі вельмі нізкі працэнт галасоў.

Новым выбарным органам улады давялося вырашаць свае задачы ў надзвычай неспрыяльных умовах: на тэрыторыі Беларусі вогненнай віхурай віравала сусветная вайна.

Скарыстаўшы складанае палітычнае і эканамічнае становішча, партыя бальшавікоў, што часткова фінансавалася з нямецкіх крыніц, ажыццявіла захоп улады ў Расейскай рэспубліцы ў кастрычніку 1917 г. Адначасова бальшавісцкі пераварот адбыўся і ў Менску, дзе бальшавікі мелі ў распараджэнні рабочую міліцыю. Новыя гаспадары пачалі скасоўваць законна абраныя органы мясцовага кіравання.

У адказ на незаконныя дзеянні бальшавікоў беларускія партыі і арганізацыі сумесна з прадстаўнікамі салдатаў-беларусаў сабраліся на Усебеларускім з’ездзе ў Менску. Гэта адбылося ў снежні 1917 г. На з’ездзе ўпершыню было прынята рашэнне пра курс на незалежнасць. Як пісаў ва ўспамінах М. Гарэцкі, гэта нагадвала Пасху. Усе абдымаліся і віталі адно аднога словамі “Хрыстос Васкрос!”. Аднак сілы бальшавікоў на той час былі большымі і Ўсебеларускі з’езд праз пэўны час разагналі. Праўда, гэта толькі ўзмацніла незалежніцкія тэндэнцыі ў беларускім грамадстве. Яшчэ большае абурэнне выклікала заключэнне Берасцейскага міру паміж савецкай Расеяй і кайзераўскай Германіяй, згодна з якім Беларусь падзялялася паміж гэтымі дзвюма дзяржавамі. Пасля таго як Л. Д. Троцкі сарваў мірныя перамовы ў Брэсце ў лютым 1918 г., Германія распачала наступ на ўсход.

Кіроўчыя органы бальшавікоў мусілі эвакуявацца з Менску. Палітычныя вязні, у тым ліку ўдзельнікі Цэнтральнай Беларускай вайсковай рады, змаглі выйсці на волю. Былі хутка сфармаваныя нешматлікія беларускія ўзброеныя сілы, што навялі парадак у Менску. Аднавіў дзейнасць выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з’езду, 25 сакавіка 1918 г. (на свята Дабравесця па заходнім календары) ён прыняў грамату пра незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Сёння многія гісторыкі і прапагандысты спрабуюць паказаць гэты факт фармальным і малаважным. Але гэта было зусім не так. Маладая дзяржава адразу ж пачала актыўна дзейнічаць. Адкрываліся беларускія школы і гімназіі,

стварылася навуковае таварыства. Што не малаважна, была праведзена велізарная дыпламатычная праца ў розных краінах Еўропы з мэтай дасягнуць прызнання права беларускага народу на самастойнае вызначэнне свайго лёсу.

БНР была знішчана наступальнымі нямецкімі войскамі. Частка рэспубліканскай рады прапанавала кайзеру праект аўтаноміі ў складзе нямецкай імперыі. Але гэтыя планы не рэалізаваліся. Актыўная дыпламатычная дзейнасць прадстаўнікоў БНР вымусіла бальшавікоў пайсці на стварэнне альтэрнатыўнай фармальна-незалежнай беларускай рэспублікі – ССРБ. Яна была абвешчана 1 студзеня 1919 г. Многія дзеячы БНР прынялі гэта як свой поспех. Аднак шэраг узброеных фармаванняў БНР працягваў супраціў панаванню бальшавікоў. У 1922 г. урад ССРБ вымушана падпісаў пагадненне пра ўступленні ў СССР, а Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Беларусь была пераўтворана ў Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку (БССР).

У выніку савецка-польскай вайны заходнія землі былі далучаныя да Польшчы. Для прыцягнення да супрацоўніцтва нацыянальных сілаў на польскіх землях бальшавікамі была дазволена палітыка беларусізацыі. Была створана сістэма адукацыі на беларускай мове. Адкрыты Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт і іншыя ВНУ. Створана Акадэмія Навук БССР.

Пасля крамлёўскага перавароту 1929 г. у Беларусі была распачатая прымусовая калектывізацыя, якая прывяла да масавых рэпрэсій сярод сялянства. 1930-я гг. адзначыліся таксама знішчэннем вялікай колькасці рэальных і ўяўных ворагаў кіроўчай алігархіі. Савецкая прапаганда займалася фармаваннем культу асобы І. Сталіна. Пры гэтым была пабудавана велізарная знішчальная машына, што забівала ўсялякую свабодную думку. У выніку працы сталінскіх катаў было рэпрэсавана больш за паўтара мільёна жыхароў Беларусі. Паводле няўмольных законаў тэрору сярод рэпрэсаваных былі не толькі ворагі ўлады, але і яе прыхільнікі, і нават самі каты. Знішчэнню падлягалі ў гэты перыяд і хрысціянскія цэрквы.

Гэтая нябачная братазабойчая вайна немінуча атрымала пакаранне вайной знешняй. Карыстаючыся дзеяннямі нацысцкай Нямеччыны, Савецкі Саюз далучыў да сябе заходнія землі Беларусі і зрабіў спробу вярнуць у склад Расеі Фінляндыю. Аднак нечакана для савецкага ўраду былы саюзнік – Нямеччына – 22 чэрвеня 1941 г. напаў на заходнюю мяжу Савецкага Саюзу. Другая сусветная вайна ахапіла ўсю тэрыторыю Беларусі. Акрамя баявых дзеянняў паміж вермахтам і Чырвонай арміяй, на нашай Бацькаўшчыне адбывалася барацьба паміж уласне беларускімі групоўкамі. У выніку трагічных падзей Другой сусветнай вайны насельніцтва Беларусі зменшылася на трэць.

Для падняцця эканомікі пасля вайны у Беларусь была даслана вялікая колькасць спецыялістаў і рабочых з іншых рэспублік Саюза. Гэта паспрыяла хуткаму падняццю прамысловасці і адраджэнню сельскай гаспадаркі. Аднак прыток рускамоўнага насельніцтва паскорыў працэс моўнай асіміляцыі беларусаў.

### *Пытанне 2. Што такое беларускае каталіцкае адраджэнне?*

Як ужо было сказана вышэй, на пачатку XX ст. актыўна развіваецца беларускі нацыянальны рух. Пасля доўгага перапынку ў беларусаў з'яўляюцца свае выдавецтвы, выходзяць на беларускай мове газеты.

Безумоўна, гэты нацыянальны рух быў яшчэ вельмі кволы, але з кожным годам ён набіраў сілу. Не заставалася ўбаку ад станаўлення нацыянальнай свядомасці і Каталіцкая царква. Праўда ў касцельным асяроддзі каліўцам Беларушчыны даводзілася прабівацца скрозь цвёрдую корку польскага нацыяналізму. З пункту гледжання многіх каталіцкіх клірыкаў тэрыторыя Польшчы палягала ў межах усёй Рэчы Паспалітай абодвух народаў. Беларусь часта не ўспрымалася як гістарычная і геаграфічная рэальнасць. Між тым многім актыўным служыцелям касцёлу, якія ажыццяўлялі штодзённую місію і навуку веры, было цалкам зразумела, што для простых беларусаў польская мова такая самая чужая ды незразумелая, як і расейская. Для эфектыўнай пропаведзі і навучання сярод беларускага сялянства – для распаўсюду асветы ўвогуле – неабходна было карыстацца беларускай мовай. З гэтай практычнай місіянерскай патрэбы расло і шырылася разуменне самабытнасці беларускага народу, яго этнічнай самастойнасці адносна палякаў і расейцаў. Гэтае сутнаснае духоўнае адкрыццё сталася блізкім сэрцу многіх служыцеляў і міранаў (пераважна з "разначыннай" інтэлігенцыі) Каталіцкай царквы на Беларусі. І з гэтых верных хрысціянаў нарадзіўся моцны духоўны рух, які мы будзем тут называць беларускім каталіцкім адраджэннем.

Яму было наканавана адыграць надзвычайную ролю ў станаўленні беларускай культуры ў цэлым.

Першыя крокі новы рух зрабіў у Віленскай духоўнай семінарыі і Каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбургу. У гэтых навучальных установах былі ўтвораныя беларускія гурткі. Менавіта з гэтых беларускіх гурткоў выйшлі такія вядомыя дзеячы нацыянальнага адраджэння, як Адам Станкевіч, Станіслаў Галякоўскі, Язэп Германовіч (літаратурны псеўданім Вінцук Адважны).

Беларускай справе ў касцёле спрыялі віленскія арцыбіскупы Эдвард Роп і яго пераемнік Юры Матулевіч. Ужо ў першае дзесяцігоддзе XX ст. у многіх касцёлах Віленскага і Менскага дыяцэзу было прынята спяваць рэлігійныя спевы па-беларуску. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі, калі Каталіцкай царкве былі вернутыя раней адабраныя

правы, быў скліканы з'езд беларускага каталіцкага духавенства, ён адбыўся ў Менску 24 – 25 траўня 1917 г. Пасля прамовы ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага была прынятая рэзалюцыя пра неабходнасць абвяшчэння аўтаноміі Беларусі ў складзе Расейскай дэмакратычнай рэспублікі. На той час гэта была вельмі смелая і прагрэсіўная заява. Нягледзячы на тое, што да абвяшчэння БНР заставалася менш за год, ніхто тады не адважваўся думаць пра поўную незалежнасць. Нават права беларускага народу на аўтаномію яшчэ трэба было давесці.

Калі ж склаліся ўмовы для стварэння незалежнай рэспублікі, прадстаўнікі беларускага каталіцкага руху прынялі ў гэтай справе чынны ўдзел.

Дзейнасць руху не спынялася і пасля заняцця Заходняй Беларусі Польшчай. У новых умовах Каталіцкі касцёл атрымаў вялікія прывілеі на ўсіх польскіх тэрыторыях. Аднак у гэтых прывілеяў была свая цана – апалячванне мясцовага насельніцтва. Між тым далёка не ўсё каталіцкае духавенства згаджалася ўдзельнічаць у мэтанакіраванай асіміляцыі беларусаў. У 1923 г. нізіраецца новы выбух актыўнасці беларускага каталіцкага руху.

Сэрцам і стрыжнем новай магутнай асветніцкай плыні зрабіўся ордэн мар'янаў. Менавіта гэтая рэгула адыграла важную ролю ў развіцці беларускага руху на Бацькаўшчыне і захаванні беларускіх дыяспараў у розных краінах свету. Поплеч з айцамі-мар'янамі заўсёды працавалі сёстры-эўхарысткі, дапамагаючы ім ва ўсіх справах. Своеасаблівым цэнтрам беларускага каталіцкага руху з гэтага часу стала мястэчка Друя, якое знаходзілася каля самай савецка-польскай мяжы, на левым беразе Дзвіны. Менавіта тут у 1923 г. у старых бернардынскіх мурах размясціўся касцёл-кляштар мар'янаў. Атрымаўшы базу ў паўночнай Беларусі, айцы-мар'яне прыняліся за справу. Была распачатая місія ў навакольныя вёскі. Для вернікаў ладзіліся курсы катэхезы, для дзяцей – нядзельныя школкі. Народ меў патрэбу ў пропаведзі Евангелля, і айцы-мар'яне пры падтрымцы сясцёр-еўхарыстак давалі магчымасць пачуць гэтую пропаведзь, прычым на роднай мове. Выдатна адукаваныя насельнікі кляштара разумелі значнасць адукацыі і школьніцтва для развіцця хрысцянскай духоўнасці і станаўлення нацыі. Таму пры касцёле была адкрытая друйская гімназія, навучанне ў якой вялося на беларускай мове. Новую навучальную ўстанову ўзначаліў былы прафесар Мінскай духоўнай семінарыі Андрэй Цікота. Сярод выкладчыкаў і місіянераў друйскага кляштара можна было пабачыць былога рэктара Мінскай духоўнай семінарыі Фабіяна Абрантовіча, вядомага пісьменніка і паэта Язэпа Германовіча, айцоў Віталіса Хамёнка, Язэпа Дашуту, Казіміра Смульку і многіх іншых. Не ўзгадвачы гэтых імёнаў, амаль немагчыма весці гаворку пра беларускую культуру першай паловы XX ст. Аднак беларускі характар пропаведзі друйскіх мар'янаў не адпавядаў палітыцы польскага ўраду. Прыхільнікі беларускай незалежнасці

падвяргаліся пераследам і турэмным зняволенням. І ў 1938 г. на загад віленскага ваяводы беларускія мар’яне былі высланыя з Друі і замененыя на мар’янаў польскіх. Дзівосным чынам гэтая палітычная акцыя адтэрмінавала пакутніцкую гібель многіх удзельнікаў беларускага каталіцкага руху, якая магла адбыцца пры наступе савецкіх войскаў. Дый беларуская справа ў Друі, нягледзячы на ўсе намаганні палякаў, не загінула. Ужо напрыканцы 1939 г. у Друю прыбыў шчыры беларус місіянер і пакутнік кс. Антоні Ляшчэвіч.

Калі з наступам нямецкіх войскаў стала магчымай місія на Ўсходняй Беларусі, друйскія мар’яне і эўхарысткі распачынаюць на былым “савецкім” беразе Дзвіны актыўную асветніцкую і богаслужбовую працу. У прыватнасці адчыняецца касцёл у Росіцы, якому было наканавана стаць месцам слаўнай мартэрыі. За недахопам праваслаўнага духавенства катэхізацыю ў Росіцы праходзілі не толькі каталікі, але і праваслаўныя. Друйскімі мар’янамі прадпрымаліся таксама спробы служэння ва ўсходнім абрадзе.

Беларускі каталіцкі рух нарадзіў у сваіх нетрах вялікую колькасць мучанікаў і вызнаўцаў веры. Антоні Ляшчэвіч і Вінцэнт Гадлеўскі былі забітыя нацыстамі. Адам Станкевіч – расстраляны савецкімі катамі адразу пасля Другой сусветнай вайны. Андрэй Цікота і Язэп Германовіч былі выдадзеныя Савецкаму Саюзу кітайскімі ўладамі (айцы-мар’яне прапаведавалі ў Харбіне) і асуджаныя на 25 гадоў зняволення. Састарэлы Андрэй Цікота загінуў у савецкіх лагерах. Язэп Германовіч здолеў дажыць да амністыі ды пакінуць успаміны пра сваіх паплечнікаў.

## *Пытанне 3. Чаму беларускую інтэлігенцыю зацікавіў метадызм?*

Беларускі нацыянальны рух быў моцна скаваны тым, што знаходзіўся ў своеасаблівых абцугах паміж агрэсіўным польскім і расейскім нацыяналізмам. Пры гэтым Рыма-каталіцкі касцёл у многіх прадстаўнікоў руху асацыяваўся з Польшчай, а Праваслаўная царква – з Расеяй. У гэтых асацыяцый былі свае падставы, звязаныя з паводзінамі вялікай колькасці духавенства традыцыйных хрысціянскіх цэркваў. Таму для многіх беларускіх адраджэнцаў характэрная ідэю пошуку “трэцяга шляху”. Гэтая ідэя рэалізоўвалася ў тым ліку і ў духоўным жыцці. Першапачаткова папулярнасць у варунках беларускай інтэлігенцыі набыла ідэя адраджэння уніі. Аднак яна ў той час аказалася непрыдатнай для практычнага выканання. З гэтай прычыны погляды пэўнай часткі адраджэнскай інтэлігенцыі скіраваліся ў бок пратэстантызму. Як было паказана ў папярэдніх тэмах, пратэстанцкае хрысціянства мае ў Беларусі глыбокія карані. Пры гэтым

на пачатку XX ст. на нашай зямлі актыўна распаўсюджваўся евангелізм і баптызм, што выглядала істотным пратэстанцкім адраджэннем.

Першыя ідэі пра спалучэнне пратэстанцтва і беларускага нацыянальнага руху пачаў выказваць супрацоўнік “Нашай Нівы” Гальяш Леўчык. Згодна з ягонай думкай, менавіта пратэстанцтва можа стаць беларускай нацыянальнай царквой, якая не будзе падпадаць пад уплывы ані Расеі, ані Польшчы. Г. Ляўковіч прыняў метадызм і да канца жыцця працаваў над стварэннем метадысцкай царквы на нашых землях.

Такім чынам, цікавасць адраджэнцаў да метадызму ўзнікла ў самым пачатку мінулага стагоддзя. Аднак, па словах А. Латышонка, “прынцыповы паварот у дачыненнях беларускага й пратэстанцкага рухаў адбыўся толькі ў сярэдзіне 20-х гг. XX ст. у Заходняй Беларусі. Ляўковіч, які ў той час быў сакратаром метадысцкага Амерыканскага камітэту ў Варшаве, у 1924 г. скантактаваў беларускіх дзеячоў з Метадысцкай царквой. У выніку паспяховых уступных перагавораў беларусы стварылі ў Вільні г. зв. Віленскі Амерыканскі камітэт у складзе: сенатар Аляксандр Уласаў, пасол Браніслаў Тарашкевіч, старшыня варшаўскага Беларускага нацыянальнага камітэту Адам Більдзюкевіч, настаўнік беларускай гімназіі Язэп Гаўрылік, пастар Нядзведзкі і Вера Тарашкевічава. Падобны камітэт стварыўся ў Радашкавічах. У Доме метадыстаў у Варшаве з 1925 г. месціўся Беларускі нацыянальны камітэт, якога сакратаром быў Ляўковіч.

Царква метадыстаў успамагала беларускі рух фінансава. Асаблівую ўвагу метадысты звярталі на моладзь, фундуючы школы або інтэрнаты ў Радашкавічах, Вільні, Слоніме і Клецку. Характэрна, што сімпатыкі метадызму стаялі на чале Таварыства беларускае школы ў Польшчы (Уласаў і Радаслаў Астроўскі) і Таварыства беларускіх настаўнікаў у Латвіі (Канстанцін Езавітаў і С. Краснеўскі). Метадысты падтрымоўвалі таксама Беларускі інстытут гаспадаркі й культуры з сядзібай у Варшаве. Старшынёй Інстытуту быў Більдзюкевіч, а сакратаром Ляўковіч. Навучаючы рэлігіі ў фінансаваных сабою школах, метадысты ўплывалі на інтэлект будучай беларускай эліты. Са свайго боку, беларускія дзеячы памагалі Царкве метадыстаў, якая толькі пачынала місійную дзейнасць на абшарах, населеных беларусамі. Дзякуючы гэтай дапамозе метадысты стварылі колькінаццаць грамадаў на беларускай вёсцы”.

Большая частка актыўных дзеячаў беларускага метадызму прытрымлівалася ў палітыцы сацыялістычных поглядаў. Спадзевы на незалежнасць ад Польшчы прывялі многіх з іх да тайнага ўступлення ў камуністычную партыю ў 1926 г. Апошні факт моцна падарваў давер да метадыстаў з боку іншых беларускіх хрысціянаў, якія зазвычай трымаліся разам. Часопіс хрысціянскіх дэмакратаў выступіў з жорсткай крытыкай

метадысцкага руху, абвінаваціўшы яго лідараў у атэізме. На жаль, адносна некаторых з іх гэта было праўдай.

Супрацоўніцтва з камуністычнай партыяй выклікала пераследы метадысцкай царквы з боку польскіх уладаў, аднак кропку ў развіцці метадызму на Беларусі паставіла злучэнне ўсходу і захаду нашай краіны ў БССР. Большасць актыўных прыхільнікаў метадысцкіх ідэй былі проста знішчаныя савецкай рэпрэсіўнай машынай альбо мусілі ўцячы ў іншыя краіны.

## *Пытанне 4. Хто такія пяцідзясятнікі і як яны з’явіліся на Беларусі?*

На мяжы XIX і XX стст. у англамоўных краінах актыўна развіваюцца харызматычныя рухі. Найбольш буйным з іх стаў рух хрысціян-пяцідзясятнікаў, які пачаў шлях з біблійнай школы, заснаванай Фоксам Пархэмам у горадзе Топіка ў штаце Канзас. Чытаючы кнігу Дзеяў апостальскіх, Ф. Пархэм заўважыў неадпаведнасць паміж дарункамі ранняй хрысціянскай царквы і сучасных яму цэркваў. Гэта прывяло яго да думкі, што пэўныя рэчы страціліся ў працэсе гісторыі. Для пошуку забытага аб’яўлення ён прыняў рашэння адкрыць біблійную школу, у якой ён быў бы адначасова і дырэктарам, і вучнем. Першапачаткова яму ўдалося набраць каля 40 студэнтаў. У працэсе вывучэння кніг Новага Запавету ўдзельнікі школы (збіраліся ў доме з рамантычнай назвай “Дзівацтвы Каменю”) прыйшлі да высновы, што прыкметай хрышчэння Святым Духам у большасці выпадкаў была гласалалія (малітва на незнаёмай мове) і прароцтва. Гэта прывяло заснавальнікаў руху да думкі, што большасць хрысціянаў не маюць гэтага хрышчэння. Ф. Пархэм прапанаваў маліцца пра атрыманне гэтага дарунку, які знешне праявіўся б у спантаннай гласалаліі. Пасля некалькіх дзён малітвы і чакання першая супольнасць атрымала тое, што прасіла. Гэта адбылося пры наступленні новага 1900 г. Аднак пропаведзь ідэй новага руху сустрэла вялікі супраціў нават сярод прадстаўнікоў пратэстанцкіх цэркваў. Прычыны заключаліся ў дзвюх рэчах. Па-першае, пяцідзясятнікі ў вучэнні пра хрышчэнне Святым Духам ішлі ў разрэз з большасцю тагачасных хрысціянаў. Праваслаўныя і каталікі ўспрымалі хрышчэнне сакраментальна. Гэты дарунак перадаваўся ў Праваслаўнай царкве праз свяшчэннае міра, а ў Каталіцкай праз ускладанне рук і не суправаджаўся ніякімі псіха-саматычнымі праявамі. У большасці пратэстанцкіх цэркваў пад хрышчэннем Святым Духам разумелася пакліканне чалавека да перамены жыцця. А па-другое, сам феномен гласалаліі для многіх выглядаў спрэчным. Многія адмаўляліся бачыць у спантанных гуках пяцідзясятнікаў тую самую гласалалію, пра якую пісалі Апосталы. І тым не менш новы рух атрымаў шырокае распаўсюджанне ў некаторых штатах Амерыкі, а потым быў перанесены ў Еўропу прапаведнікам Т. Б. Баратам.

У Беларусі пяцідзясятніцкі рух пачаў распаўсюджвацца на Палессі з 1919 г. дзякуючы пропаведзі Рыгора Краскоўскага. Ён, як і многія беларусы таго часу, скіраваўся на заработкі ў Амерыку. Там выпадкова зайшоў у адну з пяцідзясятніцкіх цэркваў і пачуў пропаведзь, якая ўпершкі ўскалыхнула яго сэрца. Хутка ён прыняў хрышчэнне і стаў прапаведнікам у адной са славянскіх цэркваў. Вярнуўшыся на Бацькаўшчыну, пачаў актыўную пропаведзь. Евангелічны часопіс пачатку XX ст. "Христианский вестник" сведчыць, што Р. Краскоўскі меў дарунак ацалення. "На яго малітву вылечылася ў аднаго чалавека сухая рука. Іншы раз праз яго малітву нямы пачаў размаўляць, шматлікія іншыя цуды тварыліся моцай Сьвятога Духа паводле малітвы вернікаў". Будучы пераемнік Р. Краскоўскага А. Мазала ў сваіх успамінах піша пра цуды гласалаліі, якія адбываліся ў беларускіх вёсках: "Узгадваецца мне 14 красавіка 1924 году... ужо ў самым пачатку служэньня ў малітве адчулася Божая моц, а затым Госпад пачаў хрысьціць Духам Сьвятым, як у дзень Пяцідзясятніцы. Дзень гэты быў вырашальным для ўсяго павету, бо пачалося вялікае прабуджэньне: грэшнікі каяліся на кожным служэньні, і Госпад хрысьціў Духам Сьвятым часам да 10 душаў у сабраньні. Воднае хрышчэньне зьдзяйсьнялася штонядзелі, і колькасьць прымаючых яго зьлічвалася сотнямі..."

У больш позні перыяд служэнне пяцідзясятніцкіх прапаведнікаў неслі браты Рыгор і Якаў Селюжыцкія, Станіслаў Недзведскі, Карп Леановіч, Даніла Комса і іншыя. Пяцідзясятніцтва актыўна распаўсюджвалася ў 20-я гг. пераважна на Заходняй Беларусі. Тутэйшыя пяцідзясятнікі ўваходзілі ў Польскі Саюз Хрысціянаў Веры Евангельскай і нават прымалі актыўны ўдзел у кіраванні гэтай арганізацыяй. Пазней да пяцідзясятніцкага руху далучыліся больш дробныя харызматычныя кірункі – хрысціяне Сіёну і мурашкоўцы. Апошнія былі наступнікамі мясцовага палескага прапаведніка з прозвішчам Мурашка. Гэты чалавек, хутчэй за ўсё, не быў звязаны ні з якімі буйнымі царкоўнымі рухамі і прапаведаваў уласную канцэпцыю. Перамяшчаючыся ад вёскі да вёскі, ён знайшоў вялікую колькасць паслядоўнікаў. Аднак прапаведніцкая слава не паслужыла яму на карысць. Ідэі Мурашкі рабіліся ўсё больш і больш далёкімі ад Евангелля. Урэшце ён пачаў называць сябе новым Аўраамам і прычашчаў вучняў кроўю пастаяннай спадарожніцы, якую называў маці Сарай. Урэшце, сабраўшы з паслядоўнікаў вялікую суму грошай, ён уцёк у Аргентыну, дзе, падобна, звар'яцеў і быў забіты выпадковымі рабаўнікамі. Аднак пасля здрады Мурашкі засталася вялікая колькасць супольнасцяў, частка іх расчаравалася ў евангелічнай пропаведзі, а частка знайшла сілы далучыцца да пяцідзясятніцкага руху.

Вялікай духоўнай праблемай для руху пяцідзясятнікаў стаў унітарыскі раскол, які адбыўся па прычыне таго, што некаторыя прапаведнікі пачалі адмаўляць Адзінасутнасць

Тройцы і асобу Духа Святога. Пропаведзь унітарыстаў была шырока распаўсюджана ў Расеі, але амаль не закранула Беларусь.

Пасля злучэння ўсходу і заходу нашай Бацькаўшчыны, пяцідзясятніцкія супольнасці перацярпелі ганенні поруч з іншымі хрысціянамі.

## *Пытанне 5. Хто такі таварыш Я. А. Тучкоў і што такое абнаўленскі раскол?*

Доўгі час гісторыкі не звярталі ўвагі на асобу начальніка 6-га аддзела ОГПУ Я. Тучкова. Між тым складана знайсці чалавека, які з падобнай вытанчанай падступнасцю служыў бы справе разбурэння хрысціянскай царквы. Былы пісар штаба Заходняга фронту, ён уступіў у менскую арганізацыю РСДРП у верасні 1917 г. У 1918-м ён ужо увайшоў у склад "чрезвычайной комиссии", створанай выхадцам з Беларусі Ф. Дзяржынскім. Новаспечаны чыкіст Тучкоў быў скіраваны ў Башкірыю, дзе ўзначаліў адно з самых зверскіх рабаўнічых прадпрыемстваў таго часу – "продразвёрстку". Дзейнасць створаных ім прадатрадаў адзначылася асаблівай жорсткасцю і ўнесла ледзь не найбольшы ўклад у арганізацыю волжскага голаду. Аднак спрычыненне да гэтай гуманітарнай катастрофы не перашкодзіла Я. Тучкову прыняцца за наступнае рабаўніцкае мерапрыемства – канфіскацыю царкоўных каштоўнасцяў, сродкі ад якой былі нібыта прызначаныя для дапамогі пацярпелым ад голаду. Гэта магло б выглядаць забаўна, калі б за гэтым не стаяла гібель многіх тысячаў людзей. Хоць да гонару Я. Тучкова варта сказаць: у ягоным раёне канфіскацыя прайшла без правакацый і арыштаў, якія былі масавымі ў іншых месцах. Уменне чыкіста з чатырма класамі адукацыі абыходзіцца з царкоўнікамі было заўважана ў Маскве. І хутка ён стаў членам антырэлігійнай камісіі.

У задачу Я. Тучкова ўваходзіла не дапусціць рэфармавання і ўзмацнення Праваслаўнай царквы. Застарэлую, кансерватыўную царкву было прасцей паставіць пад кантроль альбо знішчыць. Для гэтага было неабходна здыскрэдытаваць у вачох вернікаў самую ідэю рэформаў і абнаўлення. І гэта Я. Тучкову ў вялікай ступені ўдалося. Падчас заключэння патрыярха Ціхана пад варту ён пачаў апрацоўку епіскапаў, гатовых да супрацоўніцтва. Сярод іх былі і тыя, каго сабор 1917 г. пазбавіў сану за распусныя паводзіны. Але менавіта такія кадры больш за ўсё цікавілі чыкістаў. Карыстаючыся адсутнасцю патрыярха, фальшывыя абнаўленцы пры падтрымцы бальшавісцкай спецслужбы захапілі ўладу ў царкве. Яны стварылі ў 1922 г. орган, які насіў назву Вышэйшай царкоўнай ўправы. Ён складаўся пераважна з белага духавенства. Я. Тучкоў тут умела згуляў на спрадвечных супярэчнасцях і нават узаемнай пагардзе белага і чорнага кліру. Сцягам новага кіраўніцтва стала ператварэнне ў жыццё сацыяльных лозунгаў сабору 1917 г. і дарэвалюцыйнага руху царкоўнага абнаўлення. Аднак па факце

адзінай рэформай, праведзенай фальшывымі абнаўленцамі, было адраджэнне жанатага епіскапату і (у некаторых месцах) мадэрнізацыя богаслужбовага адзення. Пры гэтым заставаліся найгоршыя недахопы царкоўнага кіравання – бюракратызм, сервелізм і апора на свецкую ўладу. Такім чынам, царква раскалолася на дзве часткі: прыхільнікаў патрыярха (“ціханаўцаў”) і прыхільнікаў вышэйшай царкоўнай управы (“абнаўленцаў”). У Беларусі абнаўленцы захапілі большую частку храмаў Віцебскай і Магілёўскай епархій. У Менскай епархіі іх дзейнасць моцна скаваў аўтакефальны рух. Што датычыць заходнебеларускіх епархій, то яны належалі да аўтаномнай Польскай праваслаўнай царквы і абнаўленцамі не былі закранутыя. Дасягнуўшы жаданай мэты – расколу царквы, – Я. Тучкоў пачаў хітрую гульню з духавенствам абедзвюх расколатых частак і к канцу 1920-х гг. дасягнуў такой улады над Праваслаўнай царквой, што яе часам параўноўваюць з уладай самага аўтарытарнага обер-пракурора К. Пабеданосцава. Як на здзек, Я. Тучкоў раскватараваўся са сваёй сям’ёй у адным з духоўных цэнтраў Расеі – Дывееўскім падвор’і. Гэтая прапіска давала ў яго распараджэнне не толькі камфортныя епіскапскія апартаменты дарэвалюцыйнага часу, але і шматлікую бясплатную прыслугу, насельніцаў падвор’я. Дасягнуўшы кантролю над Рускай праваслаўнай царквой, Я. Тучкоў вырашыў прыняцца за “сектантаў”, пад якімі разумеліся пераважна евангелісты, баптысты, пяцідзясятнікі і мурашкоўцы. Аднак новая крамлёўская кліка, што прыйшла да ўлады пасля 1929 г., не вельмі патрабавала метадаў барацьбы Я. Тучкова. У 1931 г. антырэлігійная камісія была распушчана, а барацьба з хрысціянамі працягнулася больш прымітыўнымі, але часта больш эфектыўнымі метадамі – расстрэламі і катаваннем у лагерах.

Парадаксальна, але сам Я. Тучкоў выйшаў жывым з усіх партыйных і чыкісцкіх чыстак ды памёр сваёй смерцю ў 1957 г., так і не здзейсніўшы шчырую і асабістую мару свайго жыцця – атрымаць адукацыю і стаць вучоным.

### *Пытанне 6. Хто такія навамучанікі і вызнаўцы беларускай зямлі?*

Навамучанікамі ў Беларускай праваслаўнай царкве прынята называць хрысціянаў, якія пацярпелі за веру ў часы савецкіх ганенняў на царкву. Такі своеасаблівы “тытул” выкарыстоўваецца для таго, каб адрозніць мучанікаў XX ст. ад старажытных мучанікаў і вызнаўцаў веры.

Праваслаўная царква, як самая шматлікая на тэрыторыі Беларусі, самая першая прыняла на сябе ўдар бальшавіцкага пераследу. Напады бальшавікоў на праваслаўныя святыні адбыліся ўжо ў 1918 г.

Як толькі войскі, падуладныя Савету народных камісараў, займалі якую-кольвечы частку тэрыторыі Беларусі – там адразу ж пачыналіся пагромы і высяленні праваслаўнага

духавенства. Святары і простыя клірыкі высяляліся з сваіх дамоў. Іх маёмасць падвяргалася рабаўніцтву. Першапачаткова новую ўладу цікавіла толькі золата храмаў. Найбуйнейшая кампанія па рабаванні цэркваў распачалася пад прыкрыццём дапамогі галодным Паволжа. Яна адбылася ў 1922 г. Бязбожная ўлада імкнулася сканфіскаваць у святынях усё, што магло быць прададзена за грошы. Пры гэтым не выказвалася аніякай пашаны да літургічных сасудаў і іншых свяшчэнных прадметаў. Канфіскацыя ў многіх месцах праводзілася зусім па-варварску. Каштоўныя творы мастацтва пераплаўляліся на золата, а часам і проста спальваліся, бо не уяўлялі ў вачах вандалаў ніякай значнасці. Акцыя па канфіскацыі каштоўнасцяў мела яшчэ і правакацыйны характар. Улады спадзяваліся дыскрэдытаваць духавенства і атрымаць нагоды для закрыцця храмаў і рэпрэсій сярод вернікаў. Для таго і прычыну абралі звонку “карытатыўную” – дапамогу галодным. У такіх умовах любая спроба супраціўлення выглядала б злачынствам.

Разумеючы падступнасць уладаў, мітрапаліт мінскі Мельхісэдэк (Паеўскі) заклікаў клірыкаў і міранаў ніяк не перашкаджаць праводзіць рэвізію каштоўнасцяў у святынях. Ахвяруючы маёмасцю царквы, святыцель абараняў сваю паству ад непатрэбнага кровапраліцця. Дзякуючы гэтай мудрай палітыцы менавіта ў Мінскай епархіі гэтая кампанія прайшла мірна і чырвоныя камісары не знайшлі жаданай нагоды для пераследу хрысціянаў.

Аднак менавіта гэта і выклікала ў бальшавікоў найбольшае раздражненне. У 1924 г. мітрапаліт Мельхісэдэк быў заключаны пад варту. Яго намагаліся судзіць. Аднак на той час пазіцыі новай улады на Беларусі былі яшчэ не такімі моцнымі і бальшавісцкая рэпрэсіўная машына – не ўсёмагутнай. Насупраць будынка, дзе праходзіў суд, сабраўся такі вялікі натоўп вернікаў, што, баючыся ўсегарадскога бунту, суд мусіў апраўдаць і адпусціць мітрапаліта.

Святыцель працягнуў сваю дзейнасць. Ён актыўна займаўся ўладкаваннем і абаронай царквы. Клапаціўся пра асвету народу. Сам актыўна прапаведаваў і прымаў споведзі.

Яшчэ ў 1922 г. мітрапаліт Мельхісэдэк правёў з’езд духавенства Мінскай епархіі, на якім было пастаноўлена абвесціць аўтаномію Беларускай праваслаўнай царквы. Дэлегаты з’езду звярнуліся ў пасланнях да іншых праваслаўных цэркваў з просьбай прызнаць аўтаномію. Гэта зусім не было гульнёй амбіцый, як часам прадстаўляюць некаторыя гісторыкі. Патрабаванні аўтаноміі былі выкліканыя клопатам пра карысць царквы. Па-першае, духоўнымі патрэбамі беларускай нацыі, якія не дастаткова добра разумеліся ў Маскве. Па-другое, пастаяннымі інтрыгамі з боку савецкага ўраду, скіраванымі на ўстанаўленне кантролю над царквой. Па-трэцяе, тэхнічнымі складанасцямі ў стасунках з цэнтрам патрыярхату. У сакавіку 1923 г. мітрапаліт Мельхісэдэк разам з іншым епіскапам,

імя якога засталося невядомым, рукапаклалі ў вікарныя епіскапы Філарэта Раменскага, Іаана Пашына і Мікалая Шэмеціла.

Аўтарытэт мітрапаліта сярод вернікаў быў вельмі высокім, і гэта сталася істотнай перашкодай на шляху атэістычнай прапаганды новай улады. Такое не магло быць даравана. У 1925 г. мітрапаліта зноўку арыштавалі і на гэты раз перапрвілі ў адзін з лагероў Краснаярскага краю, дзе, верагодна, ён і загінуў.

У хуткім часе за актыўную пастырскую і адукацыйную дзейнасць у Зыранскі край быў сасланы Іаан Пашын.

Арыштам архіерэяў скарысталіся абнаўленскія раскольнікі. Абапіраючыся на дапамогу ўладаў, самачынны мітрапаліт Данііл Грамавенка пачаў захопліваць храмы ў Мінску і па ўсёй Усходняй Беларусі. Аднак вернікі не жадалі прымаць епіскапаў і святароў, якія супрацоўнічалі з ГПУ. У храмах адбываліся сутыкненні паміж старацаркоўнікамі і абнаўленцамі. Гэтыя беспарадкі давалі ўладам нагоду арыштоўваць святароў-старацаркоўнікаў, якіх адпраўлялі ў лагеры асабліва прызначэння, дзе многія з іх загінулі. Такі лёс напаткаў, напрыклад, настаяцеля Свята-Ўваскрасенскага храма Васіля Ізмайлава.

Для таго каб абараніць Беларускую царкву ад наступальнага расколу, свяціцель Філарэт (Раменскі) разам з найбліжэйшымі паплечнікамі з менскага духавенства пайшоў на паглыбленне аўтаноміі і абвесціў аўтакефалію. У дэкларацыі, падпісанай 21 ліпеня 1927 г., гэты крок тлумачыўся наступным чынам: “У рэлігійнай свядомасці веруючых мас Беларусі заўсёды была жывой думка пра аўтаномію, і цяпер асабліва, калі ў асяродку Праваслаўнай Царквы Ўсерасейскай нарастаюць рэлігійныя звады і павялічваецца колькасць разнастайных рэлігійных груповак. Не жадаючы ўцягвацца ў барацьбу паміж рэлігійнымі царкоўнымі партыямі, Беларуская Праваслаўная Царква найлепшым сродкам пазбегнуць гэтага лічыць пацверджанне сваёй непахіснай волі быць аўтакефальнай”. Рухаючыся па намечаным курсе, праваслаўнае духавенства Мінскай епархіі сабралася на сабор, які 10 жніўня 1927 г. канчаткова абвесціў аўтакефалію. У пэўным сэнсе абвяшчэнне аўтакефаліі было адказам на “пасланне да пастыраў і паствы” намесніка патрыяршага местаблюсціцеля Сергія (Старагародскага), у якім той заклікаў скарыцца бальшавіцкай уладзе і прызнаць Савецкі Саюз сваёй паўнавартаснай Айчынай. Гэтая заява прывяла да страты арыентыраў у царкоўным жыцці і ўнесла разлад у колы старацаркоўнікаў. Цэнтрам Беларускай аўтакефальнай царквы стаў храм Святой Марыі Магдалены, што на Старажоўцы.

Палацавы пераварот у Маскве, які адбыўся ў 1929 г., адзначыў пачатак шляху да фармавання таталітарнай сістэмы кіравання. Па Ўсходняй Беларусі, як і па ўсім Саюзе,

пракацілася хваля рэпрэсій, звязаная з партыйнымі чысткамі. Новыя партыйныя вярхі на чале з Іосіфам Сталіным дэманстравалі краіне моц. Аднак яшчэ больш масавую гібель людзей, чым партыйныя чысткі, выклікала прымусовая калектывізацыя. Многія беларускія сяляне, абвінавачаныя ў супрацьдзеянні калгаснай справе, былі выселеныя ў сібірскую тайгу. Пад пільным вокам канваіраў спецперасяленцы мусілі самі абжываць незнаёмыя лясы, пазбаўленыя ежы, дапамогі і медыцыны. Многія нашы землякі загінулі ад лютых сібірскіх маразоў ды зімовай бясхлебіцы. Часцей за дарослых паміралі пераселеныя разам з бацькамі дзеці.

Разам з калектывізацыяй узмацнілася і барацьба з хрысціянствам. Многія святары і актыўныя вернікі былі фальшыва абвінавачаныя ў стварэнні контррэвалюцыйных арганізацый і расстраляныя. У гэты час распачынаюцца ганенні на баптыстаў і евангельскіх хрысціянаў, якія да 1929 г. лічыліся групай насельніцтва, прыгнечанай царскай уладай, і таму не краналіся. Аднак сталінскі ўрад вырашыў пакончыць з усім, што нельга было паставіць пад кантроль. Найбольш частай нагодай, па якой баптысты і евангельскія хрысціяне падвяргаліся рэпрэсіям, была іх адмова служыць у войску і ўдзельнічаць у іншых агульнадзяржаўных справах. Па факце ж бязбожная ўлада пачувала небяспеку ў самім існаванні хрысціянскіх цэркваў. Усялякая спроба аб’яднання хрысціянаў (нават адной канфесіі), не санкцыянаваная ўладамі, успрымалася як спроба контррэвалюцыйнай дзейнасці. Шчырая пропаведзь Хрыстовага Евангелля таксама ўспрымалася за рэакцыйную прапаганду.

З кожным годам савецкая рэпрэсіўная машына рабілася ўсё больш і больш пражорлівай. Пяцігодка 1933 – 1937 была аб’яўлена з’ездам ВКП (б) “безбожной пятилеткой”. Атэісты спадзяваліся за такі кароткі прамежак часу пакончыць з хрысціянскімі цэрквамі ўвогуле. Беларусь была паклікана стаць узорнай бязбожнай рэспублікай. Па ўсім краі знішчаліся храмы. Перапланіроўка гарадоў рабілася з разлікам на знос старадаўніх святыняў. Тыя цэрквы, што заставаліся, падвяргаліся знявазе – у іх рабіліся свінарнікі ды склады. Нават калі храмы аддаваліся пад культурныя ўстановы, бязбожнікі стараліся паздзекавацца з святыні, уладкоўваючы прыбіральні ў былых алтарах.

Але камуністычныя ўлады зневажалі не толькі святыні. Хрысціянскія служыцелі і вернікі, належныя да ўсіх канфесій і рэлігійных груповак, тысячамі адпраўляліся на смерць. Калісьці падтрыманых уладай абнаўленцаў цяпер саджалі і расстрэльвалі разам са старацаркоўнікамі. На 10 гадоў без права перапіскі разам адпраўляліся баптысты і каталікі, праваслаўныя і стараабрадцы. Асаблівым шыкам для следчых і для лагернага начальства было дамагчыся ад падследных ці асуджаных пісьмовага адрачэнння ад веры.

Для гэтага прымяняліся розныя катаванні, якія ні ў чым не саступалі тым, што выкарыстоўваліся старажытнымі язычнікамі да першых хрысціянскіх мучанікаў. На суд бязбожнікі ўжо не разменьваліся: смяротныя прысуды выносіліся "тройкамі" – то бок падпісваліся трыма мясцовымі партыйнымі функцыянерамі.

Толькі за перыяд з 1933 да 1937 г. колькасць хрысціянскіх мучанікаў у Савецкім Саюзе стала параўнальнай з агульнай колькасцю мучанікаў за ўсе папярэднія эпохі

Каб проста пералічыць імёны закатаваных за веру, давялося б пісаць асобную кнігу. Яшчэ далёка не ўсе біяграфіі мучанікаў і вызнаўцаў веры даследаваныя, хоць над гэтым працуюць многія гісторыкі.

І ўсё ж, па Божай міласці, бязбожная пяцігодка скончылася паразай атэістаў. Нягледзячы на тое, што на тэрыторыі Беларусі былі зачыненыя амаль усе праваслаўныя і ўсе каталіцкія храмы, нягледзячы на тое, што ўсе евангельскія супольнасці былі загнаныя ў глыбокае падполле, у перапісе 1939 г. больш за палову насельніцтва Ўсходняй Беларусі вызнала сябе хрысціянамі.

## *Пытанне 7. Кроў якіх мучанікаў пралілі нацысцкія акупанты?*

У 1941 – 1944 гг. беларускія землі былі акупаваныя нацысцкай Нямеччынай.

Ідэалогія і практыка нацыстаў на ўсе часы стала сімвалам цемры, бяздушнасці ды бязлітаснай жорсткасці. Натуральна, што гэты д'ябальскі рух, які паліў крывёю ўсе краіны Еўропы, не меў нічога агульнага з хрысціянствам.

І ўсё ж, ведучы складаныя баявыя дзеянні на ўсходнім фронце, нацысты былі вымушаныя праводзіць хітрую акупацыйную палітыку на занятых імі тэрыторыях. Каб схіліць да супрацоўніцтва хрысціянскае насельніцтва, акупанты дазволілі праваслаўным і каталікам Усходняй Беларусі адчыніць свае храмы, аднавіць службы і пропаведзь. Гэта была вялікая палёгка, бо пасля бальшавіцкай навалы на ўсходзе Беларусі засталіся ўсяго толькі дзве дзейныя царквы і ніводнага касцёлу. Аднаўленне святыняў на акупаваных фашыстамі тэрыторыях адзін з тагачасных іерархаў праваслаўнай царквы назваў "другім хрышчэннем Русі".

Аднак немцам зусім не была патрэбная самастойная хрысціянская царква. Ім была патрэбная ідэалагічна-прапагандысцкая ўстанова, якая спрыяла б выкананню планаў рэйху. Таму вельмі хутка шчырыя служыцелі Хрыста ўвайшлі ў канфлікт з нацыстамі.

Яшчэ ў снежні 1941 г. акупацыйнымі ўладамі былі вынішчаныя каталіцкія місіянеры, скіраваныя ва Ўсходнюю Беларусь віленскім арцыбіскупам Р. Яблыжкоўскім. Ксяндзы Дзяніс Малец і Станіслаў Галякоўскі без вестак згінулі пасля арышту нацысцкімі органамі бяспекі. Цалкам верагодна, што вызнаўцаў веры рассстралялі[lxii]. Праз год пад колы акупанцкіх рэпрэсій патрапіў перакладчык Евангелля, палымяны місіянер і шчыры

ўдзельнік беларускага руху ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі[lxiii]. Святар быў арыштаваны ў плябаніі мінскага касцёла і закатаваны ў невядомым месцы. З пэўнай доляй верагоднасці можна казаць, што ён быў дастаўлены ў канцэнтрацыйны лагер Трасцянец (пад Менскам), дзе яго і забілі.

У 1942 г. у Росіцы ад рукі карнікаў загінулі каля паўтары тысячы праваслаўных і каталіцкіх вернікаў. Разам з парафіянамі на смерць пайшлі святары-місіянеры Аляксей Ляшчэвіч і Юры Кашыра. Сёння яны ўшаноўваюцца Каталіцкай царквой як благаслаўлёныя мучанікі. За таемную місію сярод палонных чырвонаармейцаў, дапамогу габрэям і вязням турмаў і кацлагераў былі жорстка забітыя айцы-езуіты Адам Штарк і Эдмунд Рошак[lxiv].

Ад рук нацысцкіх катаў гінулі і праваслаўныя святары. Праўда, на жаль, праваслаўныя і пратэстанцкія мартэры даследаваны сёння значна горш за каталіцкія. Прыкладам пакутніцтва сярод праваслаўнага духавенства можа служыць лёс айца Аляксандра Валодушкі, забітага за прапаведзь супраць злачынстваў паліцаяў. Ён таксама адмовіўся хаваць забітых паліцаяў як хрысціянаў, чым змусіў многіх пакаяцца і пакінуць крывавы заработак.

Шмат хрысціянаў пацярпелі ад немцаў, выратоўваючы жыццё габрэяў. Гэты народ на той час складаў вельмі вялікую долю гарадскога насельніцтва Беларусі. І ўвесь ён з пункту гледжання нацыстаў падлягаў вынішчэнню. Для больш зручнай працы “машыны смерці” габрэяў перасялялі ў спецыяльныя кварталы – гета, дзе былі благія ўмовы. Многія хрысціяне хавалі габрэяў у сваіх дамах, усынаўлялі габрэйскіх дзяцей, дапамагалі звязацца з партызанамі. Некаторыя святары ішлі на рызыку і выдавалі юдэям фальшывыя даведкі пра хрышчэнне, якія выратоўвалі жыццё. Такія справы выклікалі з боку акупацыйнай адміністрацыі жорсткі пераслед. Людзі, што дапамагалі габрэям, рызыкавалі патрапіць пад расстрэл.

І ўсё ж адвага і міласэрнасць часта аказваліся мацней за страх і міжрэлігійнае непрыняцце.

## *Пытанне 8 Якія ганенні прыйшлося перацярпець хрысціянам за сакратарствам М.Хрушчова і яго наступнікаў?*

Пасля смерці І.Сталіна месца генеральнага сакратара КПСС не без барацьбы займае выхадзец з Украіны М.Хрушчоў. Пачынаецца перыяд, які пазней гісторыкі назавуць "хрушчоўсккй адлігай". З’езд камуністычнай партыі асуджае многія пазіцыі палітыкі І.Сталіна. У першаю чаргу гэта датычыла культа ягонай асобы і не апраўданых масавых рэпрэсій. Судовыя справы многіх палітвязняў былі перагледжаныя, што дало магчымасць шмат каму выйсці на свабоду са сталінскіх засценкаў і лагероў. Сярод іх былі і вызнаўцы

веры. Так распачаўся працэс рэабілітацыі палітвязняў, які працягваецца да сённяшняга дня.

Аднак для хрысціянскіх цэркваў адліга доўжылася не доўга. Ужо ў 1958 годзе распачалася новая хваля ганенняў. Яны былі не такімі крывавымі, як папярэднія, але месцамі больш складаныя ў сэнсе прэсінгу, які аказваўся на хрысціянскія супольнасці. З гэтай прычыны яны ўнеслі агромністы ўклад у справу абязбожвання беларускага народу, які па справядлівасці лічыўся "рэкарцменам" атэізму сярод іншых савецкіх нацый.

Пачатак новай хвалі ганенняў быў пакладзены ў 1958 годзе, калі была прынятая сакрэтная пастанова ЦК КПСС "пра недахопы ў навукова атэістычнай прапагандзе". З гэтага моманту недахапы прапаганды пачалі актыўна выпраўляцца. Разбуральныя захады прадпрымаліся як супраць праваслаўнай царквы, так і супраць евангельскіх хрысціянаў.

У адносінах праваслаўнай царквы была праведзена рэформа царкоўнага кіравання, у выніку якой святары былі пазбаўленыя права голасу на прыходзе. Кіраванне ажыццяўлялася прыходскімі радамі (такзванымі дваццаткамі), негласна падпарадкаванымі мясцовым абкомам партыі. Святар быў пры гэтым проста наймітам з працоўнай кніжкай культарганізатара. Такая сітуацыя прывяла да пазбаўлення святароў магчымасці прамаўляць казані. Яны фактычна сталі тэхнічнымі выканаўцамі абрадаў. Трэбы мусілі строга фіксавацца дакументальна. Пры хрышчэнні дзяцей запісваліся пашпартныя дадзеныя бацькоў і паручальнікаў. Пры чым патрабавалася прысутнасць і пісьмовая згода абодвух бацькоў. Гэта давала ўладам лішні інструмент у ціску і змяншала верагоднасць існавання таемных хрысціянаў. Святары, якія спрабавалі праяўляць самастойную актыўнасць часцей за ўсё "звальнялі з працы" і падвяргалі праследам. Перад храмамі рэгулярна дзяжурылі нарады міліцыі, якія не дазвалялі дзецям і падлеткам патрапіць на багаслужбу. У склад епіскапату была навязана (альбо завербаваная са складу епіскапата) вялікая колькасць супрацоўнікаў КДБ, якое ажыццяўляла фактычнае кіраванне іерархіяй. Гэта было патрэбна савецкаму ўраду (сярод іншага) для выкарыстання знешнепалітычных сувязяў рускай праваслаўнай царквы. Строгаму кантролю падлягалі духоўныя школы (семінарыі і акадэміі). У іх забаранялася прымаць студэнтаў з высокім балам атэстату і тым больш людзей з навуковымі ступенямі. Наватарства выкладчыкаў і творчыя парывы студэнтаў не віталіся з боку наглядчыкаў ад улады.

Усе гэтыя акалічнасці прыводзілі да зніжэнбя інтэлектуальнага узроўню і да маральнага раскладання ў святарскім асяроддзі. Аднак знаходзіліся людзі, якія гераічна супрацьстаялі склаўшайся сістэме. У гэтым сэнсе нельга не адзначыць гераічны лёс прасвітара Віталя Баравога з Гомеля. Будучы супрацоўнікам аддзела знешніх зносінаў маскоўскай патрыярхіі і знаходзячыся пад падвойным наглядам спецслужбаў, ён заставаўся адным з

не многіх, хто, знаходзячыся ў СССР адважваўся прамаўляць палымяныя пропаведзі і навучаць прыхажанаў. Былі і іншыя святары, якія імкнуліся таемна праводзіць катэхезу, ажыццяўляць духоўнае кіраваннне і пастырскую апеку. Дзякуючы намаганням гэтай "рэшты Ізраіля" праваслаўная царква здолела захавацца ў не столькі крывавыя колькі подлыя часы позніх савецкіх ганенняў.

Што датычыць евангельскіх хрысціян баптвстаў, то яны таксама падпалі пад сур’ёзныя абмежаванні. У кітаўніцтва саюза ЕХБ было ўключана (альбо ізноў жа завербавана) вылікая колькасць супрацоўнікаў спецслужбаў. Кожная казань перад яе прамаўленнем мусіла каспектавацца і прадстаўляцца на зацьвярджэнне. У 1961 годзе па ўсіх супольнасцях саюза ЕХБ на тэрыторыі СССР быў разасланы інструктыўны ліст ад імя кіраўніцтва саюза ЕХБ. Гэты дакумент забараняў пастарам прымаць у супольнасць новых братоў і сёстраў. Таксама ў ім патрабавалася стрымліваць тых парафіянаў, якія маюць схільнасць да місіі. Многія паместныя цэрквы былі вымушаныя прыняць новы парадак. Аднак шэраг пастапраў і простых супольнікаў выступілі з ініцыятывай сабраць з’езд саюза і замяніць скарумпаванае кіраўніцтва. Для гэтага была слушная прычына -- умяшальніцтва свецкай улады ў справы царквы супярэчыць веравучэнню як баптыстаў так і пяцідзесятнікаў. Аднак ініцыятыва была задушана ў зародышы. Лідэры нязгодных былі арыштаваныя і асуджаныя за антсавецкую дзейнасць на доўгія тэрміны зняволення. У адказ на гэта распачаўся выхад супольнасцяў з саюза. Асабліва масавым быў выхад пацідзесятнікаў, якія к пачатку 1980-х амаль цалкам пакінулі саюз ЕХБ. Заявіўшы свой пратэст, цэрквы пускаліся ў самастойнае плванне і, натуральна, гублялі дзяржаўную рэгістрацыю. Гэта цягнула за сабой пераследы. Супольнасці, якія збіраліся на кватэрах, альбо ў вясковых хатах выслежваліся і разганяліся. Лідэры і простыя вернікі прыцягваліся да суда. Сярод "аддзеленых" цэркваў такога кшталту варта адзначыць дзейнасць пастара Э.К. Сабілы з Менску. Гэты прапаведнік ніколі не быў схільны да кампрамісаў з бязбожнай уладай, але пры гэтым у самых складаных умовах ён прапаведваў любоў да ворагаў. Асаблівасцю духоўнага вобразу Э.Сабілы з’яўляецца яго вернасць сваім нацыянальным караням. Ён заўсёды прапаведваў (і зараз прапаведуе) толькі па-беларуску і навучаў тутэйшых хрысціянаў захоўваць вернасць сваёй Бацькаўшчыне і мове. Гэта выклікала падвойную зкаклапочанасць у прадстаўнікоў улады. Сам пастар двочы асуджаўся на доўгія тэрміны зняволена і знаходзіўся пад пастаянным наглядам КДБ.

Некаторыя гісторыкі царквы выказваюць меркаванне, што хрушчоўскія ганенні былі больш жорсткімі за сталінскія. Калі гаварыць пра колькасць чалавечых ахвяраў гэта не адпавядае рэчаіснасці. Аднак ёсць адна акалічнасць -- хрушчоўнскія ганенні былі скіраваныя непасрэдна супраць хрысціянскай місіі, тады як сталінскія ганенні былі толькі

адным са складнікаў агульнапалітычных рэпрэсій. Аднак гэта хутчэй пытанне поваду які знаходзіла дзяржава для арыштаў вернікаў, чым пытанне сутнасці саміх ганенняў. Таму выклікае непаразуменне апраўданне палітыкі І.Сталіна з боку некаторых хрысціянаў і нават служыцеляў царквы.

Пасля змяшчэння М.Хрушчова у 1964 годзе арганізацыйны ціск на цэрквы быў крыху аслаблены. Але весці гаворку пра поўнае спынене ганенняў было б недапушчальным перабольшаннем. Арышты за хрысціянскую пропаведзь працягваліся і ў брэжнеўскія часы (перыяд такзванага застою) і нават у адносна праргрэсіўныя часы перабудовы. Часам прычынай для арышту магла паслужыць нават наяўнасць Бібліі ў доме. Для чытання галоўнай хрысціянскай кнігі нават навуковым супрацоўнікам – гісторыкам і філосафам – трэба было атрымаць спецыяльны дазвол[lxv]. Цікава, што многія хрысціяне таго часу карысталіся для хатняга чытання атэістычнымі пародыямі на біблійныя кнігі (у прыватнасці творамі Л.Таксіля), бо ў гэтых выданнях прыводзіліся буйныя ўрыўкі сапраўднага тэксту для параўнання[lxvi].

У другой палове 1980-х гадоў, у сувязі за асаблівасцямі знешняй палітыкі СССР, савецкія ўлады былі вымушаныя дапусціць некаторыя паслабленні ідэалагічнага прэсінга. У 1988 годзе фактычна на дзяржаўным узроўні было адзначана тысячагоддзе хрышчэння Русі. Сталі дапускацца публікацыі, якія станоўча адгукаліся аб укладзе хрысціянства ў культуру савецкіх народаў. У 1989 годзе артыкулы рэлігінага зместу пачалі з'яўляцца нават у друкаваных органах ВЛКСМ. Аднак у тым жа 1989 годзе яшчэ выносіліся прысуды па справах хрысціянскіх прапаведнікаў. З гэтай прычыны сканчэнне ганенняў савецкага перыяду варта адносіць да пачатку 1990-х гадоў, калі сама савецкая сістэма прыпыніла сваё існаване.

## Замест пасляслоўя

Перад многімі людзьмі пасля іх прыходу ў царкву паўстае пытанне: што такое для нас Радзіма? Якой павінна быць Радзіма? Як трэба да яе ставіцца? Ці абавязаныя мы, — хрысціяне, грамадзяне Неба,— любіць сваю зямную Радзіму? І, нажаль, самае папулярнае ў наш час пытанне – Ці ёсць за што яе любіць?

На гэты конт можна скласці шмат паэтычных гімнаў і маралізатарскіх пропаведзяў. Але, думаю, зараз яны будуць не вельмі дарэчы. На самой справе ўсё значна празаічней. Для таго каб вырашыць складанае пытанне «любові да Радзімы» я прапаную зрабіць простую рэч. Давайце кожны з тых, хто чытае гэтую кнігу, зараз дастане свой пашпарт і раскрые яго на першай старонцы (той самай дзе стаіць лічба «1»). Не трэба асабліва прыглядацца для таго, каб пабачыць зроблены на трох мовах надпіс: «Пашпарт грамадзяніна Рэспублікі

Беларусь». У гэтых банальных і магчыма нават набіўшых аскоміну словах заключаецца глыбокі сэнс. Хто такі грамадзянін Рэспублікі? Хіба не той, хто паводле свайго права і паклікання ажыццяўляе ўладу на яе тэрэторыі? Кожны грамадзянін сам з'яўляецца законным валадаром у сваім краі. Менавіта гэта яго адрознівае ад васала, раба, найміта, паддадзенага. Безумоўна, ён валадарыць не як манарх, а сумесна з іншымі суграмадзянамі. І тым не менш, ніхто іншы як ён асабіста адказны перад Богам за тое, што адбываецца ў межах яго краіны. Улада па-хрысціянску – гэта адказнаць. (ці хтось будзе спрачацца?)

Мы чытаем у Бібліі, што Бог, паставіўшы Давіда царом над Ізраілям, усклаў на яго адказнасць за гэты народ. Такім чынам карона і ўлада былі з аднаго боку Божым дарункам, з другога – вялікай адказнасцю перад Усявышнім. Гэта добра разумелася і ў старазапаветныя і ў хрысціянскія часы. Тытулы валадароў сярэднявечнай Еўропы (у тым ліку тытул вялікага князя літоўскага) пачыналіся са словаў «Божай міласцю…».

Сучасная Беларусь не з'яўляецца манархіяй. Яна – рэспубліка. І гэта азначае, што кожны з нас з поўным правам можа прамовіць пра сябе словы: «Я Божай міласцю грамадзянін Рэспублікі Беларусь». Такі ў нас тытул. Пабольшасці мы атрымалі яго па праву нараджэння. І таму не важна – любім мы сваю краіну, ці захапляемся іншымі культурамі, задаволеныя мы сваім жыццём на Бацькаўшчыне ці не задаволеныя – усё адно на кожным нас (грамадзянаў) ляжыць адказнасць за лёс нашай Радзімы, за яе захаванне, мральнасць, развіццё і дабрабыт. Гасподзь вёў наш народ да разумення гэтай адказнасці праз усе перашкоды. Дарога нашых продкаў проста поўніцца нечаканымі абаротамі, якія іначай як Божымі цудамі і назваць нельга. Для ілюстрацыі прыгадаем, што напрыканцы васемнаццатага стагоддзя большая частка шляхты і адукаванага мяшчанства (фактычна ўся эліта) Беларусі гаварыла на польскай мове і лічыла сябе палякамі. Улічваючы тое, што якраз у гэты час еўрапейскія народнасці пачынаюць уваходзіць у фазу нацыянальнага самаасэнсавання (такзваная «вясна народаў»), у нас былі ўсе шансы стацца ўсяго толькі часткай маладой польскай нацыі. Але гэтага не адбылося. Дзякуючы Расеі. Але і тут было не ўсё проста. Ужо пасля паўстання 1863 году адміністрацыя графа Мураўёва пачала праводзіць палітыку, скіраваную на інкарпарацыю беларусаў у адзіны рускі этнас. Гэтая палітыка (на фоне перманентнай здрады беларускіх элітаў) мела дастатковыя посьпехі. Спрэс да канца 1917 году нават вельмі нацыянальна настораная інтэлегенцыя і палітыкі-рэвалюцыянеры не смелі і марыць ні пра што большае як беларуская аўтаномія ў складзе Расеі. Але здарэнні 1918 году карэнным чынам памянялі ўсё стаўленне да Беларусі і яе будучыні. Нават бальшавікі былі вымушаныя прызнаць хаця б фармальна самастойную беларускю дзяржаву – БССР. У 40-я гады дваццатага стагоддзя нямецкія нацысты планавалі знішчэнне ці асіміляцыю беларусаў, але і гэтым планам Бог не даў збыцца.

Пасля і камуністычны ўрад узяў курс на «зближэнне народаў» у вініку якога беларусы мусілі растварыцца ў безаблічным камуністычным кангламіраце. Ды вось і так не сталася. І сёння мы маем незалежную дзяржаву, дзе па законе мусім быць паўнавартаснымі гаспадарамі. Значыць мае Гасподзь яшчэ нейкі цудоўны план для беларусаў, калі столькі разоў ратаваў наш народ ад знікнення? І ці маем мы права пагарджаць гэтай Божай задумай?



i Для прыкладу такога падыходу можна ўзяць любую кнігу па грамадзянскай гісторыі Беларусі.
ii Гл. напрыклад: Мельнікаў А.А. Кірыл, епіскап Тураўскі. Жыццё, спадчына, светапогляд. 2-е выд., Мн., 2000.
iii Зайденберг С., Котт В. Духовные движения в истории русского православия. Москва, 2004, 68 с.
iv Тамсама
v Тамсама.
vi Тамсама.
vii Тамсама.
viii Повесть временных лет // Полное собрание русских летописей. — Т. 1. Лаврентьевская летопись. — Ленинград, 1926—1928. — VIII с. — 579 стлб.
ix Жлутка А. Заходняе хрысціянства на Беларусі // Наша вера 1 (4), 1998
x Тамсама.
xi Карташев А.В. Очерки по истории Русской Церкви. В 2-х т. М. 1991
xii Тамсама.
xiii Тамсама.
xiv Православная энциклопедия. М: 2000Т. РПЦ
xv Тамсама.
xvi Гісторыя Беларусі: у 6 тамах. Т. 1. Старажытная Беларусь. Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII с. / Рэдкал.: М. Касцюк і інш. – Мн.: Экаперспектыва, 2007. – 351 с.
xvii Гісторыя Беларусі: у 6 тамах. Т. 1. Старажытная Беларусь. Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII с. / Рэдкал.: М. Касцюк і інш. – Мн.: Экаперспектыва, 2007. – 351 с.
xviii Флоровский Г.Пути русского богословия. - Париж, 1937. - 574с.
xix Макарій (Булгаков), архіеп. Литовскій и Виленскій. Исторія Русской Церкви.- Т. I.- СПб, 1879 - 689 с
xx Зайденберг С., Котт В. Духовные движения в истории русского православия. Москва, 2004, 68 с.
xxi Тамсама.
xxii Тамсама.
xxiii Флоровский Г.Пути русского богословия. - Париж, 1937. - 574с
xxiv Мельнікаў А.А. Кірыл, епіскап Тураўскі. Жыццё, спадчына, светапогляд. 2-е выд., Мн., 2000.
xxv Гісторыя Беларусі: у 6 тамах. Т. 1. Старажытная Беларусь. Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII с. / Рэдкал.: М. Касцюк і інш. – Мн.: Экаперспектыва, 2007. – 351 с.
xxvi Концевич И.М. Стяжание Духа Святога в путях Древней Руси: - М.: «Лепта», 2002. – 232 с.
xxvii Тамсама.
xxviii Гісторыя Беларусі: у 6 тамах. Т. 1. Старажытная Беларусь. Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII с. / Рэдкал.: М. Касцюк і інш. – Мн.: Экаперспектыва, 2007. – 351 с.
xxix Гісторыя Беларусі: у 6 тамах. Т. 1. Старажытная Беларусь. Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII с. / Рэдкал.: М. Касцюк і інш. – Мн.: Экаперспектыва, 2007. – 351 с.
xxx Гісторыя Беларусі: у 6 тамах. Т. 1. Старажытная Беларусь. Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII с. / Рэдкал.: М. Касцюк і інш. – Мн.: Экаперспектыва, 2007. – 351 с.
xxxi Белы А. Фларэнтыйская унія // Энцыклапедыя гісторыі Белаусі: У 6 т. Т. 6, II. – Мн.: БелЭн, 1994, с. 42.
xxxii Флеров И. О православных церковных бртсвах, противоборствавших унии в Юго-Западной России в 16, 17 и 18 столетиях. – С-Пб. 1857. – 200 с.

[xxxiii] Флеров И. О православных церковных бртсвах, противоборствавших унии в Юго-Западной России в 16, 17 и 18 столетиях. – С-Пб. 1857. – 200 с.
[xxxiv] Грыцкевич А. П. Брацтвы каталіцкія // Энцыклапедыя гісторыі Белаусі: У 6 т. Т. 2. – Мн.: БелЭн, 1994, с 76.
[xxxv] Макарій (Булгаков), архіеп. Литовскій и Виленскій. Исторія Русской Церкви.- Т. IX.- кн. IV: Исторія Западно-русской или литовской митрополіи. СПб, 1879 - XX, 689 с.
[xxxvi] Казуля С. Кальвінізм // Энцыклапедыя гісторыі Белаусі: У 6 т. Т. 4. – Мн.: БелЭн, 1994, с. 36 – 37.
[xxxvii] Макарій (Булгаков), архіеп. Литовскій и Виленскій. Исторія Русской Церкви.- Т. IX.- кн. IV: Исторія Западно-русской или литовской митрополіи. СПб, 1879 - XX, 689 с.
[xxxviii] Казуля С. Кальвінізм // Энцыклапедыя гісторыі Белаусі: У 6 т. Т. 4. – Мн.: БелЭн, 1994, с. 36 – 37.
[xxxix] Казуля С. Кальвінізм // Энцыклапедыя гісторыі Белаусі: У 6 т. Т. 4. – Мн.: БелЭн, 1994, с. 36 – 37.
[xl] Макарій (Булгаков), архіеп. Литовскій и Виленскій. Исторія Русской Церкви.- Т. IX.- кн. IV: Исторія Западно-русской или литовской митрополіи. СПб, 1879 - XX, 689 с.
[xli] Марозава С. Контррэфармацыя // Энцыклапедыя гісторыі Белаусі: У 6 т. Т. 4. – Мн.: БелЭн, 1994, с. 323 – 232
[xlii] Марозава С. Контррэфармацыя // Энцыклапедыя гісторыі Белаусі: У 6 т. Т. 4. – Мн.: БелЭн, 1994, с. 323 – 232
[xliii] Саверчанка І. Aurea mediocritas. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі: Адраджэнне і ранняе барокка.— Мн.: Тэхналогія, 1998.—319с.
[xliv] Гайдук Н. Брестская уния 1596 года. С приложениями. – Мн.: 1996. – 208 с.
[xlv] Гайдук Н. Брестская уния 1596 года. С приложениями. – Мн.: 1996. – 208 с.
[xlvi] Грыгор'ева В., Філатава А. Праваслаўная царква на Беларусі // Энцыклапедыя гісторыі Белаусі: У 6 т. Т. 5. – Мн.: БелЭн, 1994, с. 554- 557
[xlvii] Зайденберг С., Котт В. Духовные движения в истории русского православия. Москва, 2004, 68 с.
[xlviii] Лебедев Лев, прот. Колумбы русские. – М.: "Русский хронограф", 2003
[xlix] Хоружий С. С. Духовные основы русского старчества // Феномен русского старчества. – М.: ИС РПЦ, 2006. – 3-33 с.
[l] Филатава А., Ярмусик Э. Рымска-каталіцкая царква на Беларусі // Энцыклапедыя гісторыі Белаусі: У 6 т. Т. 6. – Мн.: БелЭн, 1994, с. 154-158
[li] Филатава А., Ярмусик Э. Рымска-каталіцкая царква на Беларусі // Энцыклапедыя гісторыі Белаусі: У 6 т. Т. 6. – Мн.: БелЭн, 1994, с. 154-158
[lii] Савинский С.Н. История евангельских христиан-баптистов Украины, России, Белоруссии (1867-1917).– СПб.: «Библия для всех», 2003.– 425 с.
[liii] Савинский С.Н. История евангельских христиан-баптистов Украины, России, Белоруссии (1867-1917).– СПб.: «Библия для всех», 2003.– 425 с.
[liv] Савинский С.Н. История евангельских христиан-баптистов Украины, России, Белоруссии (1867-1917).– СПб.: «Библия для всех», 2003.– 425 с.
[lv] Кривонос Ф., свящ. У Бога мёртвых нет. Неизвестные страницы из истории Минской епархии (1917-1939). – Мн.: МФЦП., 2007.–240 с.
[lvi] Гл. напрыклад: Адамушка У. Рэпрэсіі палітычныя // Энцыклапедыя гісторыі Белаусі: У 6 т. Т. 5. – Мн.: БелЭн, 1994, с. 174-175
[lvii] Гл.напрыклад: Туронак Ю.: Трагізм і загадкавасць лёсаў // Наша вера. 1(2) 1996
[lviii] Германовіч Я., кс. Кітай – Сібір – Масква (Успаміны).– СПб.: "Неўскі прасьцяг", 2003.–300 с.
[lix] Рыбаков Б. А. Язычество древних славян. – М.: Издательство "Наука", 1981 г.
[lx] Повесть временных лет // Полное собрание русских летописей (ПСРЛ). – Т. 1: Лаврентьевская летопись. – Ленинград, 1926 – 1928. – VIII с. – 579 стлб.
[lxi] Пасланне да галатаў 2: 7 – 10.
[lxii] Хрысціянская дэмакратыя ў Беларусі / Пад. Рэд. М. Арцюхова. – Мн., 2004.
[lxiii] Тамсама.
[lxiv] Палюшкевіч Ф., кс. Мучанікі другой сусветнай вайны // Наша вера. – 2004. – № 2 (28).
[lxv] Тут аўтар, нажаль не можа спаслацца на канкрэтныя дакументы, аднак мае вусныя сведчанні, пачутыя ад людзей адпаведных прафесій. Пры чым гэтыя людзі былі камуністычных і атэістычных поглядаў і наўрад маглі быць зацікаўленыя ў фальшывым сведчанні на рэжым.
[lxvi] Ізноўку ж мусім спаслацца на вусныя сведчанні тых людзей, якія выкарыстоўвалі азначаныя кнігі для хатняга разбору Слова. Цікава, што Гасподзь некаторых людзей прывёў да веры нават праз самі творы Л.Таксіля "Забаўная Біблія" і "Забаўнае Евангельле", а не толькі праз урыўкі сапраўднага тэксту, якія ўтрымліваліся ў савецкіх выданнях.